ISSN 0234-1387

# крыніца

ВАЛЯНЦІНА ШЫРКОЎСКАЯ:
у камсамоле — усе на роўных!

ІГАР ГУРЫНОВІЧ:
не пакідаю футбол




АГАТА КРЫСЦІ:
хто ўкраў брыльянты?

ДЖЫМ МОРЫСАН:
што яны зрабілі з зямлёю?

3
1988

**Анатоль ЖУК**

У жывую крыніцу мінулага я паглыбляю сваю памяць. Усё далей і далей, туды, дзе кожны ранак быў пачаткам вялікага шчасця і адкрыцця...

Дзе слёзы і смех раздзяляла толькі адно імгненне, у якім не было і не магло быць месца адчаю...

Дзе праўда і хлусня ніколі не маглі перакінуць адзін да аднаго масткі...

Дзе пільнае пытанне «а што за тым лесам!..» ні на хвіліну не пакідала ў спакоі...

Дзе сябар быў сапраўдны і абавязкова назаўсёды...

Дзе гучалі песні матулі...

Дзе на сонцы плям не было...

Паглыбляючыся ў крыніцу свайго мінулага, я ўспамінаю сваіх родных: сваю маці і свайго бацьку, іх добрыя сумныя твары, іх заўсёды, ледзь-ледзь,— калі яны ўглядаліся ў нас, дзяцей,— трывожныя вочы... Я ўспамінаю іх рукі...

І яшчэ многіх я ўспамінаю, вельмі многіх, якія заўсёды былі для мяне тым..., што ніколі не дазваляла мне звяртацца да іх на «ты» ці проста так падысці і паляпаць іх па плячы...

Паглыбляючыся ў гэтую крыніцу ўсё часцей, я ніколі не пытаюся ў сябе, навошта я тое раблю. Бо знаю адказ, знаю дакладна: каб паспрабаваць зразумець свой час..., зразумець людзей, з якімі жыву..., зразумець сябе... Каб добрым было маё сэрца... Каб не пакінула мяне любоў...

І няхай усё гэта не «новае», не «арыгінальнае», як часта любім мы гаварыць з той ці іншай нагоды. Але хіба любові і дабраце патрэбны нейкія там вымярэнні! Яны — Любоў і Дабрата! Яны — тое, на чым свет стаіць...

Значыць, ісціна ў тым, што ты ёсць — мая крыніца мінулага, што, паглыбляючыся ў цябе, я па-ранейшаму жыву і верую...

Фота Алеся Крыштаповіча

На першай старонцы вокладкі фотаздымак экспаната з выстаўкі мастакоў аб'яднання «Форма». Пра работы маладых мінскіх мастакоў чытайце на старонцы 20.

Фота Алены АДАМЧЫК

ПРАЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# крыніца

№ 3
1988

ШТОМЕСЯЧНЫ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС
ЦК ЛКСМБ
І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Мінск, «Полымя»
Выдаецца са студзеня 1988 года



Выдаецца на рускай
і беларускай мовах

ПІШЫЦЕ:
220007
г. Мінск, ГСП,
вул. Кісялёва, 11

Выдавецтва «Полымя»
Дзяржаўнага камітэта
Беларускай ССР па справах выдавецтваў,
паліграфіі і кніжнага гандлю
Здадзена ў набор 18.01.88.
Падпісана да друку 23.02.88.
АТ 06104.
Фармат 60×90 1/8.
Афсетны друк.
Ум.-друк. арк. 6.
Ум. фарб.-адб. 18.
Ул.-выд. арк. 8,7.
Зак. 743.
Тыраж 15 000 экз.
Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга
друкарня выдавецтва
ЦК КП Беларусі
Адрас: 220041, г. Мінск,
Ленінскі праспект, 79

## ШТО ТАКОЕ ДОБРА І ШТО ТАКОЕ КЕПСКА!

Мне 17 гадоў, хутка 18 — і ў армію. Я скончыў школу, паступіў у інстытут. Жыву ў Чыжоўцы. Гэта вам, напэўна, нешта гаворыць. Слухаю цяжкі «металічны» рок і кручуся ў кампаніях, як многія кажуць, благіх. Але гэта пакуль што ўступ.

Цяпер шмат гавораць уголас пра тое, пра што раней шапталіся. У тым ліку і пра «каралёў» і «каралеў» дыскатэк, якія кіруюць балем з дапамогаю кулака, трымаюць усіх у паслушэнстве. Пра гэта я хачу напісаць. Так, цяпер дыскатэк хапае, але на іх пастаянна ходзіць толькі палова, а то і трэць усіх жадаючых, і не таму, што не могуць трапіць — могуць, але... баяцца. І менавіта вось з-за такіх «каралеў» і «каралёў». А што робіцца на дыскатэках у ДК аўтазавода, камвольнага камбіната, пры кінатэатры «Піянер», у кафэ «Паўднёвы Захад»? Чаму там пануюць «асноўныя» і «каралі» — людзі жорсткія, чэрствыя, грубыя (у іх заўсёды знойдуцца знаёмыя з месцаў «не такіх аддаленых»), а часта ў гонары на дыскатэках людзі, якія ўчынілі не адно злачынства. Іх паважаюць, таму што баяцца. Я не крычу: «Дзе ж міліцыя?» — таму што даўно расчараваўся ў ёй. На кожнай дыскатэцы ёсць свая «мафія» — чалавек 20—30—40,— і калі ўжо ім нехта не спадабаўся... (я яму не зайздрошчу!). А калі каму-небудзь спадабалася якаясьці дзяўчына, тады кажуць: «Сёння пойдзеш са мною». І яе лёс ужо вырашаны. Вельмі часта пасля гэтага здараецца групавое згвалтаванне. Можна прыводзіць яшчэ шмат прыкладаў, але я буду сціслы. Такое адбываецца на большасці дыскатэк. Вы можаце сказаць: «Не хадзі на дыскатэку і ўсё будзе добра». Але, па-першае, усё роўна раз-два сходзіш, хоць бы выпадкова (падумаеш: а раптам пранясе!), па-другое, наколькі я ведаю, не ўсе хочуць цярпець такое і ходзяць туды прынцыпова, але кулакамі яны нічога не могуць давесці. Па-трэцяе, і гэта самае галоўнае — гэтыя норавы пануюць багата ў якіх дварах і раёнах. Нікуды ад таго не дзенешся. Сам магу свабодна хадзіць на розныя дыскатэкі, знаёмы з многімі «каралямі», можна сказаць, нават у добрых з імі адносінах. Вы можаце запытацца: «Чаму ж я напісаў гэты ліст?» Адкажу: «Хоць я і займаўся не заўсёды прыгожымі справамі (біўся, іншы раз выпіваў), але не хачу больш так жыць. Калі такое жаданне з'явілася толькі ў мяне аднаго, то мая спроба выбрацца з усяго гэтага, нешта змяніць — нічога нявартая. А як змяніць свядомасць усіх — не ведаю. Таму пішу ліст, спадзеючыся, што яго пачытаюць іншыя. Хочацца, каб яны задумаліся. Я ж такі, як і яны.

**Станіслаў МЯЖЭВІЧ**

Мінск



## ХТО ВІНАВАТЫ!

Нядаўна зайшоў у кнігарню, размешчаную ў падземным пераходзе каля плошчы Перамогі ў Мінску. Як заўсёды — чарга. Але вось стэнд і паліцы, дзе месцяцца кнігі на беларускай мове, не прыцягваюць нічыёй увагі. Бяру адну кнігу, другую: багатыя пераплёты, раскошныя ілюстрацыі, цісненне золатам. Дый што ні аўтар, то імя: народны пісьменнік, лаўрэат прэміі, а кнігі, аказваецца, ніхто не бярэ. Але, ёсць погляд, што вінаватая ў гэтым нібыта беларуская мова. І нігілістычнае стаўленне да яе нейкай часткі чытачоў. Ва ўсякім разе знаёмыя мне пісьменнікі так тлумачаць становішча. Толькі мне падумалася, што калі б побач з завалямі «народных» і лаўрэатаў з'явіўся б любы, сціпла аформлены томік няўвенчанага лаўрамі пры жыцці Караткевіча, чарга ўмомант перамясцілася б ад кніжак на рускай мове да яго.

Так што ўся справа, па-мойму, зусім не ў мове, а ў тым, што многія нашыя масцітыя пісьменнікі ніяк не могуць злезці з любімага канька — апісання свайго басаногага маленства і розных гісторый, ад якіх ні горача, ні халодна. Бярэш у рукі кнігу якога-небудзь паэта, а там страсці паненкі дзевятнаццатага стагоддзя. Нібыта няма побач календара, нібыта не пісаліся і ў сямідзесятыя гады крывёю сэрца кнігі і вершы, якія выходзяць сёння на авансцэну вялікай літаратуры. А нашы жывыя класікі пелі асанну ды цешыліся ўзнагародамі, вось і страцілі давер чытачоў. Быкаў, Адамовіч, Караткевіч... Ці ж не занадта мала? Вось пра што я падумаў, выходзячы з кнігарні.

**С. НЕКРАШЭВІЧ,**
студэнт

## ЗНОЎ «АХОЎНІКІ»!

Перад Новым годам Рыгор Барадулін, даючы інтэрв'ю папулярнай вячэрняй тэлепраграме, горка наракаў на тое, што летась здарыліся дзве падзеі, вельмі змрочныя для інтэлектуальнага жыцця нашай рэспублікі, якія атрымалі негатыўны рэзананс на старонках цэнтральнага друку. Ён меў на ўвазе свістаплясну вакол імені мастака Шагала і непавагу да памяці пісьменніка Сіманава. Поўнасцю падзяляю пункт гледжання Барадуліна — было сорамна. Бо наша рэспубліка заўсёды славілася дабрынёй, разуменнем, інтэрнацыяналізмам, вельмі вобразна сказаў паэт Бураўкін пра тое, што «яе завуць сястрою мілай». І раптам такая коснасць, такая абмежаванасць... У Маскве людзі стаяць гадзінамі, каб трапіць на Шагалаву выстаўку, а ў Віцебску і Мінску ідуць баталіі: лічыць ці не лічыць Шагала добрым мастаком. І не мастакі ж спрачаюцца, не мастацтвазнаўцы, а людзі, далёкія ад мастацтва, якія нават не дужа ясна ўяўляюць сабе прадмет спрэчкі. Але ж незалежна ад таго, што лічыць той ці іншы, як сказаў Васіль Быкаў, «аўтар філасофскіх навук», сусветна прызнаны мастак такім і застаецца. А вось мы ўсе па волі няпрошаных «ахоўнікаў» засталіся абдзеленыя.

**В. НІКІЦЕНКА**



# ЛЮСТРАНАЯ ЗАЛА



## А ШТО ПА СУТНАСЦІ?

Вось ужо месяц працуем ва ўмовах самафінансавання, гасразліку, самаакупнасці. Гучыць, вядома, самавіта. Толькі атрымліваецца нешта накшталт дзяржпрыёмкі, пра якую гаварылі вельмі шмат, але маем пакуль што не надта вялікі нік. Па-мойму, мы ніяк не можам адмовіцца ад састарэлых стэрэатыпаў, і таму не хапае рашучасці адмовіцца ад бюракратычных структур тыпу розных упраўленняў і міністэрстваў. А пакуль яны існуюць, то і ўлада (маю на ўвазе эканамічныя рычагі) у іх руках. І выходзіць, што той, хто плаціць, той заказвае і музыку. Нашаму цэху спусцілі план платных паслуг насельніцтву. Мы — рамонтнікі. Можам нагачыць пілу, зрабіць якую-небудзь утулку да дачнага электраматора і г. д. Але як мы знойдзем кліента? Па базары, ці што, будзем бегаць за ім? А ён не ведае пра наша існаванне. Ды калі і даведаецца, дык у тысячу разоў працэсей вырашыць пытанне, не звязваючыся з заводам: патрэбна мноства ўзгадненняў і подпісаў. Такая ж карціна і па іншых пытаннях. Карацей кажучы, мне здаецца, што пад новымі шыльдамі працягваецца старое.

**Дз. КРЫЛОВІЧ,**
фрэзероўшчык

## СПЫНІЦЦА, АЗІРНУЦЦА...

Па-мойму, ёсць тэмы, пра якія нават дактары філасофскіх навук павінны гаварыць вельмі асцярожна, перш за ўсё добра падумаўшы. Скажам, пра розныя аспекты, звязаныя з культам асобы Сталіна. Адна справа — меркаваць пра тэндэнцыі і матывы, якімі кіраваліся ў сваіх учынках розныя асобы часоў Грунвальдскай бітвы, іншая — гаварыць пра 1930-я і 1940-я гады. Мёртвым — ні холадна, ні горача, а сталінскі перыяд вельмі моцна крываточыць у сэрцах жывых. Вядома, пісаць трэба, аналізаваць трэба. Нават вельмі! Толькі не холадна, не абстрагавана, не строіць з сябе Дыягена ў бочцы, якому самае галоўнае, каб не засцілі сонца. Трэба лічыцца з болем і памяццю жывых. Асабліва, калі сам не пераўжыў гэта ў сабе і не маеш пра гэта ніякага ўяўлення, апроч як з кніжак ды з кіно. Давялося мне паслухаць мінскага філосафа Боўша. Ён нібыта і выступае за гістарычную справядлівасць і мяркуе так, што не адзін Сталін вінаваты, што яго акружэнне нясе адказнасць. Усё гэта зразумела і без доктара філасофскіх навук. Любы школьнік разумее, што адзін у полі не воін. Розніца толькі ў тым, што пры Леніне органамі ЧК кіраваў Дзяржынскі, а пры Сталіне — Берыя. Пры Леніне ідэалогіяй займаўся Луначарскі, а пры Сталіне — Жданаў. Так што, Сталін добра ведаў, каго набіраць, хто хуткі на расправу. Але размова ўсё ж пра іншае. Калі мяне ні за што ні пра што ў тры гадзіны ночы забралі ў турму (было гэта летам 1937 года), калі следчы біў і не даваў спаць, патрабуючы фантастычных прызнанняў, і калі я ўжо развітаўся з жыццём, раптам сказалі: «На выхад з рэчамі»,— і адпусцілі дамоў, дык гэта, вядома, было незразумелай удачаю (у тыя гады чаго толькі не здаралася). У турме з мяне ўзялі падпіску, каб я трымаў язык за зубамі, у райкоме партыі вярнулі партбілет. Я маўчаў і на фронце, і пасля. Дый цяпер не надта гаваркі. Па-першае, таму, што з нашай камеры, дзе нас, 58-й «стацці», было чалавек дзвесце, у жывых засталося некалькі, па-другое, балюча пра гэта ўспамінаць. Таму што нічога талковага сказаць не магу. Бо следчы, які мяне біў, і сам паклаў праз месяц галаву ў тых самых засценках, і біў ён мяне, напэўна, не ад жорсткасці (бо ж ведаў выдатна праўду), а ад таго, што побач з ім сядзеў такі ж самы, як і ён, і назіраў... Страшныя часы. Выдатна, што маладыя ведаюць пра іх толькі з кніг. Але філосафам хачу сказаць: ваша шчасце, што вы нарадзіліся пазней, бо не мінула б і вас горкая доля пабояў, здзекаў і смерці. І не такія, як кажуць, знішчылі. Таму, мяркуючы пра часы культу асобы, пастарайцеся прапусціць праз сябе боль нявінных людзей, іх сем'яў, смяротную тугу перад невядомасцю і расстрэлам. Вось тады і бярыце на сябе смеласць разглядаць эпоху. Атрымаецца гэта па-чалавечы. Мне здаецца, што ў гэтым пытанні неабходныя і сэрца і розум. Наўрад ці чалавек, якому совалі іголкі пад пазногці, будзе спакойна аналізаваць, хто больш вінаваты: Сталін ці Яжоў. Без аднаго не было б і другога — і наадварот. Я не заклікаю да аднамернасці. Наадварот. Я за тое, каб той, хто бярэцца за гэтую тэму, разумеў, што для нас гэта не проста абстрактная «філасофія».

**І. ІЗОТАЎ,**
член партыі з 1931 года

## САРОМЕЦЦА РОДНАГА...

Калі я чую ад сваіх інстытуцкіх сяброў раздражнёныя словы пра тое, што сёння ў беларускай літаратуры «няма чаго пачытаць», мне робіцца шкада іх. Як жа збяднілі сябе гэтыя людзі, не знаёмыя з творчасцю Міхася Стральцова, Вячаслава Адамчыка, Віктара Казько, Алеся Разанава... Якія пласты жыцця, мастацтва адкрылі б яны для сябе! І рэкамендавала б я ім зрабіць гэта на беларускай мове. Якія тонкія нюансы чалавечых перажыванняў здольная перадаць наша цудоўная мова! Засмучае мяне стаўленне да яе многіх маіх равеснікаў, як, зрэшты, і людзей старэйшых. Вось літаральна ўчора, у ЦУМе, звярнуўся да мяне нейкі хлопец. Бачылі б вы, які здзіўлены быў у яго твар, калі ён пачуў маю беларускую мову! Нібыта пачуў у Мінску суахілі... Думаю, што такое не магло б здарыцца ні ў Таліне, ні ў Тбілісі. А ў нас чамусьці саромеюцца свайго, роднага...

**І. ШАПЯЛЕВІЧ,**
студэнтка

Леанід ЕКЕЛЬ

# «ЛЮБЛЮ ЛЮДЗЕЙ ШЧЫРЫХ»

**— Не верце тым, хто сцвярджае, што не можа жыць без камсамола. Гэтыя якраз і могуць. А кажуць так хутчэй за ўсё таму, што камсамол ім, як выратавальны круг для тапельцаў. Выпусціш — і пайшоў на дно...**

**А што загадаеце рабіць, калі з райкомам партыі адносіны не склаліся, усур'ёз цябе ніхто не ўспрымае, веды парастрэсеныя і як спецыяліст ты ўжо нічога не варты! Вышэйшай камсамольскай інстанцыі зазвычай не да цябе. Вось і выкручвайся як ведаеш. А тут гады бяруць сваё: жыццё ж адно адпушчана...**

**Досыць змрочная карціна, праўда! Але ёсць такое ў жыцці, і нікуды ад яго не дзенешся.**

**У мяне, на шчасце, з райкомам партыі поўнае ўзаемаразуменне. Калі я расказваю пра гэта сваім калегам, не вераць, лічаць, што я жаданае выдаю за рэальнасць. Але гэта — чыстая праўда.**

**Што ж датычыць усяго астатняга, дык я ж аптымістка. Да таго ж цвёрда ведаю: раней ці пазней, усё роўна вярнуся да агранаміі. Вось ужо сапраўды без чаго не ўяўляю свайго жыцця...**

**Слухаю Валянціну Шыркоўскую, першага сакратара Стаўбцоўскага райкома камсамола, і лаўлю сябе на думцы, што размова з ёю радасная мне. Што мне прыемна сачыць за яе тварам — адкрытым, жывым, непасрэдным, без ценю насцярожанасці і падазронасці — а раптам скажу не тое, не так журналіст зразумее, не пра тое напіша...**

«Люблю людзей шчырых»,— гэта словы Шыркоўскай. Чалавек няшчыры наўрад ці скажа такое.

Сумна пра гэта гаварыць, але ў шчырых людзях мы адчуваем такую ж вострую патрэбу і неабходнасць, як і ў галоснасці. Зрэшты, адно ад другога неаддзельна.

Жанчына ў камсамоле... Недарэчна, але факт, многія рабіліся наменклатурнымі работнікамі па волі цыркуляра, спушчанага з верхатуры. Маўляў, неабходны такі вось працэнт жанчын. І кропка. І, здаралася, цыркуляр засланяў сабою жывых людзей. Прынамсі рэдка, ой як рэдка пыталіся ў будучага камсамольскага важака, а ці не перакрэсліць гэтая кіраўнічая пасада яе асабістыя планы, ці не пазбавіць яна нармальных чалавечых радасцей і шчасця.

Я не ведаю прыкладу, калі б на субяседаванні ў вялікіх кабінетах камсамольскі работнік ясна ўсвядоміў, што яго лёс неабыякавы людзям, паўнамоцным высоўваць кадры, ці, як прынята казаць, засоўваць. Праявіш сябе ў справе, дакажаш, што ты — асоба, што табе па сілах і большая адказнасць,— і не трэба ламаць галаву, што будзе з табою праз год ці два. Не атрымалася — на цуд не разлічвай: шукай іншую работу.

Проста і ясна. Але калі б усё было так, а то ж далей гаварыльні пра «рассакрэчванне» рэзерву кадраў справа не зрушылася. Вось іншы раз і выходзіць: выціснуць з камсамольскага работніка ўсе сокі, а потым і кінуць на волю лёсу. Маўляў, для камсамола ты ўжо стары, адпаведнай пасады па тваёй спецыяльнасці няма, так што рашай сам, як быць далей.

Моцны пол, калі, вядома, няўдача не аслабіць, не ператворыць у панікёра, і ў такой сітуацыі знойдзе выйсце. Ну а жанчыны... З тымі ўсё нашмат больш складана.

Памятаю, гадоў дзесяць назад, будучы ў камандзіроўцы, зайшоў да першага сакратара райкома камсамола. Знаёмыя мы былі даўно: ведаў я камсамольскага важака раёна ў яе зорны час, ведаў і горшыя часы...

— Пытаешся, як жыву? А як у прыпеўках: «Валасы выпалі, зубы тырчком. Сяджу, як дурніца, з камсамольскім значком».— І засмяялася. А смех жа горкі...

Быў час, калі райком грымеў на ўсю вобласць, лічыўся адным з лепшых і ў рэспубліцы. Але вось выйшла замуж... Праз нейкія паўгода разышліся маладыя: сямейнае жыццё не церпіць каманднага стылю. Тым больш, калі ідзе ён ад «слабага» полу.

І ўсё пайшло наперакос. «Заплямілася» анкета сакратара райкома — па-іншаму сталі глядзець і на яе справы. Калі раней на нешта заплюшчвалі вочы, дык цяпер пра гэта гаварылася ў першую чаргу. Затое перасталі заўважаць добрае, тое, што яшчэ зусім нядаўна ставілася ў прыклад іншым.

Вось такія дзіўныя метамарфозы. А, уласна кажучы, што змянілася ў характары гэтага няўрымслівага, пасапраўднаму адданага справе, сімпатычнага чалавека? Па-іншаму пачала яна ставіцца да справы, работнікаў райкома, камсамольцаў? Не, гэтага не скажаш. Раскрыла ўрэшце свой сапраўдны твар, які да часу дбайна маскіравала? Лухта. Тады што? Так, не зладзілася асабістае жыццё, з'явіўся прыкры радок у аўтабіяграфіі — «была замужам». Але гэта ж сапраўды асабістая справа. І, трэба думаць, яна ў аднолькавай меры з'яўляецца такой як для першага сакратара, так і для дзяўчынкі з сектара ўліку. Асабістая — і гэтым сказана ўсё.

Адкуль жа такая няміласць? Адкрытае жаданне пазбавіцца ад учора яшчэ выдатнага, а сёння ўжо нікуды не вартага работніка. Вось, бадай, той выпадак, калі паперка, якая дае самыя сціплыя, агульныя звесткі пра чалавека, робіцца вышэйшай і больш значнай за самога чалавека і ўрэшце перамагае яго. Выходзіць, што асоба на пасадзе служыць перш за ўсё анкеце, характарыстыцы і ўсялякай іншай папяровай лухце, а не справе.

Не ўсё проста, не ўсё адназначна там, дзе апарат узначальвае жанчына. (Слова якое прыдумалі — апарат. Халоднае. Бяздушнае. Металічнае. Скрозь яно з шасцяронак, болцікаў, гаек. І, трэба думаць, людзі тут выконваюць ролю тых самых гаек ды балтоў...) Можна з разуменнем адвесці вочы, калі пасля святочнага ці выхаднога дня жанчына-кіраўнік з асаблівай лютасцю абвальвае свой начальніцкі гнеў на падначаленых. Маўляў, не яна гэта крычыць, а яе неўладкаванасць, туга па ўсім тым, што не збылося, асабліва невыносная, калі застаешся адзін на адзін з невясёлымі думкамі ў кватэрнай цішы.

Але можна зразумець і даравань адной. Ну, а калі гэта сістэма? Калі па-іншаму ўжо быць не можа? Тады як? Цярпець і спадзявацца, што раней ці пазней у сілу ўступіць славуты працэнт жаночай праслойкі і «шэфіню» прасунуць па службовай лесвіцы? Напэўна, калі-небудзь гэта здарыцца. Толькі ад заган кіраўніка пакутуе ўжо справа. І людзі, вядома...

Валянціна, на шчасце, ад усяго гэтага далёкая. І жыве яна не ў стандартнай аднапакаёвай кватэры ці, горш таго, у інтэрнаце ПМК або іншай багатай арганізацыі, а пад дахам бацькоўскага дому. Клопату хатняга хапае — паспявай толькі круціцца. Так што ў святочныя і выхадныя дні ёй



пакутаваць няма калі. Але для сябе вырашыла цвёрда: змяніцца сямейнае становішча — будзе прасіць, каб вызвалілі ад пасады. Сумленне не дазволіць не працаваць, а імітаваць бурную дзейнасць, дужа далёкую ад справы, не ў яе характары.

Вось, бадай, гэтая шчырая, нейкая вясёлая незалежнасць Шыркоўскай, адсутнасць і найменшай трывогі за кар'еру мне больш за ўсё даспадобы. Упэўнены, такі чалавек не здольны стаць халодным функцыянерам, кан'юнктуршчыкам і прыстасаванцам. Менавіта пра такіх людзей кажуць, што служаць яны не з-за страху, а па загадзе душы...

Лёс не песціў Шыркоўскую. Але Валянціна якраз і не з тых людзей, хто гатовы пакорліва падпарадкоўвацца яго волі. Дома ўгаворвалі: навошта табе быць аграномам, у нас іх у родзе — аніводнага, а вось настаўнік — гэта добра... А яна заплюшчыць вочы і бачыць сябе сярод хлебнага поля. Калыхаюцца пад ветрам каласы, сінеюць васількі на ўзбочынах сцяжыны. Што трэба будзе насіць гумавыя боты па калені, што лірычны вобраз агранома ўмомант разбурыць суровая проза жыцця, пра гэта тады не думалася.

Калі здавала дзяржэкзамены ў Мар'інагорскім саўгасе-тэхнікуме, абвалілася на яе гора: загінула мама... Размеркавалі Валянціну ў калгас імя Леніна — гэта за пятнаццаць кіламетраў ад Стаўбцоў. Уставала ў пяць раніцы, бягом на аўтастанцыю (балазе ад яе да пасёлка Новы Свержань, дзе яна жыве, паўгадзіны хады).

Дамоў вярталася позна, а там — спраў безліч: і клопат пра малодшага брата, і мыццё, і гатаванне. І так дзень пры дні. Неяк нядзельнаю раніцай ехала яна на працу. А насустрач людзі — радасныя, у выхадных касцюмах. Крыўда разабрала: «Усе людзі як людзі, а ў мяне — гэтая праклятая работа!..» Але гэта так, пагарачыўшыся. Ніколі яна не была праклятай, дый наўрад ці калі-небудзь будзе...

Ей заўсёды шанцавала на добрых людзей. У той самы дзень старшыня калгаса Леанід Ігнатавіч Сіліцкі скажа ёй:

— Вось што, Валя... Больш ты не выходзь на працу ў нядзелю. Ідзі, адпачывай...

І зразумее тады васемнаццацігадовы аграном, што ад яе вялікага, асабістага гора баліць сэрца не толькі ў яе...

Як ёй цяжка ні было, паступіла на завочнае аддзяленне ў Горацкую сельгасакадэмію. Цяпер дзівіцца: адкуль толькі сілы браліся? Не трохжыльная ж яна...

У калгасе маладога агранома выбралі сакратаром камсамольскай арганізацыі. Лічылася арганізацыя лепшаю ў раёне: адпачынак на ўзроўні. Умела Валянціна закруціць справу. А раз камсамол здолеў арганізаваць адпачынак, дык, значыць, чорта ўзяў за рогі. Якія тут могуць быць прэтэнзіі? Гэта цяпер яна цудоўна разумее, што не такім спосабам трэба заваёўваць аўтарытэт у камсамольцаў. А камсамолу — тым больш. Што белымі ніткамі не прышыеш камсамол да трохкутніка: адміністрацыя — партком — прафсаюз...

І зноў выбралі яе камсамольскім важаком. У самым праўленні было некалькі камсамольцаў. Падключылі пяць ці шэсць маленькіх арганізацый. І вось на сходзе (вядома, з якою — горш няма куды), яна пачула ад другога сакратара райкома камсамола: «На прыкладзе вашай арганізацыі можна праводзіць семінар, каб паказаць, як не трэба весці камсамольскую работу». Мала таго, што гэта было несправядлівасцю, дык яшчэ і сказана бяздушна, адчужана. І засталася ў памяці зарубка...

Калі пярэйдзе Валянціна ў райком, згадае гэтыя словы неаднойчы. Колькі разоў, бывала, даводзілася чакаць камсамольцаў на сход і гадзіну, і дзве... Зрабіць разнос? Каму? Сакратару, які, вядома, папярэдзіў кожнага і, магчыма, няраз. Але што зробіш: час гарачы. А ў вёсцы ён гарачы заўсёды, нават у самыя лютыя маразы... Камсамольцам, што прыйшлі на сход? Маўляў, такія вы рассякія, і сабрацца толкам не ўмееце. Але ж пры чым тут яны? Яны прыйшлі.

— Ну што, хлопцы, дзяўчаты, прыязджаць да вас на сход наступным разам?

— Вядома, прыязджаць!

— Тады дамовімся, ідзеш сам — вядзі суседа.

І ўся размова. Аказваецца, такія вось словы дзейнічаюць на людзей значна больш за надакучлівыя павучанні ці пустаслоўныя заклікі да сумлення, абавязку.

А бывала, не тую плынь выбіраў сход ці ішоў — як мокрае гарыць. Ну і бяды! «Давайце весці размову шчыра,— прапануе камсамольцам сакратар райкома.— Без трыбуны, без агляддкі».— «Як зразумееш нашы словы?» — «Правільна зразумею, запэўніваю вас».

Калі Шыркоўская ў пошуках хлопцаў і дзяўчат з КМК, наматаўшыся па палях, нарэшце знаходзіць іх, яна не махне па-начальніцку рукой, маўляў, глушы матор — сакратар гаварыць будзе. Дачакаецца, пакуль тыя, падлавіўшы момант, не спыняцца самі. Ці здарыцца паломка. Тут заадно і паназірае, наколькі ўмела і аператыўна маладыя механізатары ліквідуюць непаладку. А тым часам і пагаворыць, праінфармуе камсамольцаў, на якім месцы ў раённым сацспаборніцтве іх КМК.

І рассталіся сябрамі. З павагаю да кожнага між сабою, да справы кожнага.

Ну, і што тут асаблівага? Асаблівага якраз і нічога. Толькі ненатуральна цяжка прабівае сабе дарогу ў жыцці такое вось натуральнае стаўленне да людзей. Праз казёншчыну, чыноўную пыхлівасць, тупасць. Праз прымітыўнае мысленне: маўляў, варта павысіць голас, зрабіць разнос — і справа закруціцца.

Адбіўшы чалавеку рукі, нельга прымусіць яго працаваць. А калі адбіць душу?..

Той, хто наведвае Петрадварэц, не можа не любавацца славутым фантанам «Самсон, які раздзірае пашчу льва». У залаты фонд сусветнай культуры ўвайшлі карціны Рубенса «Самсон і леў», Ван Дэйка «Самсон і Даліла», Мантэньі (таксама «Самсон і Даліла») і іншыя творы мастацтва. Да вобраза гэтага біблейскага асілка звярнуўся і Алесь Гарун у вершы «Самсон», апублікаваным у газеце «Беларусь» 28 лютага 1920 года.

Подзвігі Самсона, паводле біблейскіх паданняў, звязаны з эпохай войнаў паміж ізраільцянамі і філісцімлянамі. Ён адзін мог забіць цэлую тысячу ворагаў, а сам заставаўся непераможным да таго часу, пакуль на галаве ў яго зберагаліся валасы. Быў ён вялікім аматарам жанчын, што з'яўлялася прычынай разнастайных прыгод. (Дарэчы, і з ільвом ён сустрэўся, ідучы на спатканне са сваёй нявестай.) Але аднойчы ён выдаў сакрэт сваёй сілы чарговай палюбоўніцы, філісцімлянцы Даліле. У час сну яго астрыглі, звязалі ланцугамі, вылупілі вочы і аддалі на здзек натоўпу, а затым кінулі ў падзямелле. Неяк у час свята ў вялікім храме філісцімляне прывялі Самсона і прымусілі забаўляць іх ігрой на арфе, каб гэтым яго яшчэ больш зняважыць і зноў цешыцца сваёй перамогай. Але ў Самсона ўжо адраслі валасы, бог дараваў яму віну, а сам палоннік з малітвай і верай магутнымі рукамі разбурыў слупы, на якія апіраўся храм, пахаваўшы сябе і тры тысячы філісцімлян.

У трактоўцы Алеся Гаруна Самсон — гэта ўсяго толькі палоннік і ахвяра здзекаў. За што ён пакутаваў — для аўтара не мае значэння. Для яго важна тое, што Самсон адрадзіўся духоўна, паверыў у свае сілы і, напружыўшы іх, не пашкадаваў сябе дзеля знішчэння ворагаў, якія так саманадзейна святкавалі перамогу.

Тут выразна бачыцца глыбінны сэнс твора. Народ, які паверыць у свае сілы і не пашкадуе ахвяр, не будзе цярпець зняваг. А жыццё ў няволі не мае сэнсу. Пакорлівасці ж не можа быць апраўдання. Вось так біблейскія матывы і вобразы садзейнічаюць пашырэнню ідэйна-тэматычных рамак паэзіі Алеся Гаруна, увасабленню патрыятычных ідэалаў аўтара.

Уладзімір КАЗБЯРУК



Мал. Аляксандра ЛЬДОКАВА

Алесь ГАРУН

# Самсон

«Самсон! Гаворыш ты: адзін твой бог праўдзівы,
І толькі ён адзін у сіле ўсё зрабіць.
Няхай — скажы яму — свае пакажа дзівы:
Хай ўзрок пагаслы твой спрабуе аджывіць,
Хай волю дасць табе і зверне моц былую,
З якою ты, бы леў, губіў філісцімлян.
Парві ты свой ланцуг, як зáвязку гнілую,
Тады мы ўверымся, што бог твой не балван,
Якога ты сабе сярод нябёс уроіў,
Катораму палац ў сваёй душы састроіў
І ніцма прад чыім ляжыць твой розум тронам...»
Так над Самсонам
Смяялася гурба ў Баалавай святыні,
А ён між іх стаяў, не чуючы іх слоў.
Здавалася яму, што ён ізноў ў пустыні
Сярод Ізраілю радзімага шатроў.
Так... Раніца яшчэ. Пакуль расой халоднай
Насяклы з вечару пясок не грэе ног,
Яшчэ ў глыбокім сне вялізны стан паходны
Народу божага, што столькі меў дарог.—
Самсон не спіць ужо. Адзін з ўсяго народу
Тварца свайго ён звык штораніцы вітаць
І, дня чакаючы, звярнуўшыся да ўсходу,
Малітвы шчырыя сыноўскія шаптаць.
Бялее рыхла ўсход. Вось зараз ў сонца шаце
Найвышні з'явіцца у дзенным маястаце
І ўсё благаславіць: зямлю, і неба, й воды,
І рыбаў, і зявроў, і птаства розных роды,
І гадаў-попаўзняў, і рабакоў, й травіцу,
Й расліны ўсякія, дзе толькі могуць быць,
Паветра ціхае, і хмары, й навальніцу,
І гэты свой народ,— усё благаславіць.
Вось небасхіл прад ім ружовай паволокай
Пакрыўся, спакваля зьмяніўшы колер свой...
І раптам баграю, ў кароткім мгненні вока,
Заліўся ўвесь усход. Ў кароне залатой
Ў праменнях сонечных ўласціцель паказаўся,
І з божай ласкі дзень людзям і ўсім заняўся.
Самсон мяняўся ўвесь ў набожным паднясенні,
І твар яго мужскі за небам развідняў.
«Мой бог, мой пан, мой свет!» — шаптаў ён ў патрасенні
І рукі замест крыл душы сваёй падняў...
Аж голас чуець стуль: «Прыйдзі, мой сын бяздольны!
Ты адпакутаваў за грэх свой мімавольны».
З тым моц даўнейшую ў сабе пачуў Самсон...
Калі ж блюзнерчыя яго ўзбудзілі крыкі:
«Дапамажы мне, бог, ўсяхмоцны і вялікі!» —
Так пракрычаў ў акропным гневе ён
І путы разарваў звычайным рухам рук —
Упёрся у калоны, пачуўся грукат, стук...
І сцены капішча да грунту патрасліся,
Магілай стаўшыся для тых, што ў ім знайшліся.

1920?



Павел ЯКУБОВІЧ



# ТАКОЕ ФУТБОЛЬНАЕ ЖЫЦЦЁ...

## МЯЧ — У ЦЭНТР

Мы развіталіся, ён моцна паціснуў руку і пайшоў. Высокі, гнуткі, са сваёй непаўторнай — нібы трохі прытанцоўвае — паходкаю. Увечары ён ад'язджаў у Маскву.

— Ведаеш,— сказаў ён,— ніколі не думаў, што можна быць такім адзінокім у горадзе, дзе вырас. Канечне, тут жонка, родныя, брат. Але я не пра гэта. Толькі што зайшоў у «Дынама», развітацца, а там на хаду спыталіся: «Усё ў парадку?.. Узяў білет?» — «У парадку»,— адказаў. Разумею, што ва ўсіх свой клопат, але ніколі не думаў, што так вось адразу буду нікому не патрэбны.

Я глядзеў яму ўслед і ўспамінаў, як гадоў пятнаццаць таму на стадыёне «Працоўныя рэзервы» (цяпер яго няма, у горадабудаўнічым старанні яго паспяшаліся зраўняць з зямлёю) сядзеў побач з Сашам Гурыновічам, які гуляў на той час у юнацкай камандзе краіны. Саша паказаў на худзенькага хлапчука, які жангліраваў мячом:

— Брат мой, Ігарок. Калі ўсё будзе нармальна, выйдзе толк.

Што сказаць? Толк выйшаў, але вось «нармальна» ў Ігара не стала. І хоць ён стаў адным з самых яркіх гульцоў новай хвалі, якая пры Эдуардзе Малафееве прымусіла заўзятараў усяе краіны з захапленнем гаварыць пра колісь палсрэдную мінскую каманду, Гурыновіча ніяк не назавеш абраннікам лёсу. Ён гуляў побач з усімі мацнейшымі і ні ў чым нікому не саступаў. Да яго прыглядаліся трэнеры зборных каманд, і не было адбою ад запрашэнняў з лепшых клубаў краіны.

Але ён заставаўся ў сваім горадзе і быў любімцам заўзятараў.

Заўзятары любяць такіх — што выраслі на вачах і ўвасобілі ў сабе мару многіх пра поспех. Бо як жа прыемна сказаць:

— Як табе гэты хлопец? Ну, той, што ў цэнтры. Гэта Ігар. Мы з ім яшчэ ў двары ганялі...

Калі гульцоў любяць заўзятары — яны гэта адчуваюць. І са скуры лезуць, каб сёння і заўтра згуляць лепш, чым учора.

Калі, вядома, гэта сапраўдныя спартсмены.

А Ігар Гурыновіч менавіта з такіх.

І таму яму на полі ўдавалася ўсё. Самавітыя, схільныя да няспешнага аналізу заўзятары знаходзілі ў ім шчаслівы сплаў працаздольнасці Малафеева і адчайнае смеласці Мустыгіна. Старэйшыя запэўнівалі, што ён «бяжыць» як Хасін, а тыя, хто толькі пачынаў хадзіць на «Дынама», ні з кім яго не параўноўвалі, а проста чакалі ў кожнай гульні, што «Гурык» спраўдзіць чаканні і заб'е.

Але вось аднаго разу кіеўлянін Яўсееў груба спыніў яго імклівы бег бязлітасным прыёмам, які на футбольным жаргоне завецца «накладкаю». Трэба было перадыхнуць пасля тае траўмы, прапусціць некалькі гульняў, але вялікі футбол пазбаўлены сантыментаў. Трэнер сказаў, што пераломy няма, а сінякі ў залік не ідуць.

Трэнеры любяць футбалістаў.

Але яшчэ больш яны любяць, калі склад найграны і не трэба пакутліва раздумваць над перастаноўкамі.

Ігар выйшаў на наступную гульню, нясцерпна балела нага, потым рэнтген паказаў — трэшчына, называлі нейкі мудрагелісты медыцынскі тэрмін, нешта пра стомленасць косці. Што б там ні было, Гурыновіч знік на доўгія месяцы. Яго чакалі, і я добра памятаю званкі заўзятараў, бясконцыя пытанні: калі ён вернецца? Памятаю авацыю, калі ён выйшаў на поле. Ён зноў вярнуўся такі ж, футбаліст, які не баіцца стварaць драматычныя сітуацыі, які нагадвае наканечнік стралы, нацэлены толькі на чужыя вароты.

Але, відаць, дактары чагосьці не прадугледзелі, і ён яшчэ раз паламаў нагу. Потым яшчэ раз...

Увогуле гэта сумная гісторыя. Але мне вельмі хочацца, каб у яе быў добры канец. У леташнім сезоне Ігар моцна гуляў у дублі, але трэнеры так і не змаглі ўпэўніць сябе, што Гурыновіч будзе добры і ў асноўным складзе. І яго звычным месцам стала лаўка запасных. Каманда была супраць, калі Ігар падаў заяву, але трэнеры не сталі ўтрымліваць. Хаця, на мой погляд, яны абавязаны былі даць Ігару яшчэ адзін шанц і адвярнуцца ад тых, хто безапеляцыйна заявіў:

— Гурыновіч ужо не той...

Я думаю, што чалавек з такім характарам, як у Ігара, змог бы яшчэ прынесці карысць сваёй камандзе. Але ён паехаў гуляць за «Лакаматыў».

Няхай гэтыя радкі не будуць успрынятыя як плач па знакамітым колісь форвардзе. Бо спорт такі — у ім неадменна хтосьці пераманае, а хтосьці прайграе. Шкада, што ў спрэчцы з акалічнасцямі пакуль што адыгрываецца Гурыновіч.

Але я цяпер буду крышачку і заўзятарам «Лакаматыва»...

А калі я глядзеў яму ўслед, мне падумалася яшчэ і вось пра што. Гурыновіч быў любімцам не толькі заўзятараў, але і ўсёй каманды. Але чаму ж у бясконцыя бальнічныя дні яго перасталі наведваць тыя, з кім ён так шчасліва пачынаў і адчуваў салодкі дотык лаўраў? Яго наведваў пераважна Юра Курненін. Можа, таму, што і сам прайшоў скрозь усе горны футбольных пакут. Можа, таму, што і сам перажыў горыч адзіноты, холад абыякавых юпітэраў, што ярка свяцілі ў хвіліны трыумфу і гаслі ў тую самую хвіліну, калі хруснула каленная чашачка... Курненіна таксама ніхто не наведваў, апроч Ігара. А ён жа шэсць гадоў быў капітанам каманды.

Такое спартыўнае жыццё? Такая цана славы?

Ды не, напэўна. Паслужлівая памяць падказвае і іншыя прыклады высакароднасці, сапраўднага мужчынскага сяброўства. Але немагчыма адмахнуцца і ад успамінаў пра горкія хвіліны, якія перажылі два футбалісты ў сваёй камандзе.

Мінскае «Дынама» ў гэтым сезоне выходзіць на поле ў рангзе адзінай савецкай каманды, якая працягвае барацьбу ў еўрапейскіх турнірах. Значыць, яна сярод лідэраў, значыць, да яе — асобая ўвага заўзятараў. І ці трэба гаварыць, што ўсе мы вельмі спадзяёмся, на яе добрую гульню і ў першынстве і ў Кубку краіны, і жадаем ёй толькі ўдачы? А таму, ці ўсе зразумеюць мяне, што цяпер,

напярэдадні вялікага сезона і расказаў сумную, зусім не ў патрабаваннях «жанру» гісторыю Ігара Гурыновіча.

А можа, наадварот, зразумеюць. Бо футбол — гэта вялікая і цяжкая праца, гэта жыццё ва ўсіх яго праявах. І, вядома, яшчэ і мудрая гульня, якая кожны раз дапамагае нам сваімі ўрокамі. Рознымі — раднаснымі і тужлівымі.




**Уладзімір АЛЕКСАНДРОВІЧ**

Прайшлі першыя месяцы вашых трэніровак. Поспехі ёсць? Выдатна! Але далейшы прагрэс будзе залежыць ад суадносін нагрузак з вашымі магчымасцямі.

У гэтым нумары гаворка пойдзе пра адзін з галоўных кампанентаў сістэмы атлетызму — неабходнасць строгага рэжыму дня. Вобразна гэта можна ўявіць як дзве шалі вагаў. На адной — эфектыўная трэніроўка, на другой — аднаўленчы працэс плюс стварэнне рэзерву.

**Рэкамендую:**

Спаць трэба не менш як 8—9 гадзін. Трэніроўку заканчвайце не пазней, чым за 1,5—2 гадзіны да сну.

Прыём вітамінізаванай (свежая гародніна і садавіна) і мінералізаванай бялковай ежы мэтазгодна падзяліць на 5—6 разоў. Есці ў пэўны час з інтэрваламі на засваенне. Час ад прыёму ежы да пачатку трэніроўкі — не менш як гадзіна. Гэта звязана з забеспячэннем кровавазвароту стрававальных і трэніровачных працэсаў, якія не павінны супадаць.

Ваш адпачынак павінен быць змястоўны, насычаны — гэта дапаможа зняць фізічныя і псіхалагічныя нагрузкі. Інтэнсіўнасць трэніроўкі ў многім вызначаецца тым, з якім настроем вы да яе прыступаеце.

У кожнага арганізма свае асаблівасці, свая рэакцыя на тое ці іншае ўздзеянне. Пазнавайце сябе. Рэкамендую завесці дзённік самакантролю. Мой асабісты вопыт паказвае, што дзённік дапаможа аналізу паказчыкаў, апроч таго, будзе мабілізоўваць вас на сістэмнасць і пастаяннасць кантролю за станам арганізма.

Кантроль доктара абавязковы! Рэгулярна паказвайцеся доктару, пажадана спартыўнаму. Нават пры выдатным самаадчуванні вы павінны праходзіць медагляд не радзей двух разоў у год.

Памятайце, уменне аднаўляць свой арганізм пасля трэніроўкі вызначае ўзровень майстэрства атлета.

А на заканчэнне — чарговы комплекс практыкаванняў.

**1. Пад'ём тулава з паставы лежачы. Ногі сагнутыя ў каленях. 3 падыходы па 20—25 разоў.**

**2. Пад'ём ног з паставы лежачы. 3 падыходы па 20—25 разоў.**

**3. Пад'ём тулава з паставы седзячы з замацаваннем галёнкаступу. 3 падыходы па 25—30 разоў.**

**4. Пад'ём тулава з паставы седзячы. 3 падыходы па 20—25 разоў.**

**5. Нахілы тулава ў бакі з абцяжарваннем, па чарзе. 3 падыходы па 35—40 разоў.**

**6. Вярчэнне тулава з ломам на плячах. 2 падыходы па 45—50 разоў.**

**Пажадана практыкаванні № 1, 2, 3, 4 выконваць у суперсерыі.**






**Наш комплекс прызначаны як для мужчын, так і жанчын. Займацца ім можна і ў трэніровачнай зале, і дома. Абавязковая строгая дыета. Маю на ўвазе не галаданне, а бялковае харчаванне з абмежаваннем тлушчаў і вугляводаў.**

**Віншуючы нашых чытачак са святам 8 Сакавіка, запрашаю іх у спартыўную залу. Нашы комплексы дапамогуць вам стаць элегантнымі, прыгожымі, здаровымі. У нашай рубрыцы выйдуць спецыяльныя выпускі для жанчын, якія жадаюць займацца атлетызмам.**



**Васіль ДРАГАВЕЦ,**
аспірант
Акадэміі грамадскіх навук
пры ЦК КПСС

# КРОК наперад?

**Пра цяжкі рэнесанс палітычнай культуры**

Дзівішся часам, як мяняюцца нашы ўяўленні аб рэчах і паняццях, здавалася б, зусім пэўных, трывалых, несумненных.

У 70-я гады з'явілася ў камсамоле трывіяльная формула: веды — пераканanні — дзеянні. Чым больш і гучней мы пра гэта гаварылі, тым больш верылі, што ад нашых слоў, быццам ад электрычнага току заводскі канвеер, ажыве, напоўніцца энергіяй руху і ланцужок «веды — перакананні — дзеянні»...

Гэта цяпер мы паразумнелі і з запалам асуджаем лозунгавую палітыку. Але тады, у гады, якія атрымалі цяпер назву застойных, прыгожыя фразы проста ап'янялі нас, выклікалі своеасаблівы шок. Здавалася, чым прыгажэй і званчэй, тым лепей. Псіхалогія часу нараджала свой стыль, і людзі — усе разам і кожны паасобку — па сваёй волі ці міжволі рабіліся яго ахвярамі.

Каштоўнасць любой ідэі, аднак, вызначаецца не славеснымі спрэчкамі, а справамі. За справы, якія пацвярджаюць «высокую» палітычную культуру моладзі, выдаваліся дбайна адрэпеціраваныя маладзёжныя шэсці і маніфестацыі, адпрацаваныя да апошняе коскі прамовы на прадстаўнічых пленумах і актывах, поўныя пераможнага аптымізму рапарты і клятвы моладзі на шматлікіх урачыстасцях, правільныя аж но да замілавання школьныя камсамольскія сходы...

Так усе мы стварылі далёкае ад рэчаіснасці прыгожае жыццё, займаючыся, па сутнасці, самападманам і верачы ў гэты самападман. Чаму? Таму што так трэба — адказвалі мы сабе і іншым са шматзначнасцю на твары.

Але прыйшлі красавіцкі (1985) Пленум ЦК КПСС, XXVII з'езд партыі — настаў іншы час, і мы раптам апынуліся сведкамі не трыумфу, а, хутчэй, крызісу палітычнай культуры.

«Мне 18 гадоў. Я ні ў што не веру», «Я страціў давер да ўсяго, што гавораць дарослыя», «Скажыце, як нам жыць?» — гэта характэрныя радкі з лістоў, да якіх чытачы маладзёжных выданняў ужо прызвычаіліся. Разам з ідэйнай разгубленасцю мы ўбачылі ў маладзёжным асяроддзі і такія бездані, пра якія раней нават падумаць было страшна: наркаманія, п'янства, прастытуцыя, мясцызм...

Як такое стала магчымым? Адказ на гэтае пытанне дадзены ў партыйных дакументах, выступленнях М. С. Гарбачова, у якіх робіцца аналіз прычын застою ў развіцці краіны. Але варта, бадай, сказаць і пра тое, што слушная ў сваёй аснове фармуліроўка палітычнай культуры «веды — перакананні — дзеянні» аб'ектыўна не магла быць рэалізаваная ва ўмовах застою і бюракратызацыі палітычнай сістэмы, бо, нягледзячы на тагачаснае дакларыраванне шырокіх магчымасцей палітычнай творчасці моладзі, яны практычна былі зведзены да мінімуму. Удзел юнакоў і дзяўчат у дзейнасці тых ці іншых палітычных інстытутаў меў дый шмат у чым мае яшчэ фармальна-паказушны характар, служыць своеасаблівай шырмаю сапраўднай дэмакратыі.

З уласнага вопыту ведаю: многія члены выбарных камсамольскіх органаў, асабліва з працоўнай моладзі, часцей выконваюць ролю вясельных маршалкаў у складзе ЦК, абкома ці райкома. Якая ўжо тут палітычная дзейнасць!

Багата ўжо нагаварылі з гэтае нагоды. Шмат гадоў вядзецца дыскусія аб тым, як узняць прэстыж членаў выбарных органаў. Дыскусія, на жаль, пакуль што безвыніковая... А палітычная культура, між тым, немагчымая па-за палітычнаю практыкай. Гэта аксіёма. А такой практыкай можа быць любая значная для грамадства справа.

Калі чалавека ствараюць акалічнасці, казаў К. Маркс, дык, значыць, трэба зрабіць акалічнасці чалавечнымі. У гэтым глыбінная сутнасць перабудовы і рэвалюцыйнага абнаўлення грамадства. Няхай няма яшчэ жаданых вынікаў, не ўсё выходзіць так, як задумана, але псіхалагічны клімат вакол нас стаў непазнавальны, маральна-палітычны рэнесанс грамадства незваротны, яго не спыніць.

Мы ўчытваемся сёння ў Маркса, Энгельса, Леніна і, дзіва, у знаёмых радках адкрываем новы сэнс, бачым больш і глыбей, чым бачылі раней. Мы сталі больш адкрыта зважаць на дэмагогію і пустазвонства, востра перажываем клопат партыі і краіны, хвалюемся за гістарычную спадчыну — словам, усе мы вучымся сёння палітычнай культуры. Гэта нялёгка, але шлях гэты трэба прайсці кожнаму: рабочаму, міністру, майстру, старшыні выканкома...

Асобыя патрабаванні прад'яўляе перабудова да палітычнай культуры камсамольскіх работнікаў, няхай гэта будуць служачыя, якія дбайна разносяць паперы ў камсамольскім апараце, або людзі, здольныя аб'яднаць «нефармалаў», заваяваць давер воінаў-інтэрнацыяналістаў, пераадолець максімалізм старшакласнікаў — інакш кажучы, стаць наперадзе такой няпростай сённяшняй моладзі.

Зрухі ў стылі і метадах камітэтаў камсамола адчувальныя. Палітклубы па інтарэсах адцясняюць зафармалізаваныя школы і семінары ў сістэме марксісцка-ленінскай адукацыі. Атрымліваюць «права на жыццё» фонды маладзёжнай ініцыятывы і сацыяльных прапаноў, банкі ідэй, сталі рэальнай справаю маладзёжныя жыллёвыя комплексы, у тым ліку і ў Мінску...

І ўсё-такі, якія яшчэ жывучыя ў нашым мысленні кансерватызм, пры-

сорт I
цена 77 коп

шчэпленыя гадамі застою боязь і непрыняцце ўсяго, што не ўкладваецца ў рамкі прывычных схем! Узяць хоць бы адносіны паміж камсамолам і нефармальнымі аб'яднаннямі моладзі. XX з'езд ВЛКСМ канстатаваў: самадзейныя аб'яднанні — гэта не альтэрнатыва камсамолу, не «фірмы», якія канкурыруюць з ім, а форма рэалізацыі разнастайных грамадскіх запатрабаванняў юнацтва. Аднак заўважаў — пры адным толькі згадванні «нефармалаў» камсамольскія работнікі мяняюцца з твару, робяцца не ў меру недаверлівыя і нават агрэсіўныя.

У час дыскусіі аб перспектывах героіка-патрыятычнага выхавання на Усесаюзным злёце пераможцаў паходу ў Ленінградзе, злёце, які праходзіў напярэдадні 70-годдзя Кастрычніка, я назіраў проста балючую сцэну. Усхваляванае і шчырае выступленне лідэра ленінградскай маладзёжнай групы «Уратаванне» Аляксея Казлова, які гаварыў пра бяздушнае іншым разам стаўленне да помнікаў гісторыі, мінулага народа, выклікала адкрытае раздражненне камсамольскіх работнікаў. Але чаму? Хіба ў нас усё так добра з увагай да гістарычных помнікаў, хіба, урэшце, нявартае падтрымкі імкненне моладзі зрабіць усё, што ў яе сілах, каб помнікі засталіся багаццем і для нашых нашчадкаў?! У падтэксце тае незадаволенасці, аднак, пачулася другое: як можна, што за самадзейнасць, чаму не ўзгаднілі? Ці не знаёмыя гэта інтанацыі мінулага?

Вядома, не ўсё бясспрэчна ў арыентацыі нефармальных аб'яднанняў. Але ж якраз у тым і павінна выявіцца палітычная культура камсамольскіх актывістаў, каб разабрацца, падтрымаць здаровы пачатак і аргументавана выкрыць фальш, палітычную неабгрунтаванасць тых ці іншых захапленняў моладзі.

Перабудова — гэта барацьба з руцінным ханжаствам, палітычнай дэмагогіяй, гэта барацьба за сапраўдную палітычную культуру. Але перабудова не значыць адмаўленне. Мэты перабудовы неаддзельныя ад сацыялістычных каштоўнасцей і ідэалаў.

Моладзь імкнецца ведаць праўду пра мінулае нашай краіны. Але праўда пра сацыялізм не заканчваецца жахамі сталінскіх рэпрэсій. Праўда пра мінулае — гэта і надзвычайная мужнасць, самаахвяраванне цэлага пакалення савецкіх людзей, якое здолела, нягледзячы на страшную драму свайго часу, пераўтварыць краіну ў вядучую сусветную дзяржаву, абараніць яе ад фашызму, зацвердзіць сацыялізм на планеце. І гэтую старонку сацыялізму павінна адкрываць для сябе моладзь. Інакш непазбежны суб'ектывізм, недагаворанасць і аднабаковасць у ацэнцы гістарычных рэалій, якія выклікаюць разгубленасць, сумненні юнакоў і дзяўчат у каштоўнасці сацыялістычных ідэалаў.

Самае страшнае зло ў выхаванні палітычнай культуры — ханжаскае стаўленне да ідэалаў. Не выходзіць з галавы выпадак, расказаны мне знаёмай. У яе дачкі ў час прыёму ў камсамол спыталіся: «Колькі каштуе піянерскі гальштук?» Дзяўчынка абсалютна шчыра адказала: «Першага сорту — семдзесят сем капеек, другога — пяцьдзесят шэсць...» Маладыя дзядзькі ў строгіх касцюмах дакорліва пакруцілі галовамі: «Ну як ты так можаш? Хіба не ведаеш, што гальштук не мае цаны?!»

Уяўляю сабе гэтую сцэну і думаю: на каго разлічаны падобны спектакль? Калі на цяперашніх дзевяці-, дзесяцікласнікаў — дык яны, па-мойму, лепш за некаторых дарослых ведаюць, што дзеці нараджаюцца не ў капусце, і было б проста смешна думаць, што такімі ханжаскімі хітрыкамі можна выхаваць у іх павагу да ідэалу.

Згадваючы ўсё гэта, міжволі задумваешся і пра велізарную адказнасць людзей, якім даверылі справу выхавання, і асабліва тых, хто стаіць ля руля друку, радыё, тэлебачання, штодня кантактуе з мільёнамі маладых людзей. Канстанцін Паўлавіч, палкоўнік, франтавы лётчык (мы жывём на адной лесвічнай пляцоўцы), у чарговы прыезд з недаўменнем спытаўся ў мяне: «Што ж гэта ў нас у краіне адбываецца? Няўжо ўся моладзь з'ехала з глузду на рок-музыцы, прастытуцыі і начных матацыклетных гонках?! Бо толькі ж пра гэта і пішуць, гавораць, паказваюць...»

Спяшаюся апярэдзіць скептыкаў: я зусім не супраць таго, каб пісаць праўду пра жыццё. Я абедзвюма рукамі за гэта. Але жыццё моладзі не складаецца толькі з негатываў, а юнацкі ідэал ніколі не факусіраваўся толькі на адпачынку і забавах. Праблемы адпачынку, як слушна заўважыў у гаворцы з карэспандэнтам «Комсомольской правды» Герой Сацыялістычнай Працы, старшыня Усесаюзнага Савета ветэранаў вайны і працы К. Т. Мазураў, існуюць толькі ў тых, хто ніколі па-сапраўднаму не працаваў. Паспрабуй развесялі чалавека, які толькі тым і заняты, што адпачывае.

Ва ўсе часы людзі ўдасканальвалі сябе праз працу, праз барацьбу, праз дасягненне справядлівых ідэалаў — і хоць яно пакутліва-цяжкае, але ўзвышае чалавека. У высакародным імкненні аблегчыць лёс народа ўзышла на эшафот дваццацігадовая Соф'я Пяроўская, юнак Мікалай Чарнышэўскі атрымаў 7 гадоў катаргі, асуджаны на смерць нарадаволец Мікалай Кібальчыч запісвае ў Петрапаўлаўскай крэпасці ідэі стварэння міжпланетных лятальных апаратаў...

Ды што гісторыя... Колькі мужнасці, самаахвярнасці, наватарства патрабуе і штодня нараджае перабудова, колькі карысных спраў робіцца вакол нас!

Які наш час? Дакладней на гэта пытанне адкажа гісторыя. А для нас гэта перш за ўсё час усведамлення ісціны, усведамлення саміх сябе.



# ХОЧАЦЕ БЫЦЬ Прыгожай?

Спытайце ў Тані





Нядаўна я была на I Усесаюзным конкурсе мастакоў-мадэльераў у Таліне. Падзея для нас доўгачаканая — упершыню з'явілася магчымасць выступіць са сваімі персанальнымі калекцыямі, без усякіх рамак паказаць гледачам сваё творчае аблічча.

У Талін прыехала 300 удзельнікаў, сярод якіх былі асы савецкага мадэліравання і пачаткоўцы, смелыя энтузіясты. Выкарыстаем трывіяльны тэрмін — «марафон». І сапраўды, было паказана больш за 1500 мадэляў, прычым усё гэта на адным дыханні — закончыўся конкурс а другой гадзіне ночы. Стаміліся ўсе. Журы — ад калейдаскопа дэманстрацый, манекеншчыцы — ад дзесяткаў пройдзеных кіламетраў, фатографы — ад радасці бясконцых знімак. Вам даводзілася збіраць грыбы? Памятаеце, як яны потым усю ноч стаяць перад вачыма? Я таксама пасля конкурсу доўга не магла заснуць. У вачах мільгацелі строі: элегантныя, фантастычныя, авангардысцкія, вытанчаныя, строгія па колеры і складзеныя з арганізаваных з найвялікшай смеласцю каляровых плям. Мадэлі, якія можна, ані дня не марудзячы, вынесці ў рэальнае жыццё, і мадэлі, што існуюць толькі як від прыкладнога мастацтва на падобных вернісажах мод.

Не ўсе конкурсныя мадэлі былі, вядома, раўназначныя, але агульны ўзровень трэба прызнаць высокім. У наступныя дні мадэлі-прызёры можна было ўбачыць у сумесным шоу-паказе Дамоў мадэляў Ленінграда, Таліна, Рыгі, Мінска і фінскай фірмы «Кацімонці». Урачыстае закрыццё талінскіх дзён Моды-88 і ўзнагароджванне пераможцаў прайшло досыць экстравагантна — у адкрытым моры, на цеплаходзе «Георг Отс». Што ж, цяпер будзем чакаць практычных вынікаў свята моды.

А цяпер пераходжу да вашых лістоў.

**Нашы чытачкі часта пытаюцца: якой спадніцай абнавіць свой гардэроб!**

Парадокс сучаснай моды ў тым, што на гэтае няпростае пытанне можна адказаць вельмі проста: любой! Спадніцай доўгай, кароткай, вузкай, якая прыстае ўверсе і шырокая ўнізе, прызборанай ля таліі ці закладзенай мяккімі складкамі.

Прамыя спадніцы па-ранейшаму — любімцы моды. Яны могуць даходзіць да калена, могуць нават быць завужаны на 1,5 — 2 см унізе, без шліцы тут не абысціся. Для жанчын з больш кансерватыўным густам даўжыня спадніцы за калена, да сярэдзіны галёнкі заўсёды актуальная; калі гэта «вашая» даўжыня, дык не варта здраджваць ёй дзеля кароткіх перападаў моды. Як вячэрні варыянт — прамая спадніца да шчыкалаткі з разрэзам збоку.

Калі вы маладыя і ўпэўнены ў стройнасці вашых ног — аддайце перавагу асабліва моднай у гэтым сезоне даўжыні — вышэй калена. У гэтым разе — асобую ўвагу колеру панчох, у тон адзежы ці чорнаму. Мы не можам рэкамендаваць панчохі, аздобленыя люрэксам і бліскаўкамі, бо іх, на жаль, няма ў продажы... Але ў дадзеных тэндэнцыях моды яны вельмі будуць вам пасаваць.

Па-ранейшаму папулярныя пашыраныя ўнізе спадніцы ў фальклорным стылі. Пад такую спадніцу, зробленую з джынсавай тканіны, можна надзець і ніжнюю, якая ледзь выглядвае краем карункавага шыцця.

Не прайшоў яшчэ час і прыталеных спадніц гадэ, што робяць фігуру такой стройнай і граюць складкамі тканіны ўнізе. Такі ж сілуэт можна стварыць, калі да адрэзанай па лініі бёдраў спадніцы прыстрачыць шырокі, скроены па касой валан або заплісіраваную ці закладзеную ў складкі тканіну.

Тканінам — асобую ўвагу. Для вузкіх спадніц неабходны сухі, шорсткі матэрыял. Ён менш дэфармуецца. Мяккія трыкаціны, фланелі, шаўкі падыходзяць вольным формам. З тонкіх баваўняных тканін, асабліва батысту, шыфону, маркізету можна ствараць пышныя, з вялікай колькасцю складак рамантычныя спадніцы, якія быццам «ляцяць». Для маладых яны могуць быць вельмі кароткія — вышэй калена, так званыя спадніцы — «пачкі».






Фотарэпартаж **Віктара ДРАЧОВА**

## ПАРУ СЛОЎ ПРА МАКІЯЖ

Любому з нас трэба быць у душы хоць крышачку мастаком. Гэта дазволіць зрабіць больш утульнай сваю кватэру, прыгожа паставіць падораныя нам кветкі, вырашыць, у якога колеру блузцы лепш выйсці сёння з дому, нарэшце, зразумець, якім чынам з дапамогай макіяжу падкрэсліць прывабнасць і непаўторнасць вашага твару. Вядома, гэта прыходзіць не адразу. Вучыцца гэтаму неабходна паступова. У няўмеранай пагоні за «прыгажосцю» многія дзяўчыны выглядаюць вульгарна і неахайна, нават брудна. Лішніца грыму на маладзенькіх тварах, пакладзенага да таго ж без ведання справы і груба, адштурхоўвае. Дальбог, такія высілкі прыводзяць да адваротнага эфекту.

З часам вызначаецца свой стыль, свая мера. Але ў макіяжы — свае модныя павевы, і вось — усе жанчыны пачынаюць вышчыпваць бровы ў «нітачку» або фарбаваць вусны неверагодна яркай фарбай ці... і г. д.

У нашай рэспубліцы распрацоўкаю моднага макіяжу займаецца лабараторыя «Белбыттэхпраект» (вядучы касметолаг Л. Лабуціна), а расказаць пра яго я папрасіла касметолага Святлану Клубаву.

— Сучасны макіяж можа быць вельмі жывапісны, вытанчаны, таму вымагае густу і пачуцця меры. Каляровая гама касметолага блізкая да палітры мастака — ад сакавітых фарбаў да мяккіх па колеры адценняў. Вельмі модная так званая палітра мастакоў-імпрэсіяністаў: фарбы празрыстыя, мяккія, пастэльныя адценні, вясёлыя і пяшчотныя фарбы акварэлі, гульня святла і ценю. Каляровая гама макіяжу вызначаецца колерам сукенкі. Мяняюцца строі — мяняецца макіяж. Дзённы макіяж недарэчны ўвечары. Спроба аднавіць увечары дзённы грым будзе безпаспяховая, неабходна дбайна ачысціць твар і зрабіць усё нанова.

Вельмі важна ўлічыць пару года. У макіяжы цёплага сезону дамінуюць залаціста-карычневыя, каньячныя, аранжавыя, лімонныя, абрыкосавыя, бірузовыя таны. Універсальны ружовы колер ва ўсіх адценнях — ад яблыні, што квітнее, да насычаных таноў.

Дзённы грым маладой дзяўчыны павінен быць вельмі лёгкі, пастэльны, павінен ствараць уражанне яго адсутнасці. Увечары можна выкарыстаць больш насычаныя таны, падкрэсліць цёмнай тушшу не толькі вейкі, але і трохі бровы. Наносіць грым трэба вельмі акуратна, дбайна растушоўваючы каляровыя плямы, карыстацца для гэтага пажадана мяккімі мастацкімі пэндзлямі.

**Таццяна ЧАРНЯЎСКАЯ**



Агата **КРЫСЦІ**

# ДАМА ПАД ЧОРНАЙ ВУАЛЛЮ

АПАВЯДАННЕ

**Агата Крысці — вядомая англійская пісьменніца, кнігамі якой вось ужо больш як паўстагоддзя зачытваюцца ва ўсім свеце. Кнігі яе перакладзены больш чым на сто моў. Інтрыгуючыя сітуацыі, галавакружныя павароты дзеяння, нечаканы фінал, тонкая абмалёўка персанажаў, вострая назіральнасць, трапная дэталь — усё гэта прынесла Агаце Крысці славу самага папулярнага аўтара дэтэктыўнага жанру.**

**У 1971 годзе каралева Англіі Лізавета надала пісьменніцы годнасць Дамы Брытанскай імперыі.**

Раздражненне Пуаро ўзрастала з кожным днём. Ніводнай галаваломной справы, нічога, дзе можна было б блiснуць сваімі выдатнымі здольнасцямі! Вось і сёння раніцай ён грэбліва адкінуў газету, выдыхнуўшы гук, падобны на кацінае чханне:

— Пчхі! Нарэшце да мяне дайшло, Гасцінгс! Вашы нікчэмныя англійскія крымінальнікі баяцца мяне! Кот дома, мышы, прэч ад сыру!

— Думаю, што большасць з іх нават не ведаюць пра ваша існаванне,— жартам адказаў я.

Пуаро паглядзеў на мяне з нямым папрокам.

— Што пішуць пра ўкрадзеныя брыльянты на Бонд-стрыт? — спытаў я.

— Чыстая работа,— пахваліў Пуаро,— але, на жаль, не ў маім стылі. Нейкі прахожы сярод белага дня палкай разбівае шкляную вітрыну ювелірнага магазіна і хапае каштоўныя камяні, якія першымі трапілі пад руку. Сумленныя гараджане затрымліваюць яго на месцы злачынства і выклікаюць паліцыю. Чалавека злавілі з доказамі злачынства. Яго прыводзяць у паліцэйскі ўчастак — вось тут і адбываецца самае цікавае. Высвятляецца, што ў яго не брыльянты, а стразы. Сапраўдныя каменьчыкі ён паспеў у мітусні перадаць свайму саўдзельніку. Зразумела, яго пасадзяць у турму. Але калі ён адбудзе сваё і выйдзе на свабоду, яго будзе чакаць круглая сума. Так, нядрэнна папрацавалі. Але я мог бы прыдумаць і лепш. Ведаеце, Гасцінгс, мне часам здаецца, калі б не мае маральныя прынцыпы, я з задавальненнем зрабіў бы што-небудзь супрацьзаконнае!

— Не засмучайцеся, Пуаро, вы — сапраўдны унікум.

— Хіба тут ёсць што-небудзь, вартае унікума?

Я ўзяў газету.

— Вось, калі ласка, загадкавая смерць англічаніна ў Галандыі,— адазаў я.

— Так заўсёды пішуць, а потым высвятляецца, што няшчасны з'еў нясвежыя рыбныя кансервы і памёр звычайнай смерцю.

— Ахвота вам бурчаць...

— Цішэй! — сказаў Пуаро, уважліва гледзячы ў акно.— Вунь ідзе, як прынята пісаць у раманах, «дама пад чорнай вуаллю». Рыхтуйцеся, Гасцінгс, праз хвіліну яна будзе тут. Вось вам і загадка.

Наведніца ўвайшла ў пакой. Пуаро меў рацыю: твар яе закрывала густая вуаль. Пакуль яна не адкінула чорныя іспанскія карункі, рысы яе твару немагчыма было разгледзець. Дама была вельмі прыгожая. Бландзінка з вялікімі блакітнымі вачыма. Апранута яна была проста і элегантна, як звычайна апранаюцца жанчыны, якія належаць да вышэйшых колаў грамадства.

— Мсьё Пуаро,— сказала дама мяккім меладычным голасам,— я трапіла ў бяду. Я не вельмі спадзяюся, што вы зможаце мне дапамагчы. Але я чула, што вы робіце немагчымае, і вы — мая апошняя надзея. Я прашу вас зрабіць немагчымае.

— Немагчымае — гэта як раз тое, што я люблю,—



сказаў Пуаро.— Мадэмуазель, прашу вас, малю, працягвайце.

Наша прыгожая госця разгубілася.

— Будзьце шчырай да канца,— дадаў Пуаро,— нічога не ўтойвайце.

— Так, я вам веру! — раптам сказала дзяўчына.— Вы чулі што-небудзь пра лэдзі Мілісент Касл Вэнг?

Я з цікавасцю паглядзеў на яе. Некалькі дзён таму назад газеты пісалі пра заручыны лэдзі Мілісент з маладым герцагам Саўфшырскім. Паведамлялася таксама, што нявеста — пятая дачка збяднелага ірландскага пэра, і што герцаг Саўфшырскі — адзін з самых багатых жаніхоў у Англіі.

— Я — лэдзі Мілісент,— працягвала дзяўчына.— Вы, напэўна, чыталі ў газетах пра мае заручыны? Я магла б быць самай шчаслівай дзяўчынай на свеце, але... Мсьё Пуаро, я трапіла ў бяду! Ёсць адзін чалавек, страшны чалавек, яго завуць Лэвінгтон, і ён, не ведаю, як і сказаць... Калісьці я напісала пісьмо, мне тады ледзь споўнілася шаснаццаць, а ён, ён...

— Вы пісалі пісьмо гэтаму самаму Лэвінгтону?

— Не! Не яму! Я пісала маладому салдату, я была закаханая, але ён загінуў на вайне.

— Разумею,— мякка сказаў Пуаро.

— Неразумны ліст! Неасцярожны ліст! Паверце мне, мсьё Пуаро, нічога больш. Але там ёсць такія словы, якія... якія можна зразумець няправільна.

— Ясна,— сказаў Пуаро.— Гэты самы ліст і апынуўся ў руках Лэвінгтона?

— Так, ён пагражае мне. Ён кажа, што калі я не заплачу яму суму, вельмі вялікую суму, ён пашле гэты ліст герцагу.

— Колькі ён хоча атрымаць?

— Дваццаць тысяч фунтаў — неймаверна! У мяне няма і тысячы.

— А ліст сапраўды ў яго?

— Я была ў яго дома і бачыла той ліст сваімі вачыма.

— Вы былі ў яго дома? Неабдуманы крок, дарагая лэдзі.

— Праўда? Але я была ў роспачы. Я спадзявалася, што мае просьбы крануць яго сэрца.

— О ля-ля! Лэвінгтоны гэтага свету не схільныя да сантыментаў. А ён зрабіў выснову, што ліст сапраўды мае цану. Дзе жыве наш мілы джэнтльмен?

— Віла Буона Віста, Уімблдон. Я была там, калі ўжо сцямнела.— Пуаро застагнаў.— У рэшце рэшт я сказала, што паведамлю ў паліцыю, а ён з'едліва пасмяяўся з мяне. «Заяўляйце, дарагая лэдзі Мілісент, колькі вашай душы пажадана!» — сказаў ён.

— Так, справа яўна не для паліцыі,— аднымі губамі сказаў Пуаро.

— «Я ўпэўнены, што вы будзеце разумніцай»,— працягваў Лэвінгстон. З агіднай усмешкай на вуснах ён склаў пісьмо і паклаў у драўляную скрыначку кітайскай работы. О, які ён быў агідны! Мсьё Пуаро, дапамажыце мне!

— Даверся, дзіця маё, Пуаро! Што-небудзь абавязкова прыдумаем.

Містэр Лэвінгтон не прымусіў сябе доўга чакаць. Ён з'явіўся ў нас вечарам таго ж дня. Лэдзі Мілісент ні кроплі не перабольшвала, апісаўшы яго як агіднага тыпа. У мяне нясцерпна часаліся рукі спусціць яго ўніз з лесвіцы. Гаварыў Лэвінгтон уладарным і катэгарычным тонам. Ён высмеяў усе прапановы Пуаро і, наогул, яўна адчуваў сябе гаспадаром становішча.

Мне здалося, што Пуаро тушуецца перад ім: такі разгублены быў у майго сябра выгляд.

Афармленне
**Канстанціна ВАШЧАНКІ**

— Ну што, джэнтльмены,— сказаў Лэвінгтон і ўзяў са стала капялюш,— хопіць пераліваць з пустога ў парожняе. Справа выглядае менавіта гэтак, і вашай лэдзі Мілісент яшчэ страшэнна пашанцавала! Маё апошняе слова — васемнаццаць тысяч. Сёння я еду ў Парыж, трэба правярнуць невялікую справу. Вяртаюся ў сераду. Дык вось, калі ў сераду ў мяне не будзе ўказанай сумы, ліст адразу ж адпраўляецца герцагу. І не дурыце мне галаву, быццам у лэдзі Мілісент няма грошай. Джэнтльмены, яе прыяцелі, палічаць за гонар зрабіць ласку для такой мілкі, вядома, калі яна добра папросіць,— агідна засмяяўся Лэвінгтон.

Кроў прыліла мне ў твар, я зрабіў крок, але Лэвінгтон своечасова адчаліў.

— Божа! — закрычаў я.— Трэба нешта рабіць? Няўжо вы згодны на паражэнне, Пуаро?

— Як дзіўна,— ціха сказаў Пуаро,— не паспеў я падумаць, што добра было б зрабіць нешта процізаконнае, як адразу ўвайшла лэдзі Мілісент.

— Калі я правільна вас зразумеў, вы хочаце абрабаваць яго? — на адным дыханні спытаў я.

— Дзіўна, мысліцельныя працэсы ў вашай галаве адбываюцца часам з галавакружнай хуткасцю.

— Калі мы... э... пойдзем на справу?

— Уначы. Мы выйдзем з дому роўна ў адзінаццаць гадзін вечара.

Была поўнач, калі мы ўвайшлі ў маленькі гарадскі садзік вілы Буона Віста. У доме было ціха і цёмна. Пуаро ўпэўнена падышоў да акна з тыльнага боку будынка і бясшумна падняў раму.

Мы пачалі метадычна абследаваць дом. Мінула некалькі гадзін, але мы ні на крок не наблізіліся да мэты. Пуаро пачынаў злавацца.

— А, д'ябал, Пуаро здаецца? Ніколі. Спакойна. Думай, галава, варушы шэрым рэчывам!

Ён сурова звёў бровы і задумаўся — і раптам бліснуў у яго вачах такі добра знаёмы мне зялёны агеньчык.

— Крэтын! Кухня!

— Кухня? — адазваўся я.— Немагчыма. Слугі.

— Тым больш. Дзевяноста дзевяць працэнтаў са ста падумаюць гэтак жа, як і вы. Таму кухня — ідэальнае месца для тайніка. Наперад, на кухню!

На маё вялікае здзіўленне, Пуаро стаяў у самым цэнтры вугальнай кучы. Можаце ўявіць, у што ператварыўся яго акуратны светлы касцюмчык.

— Не прывык пэцкаць рукі! Што зробіш? Мастацтва патрабуе ахвяр.

— Можа, вы лічыце, што Лэвінгтон схаваў пісьмо ў вугаль?

— Пратрыце вочы! Я даследую зусім не вугаль.

Тады я ўбачыў, што пад вугалем былі акуратна складзены дровы. Пуаро хутка аглядаў адно палена за адным. Раптам ён ціха ўсклікнуў:

— Нож, Гасцінгс!

Я перадаў яму нож. Ён пакалупаў дрэва нажом, і палена лёгка раскалолася на дзве палавіны. Нехта да нас распілаваў яго напалам і зрабіў усярэдзіне адтуліну. З гэтай адтуліны Пуаро і дастаў драўляную скрыначку кітайскай работы. Апусціўшы скрыначку ў кішэню, ён лёгка выбраўся з вугальнай кучы і пачаў абтрасацца...Мы выйшлі з дому гэтак жа, як і ўвайшлі, узялі курс на Лондан.

Пасля бурна праведзенай ночы добра спалася. Калі я выйшаў у гасцёўню, было ўжо каля гадзіны ночы.

Выгляд Пуаро, які зручна адкінуўся ў крэсле і спакойна чытаў пісьмо з кітайскай скрынкі, абурыў мяне.

Ён ветліва ўсміхнуўся і сказаў, паказваючы пальцам на ліст:

— Наша лэдзі Мілісент хвалявалася нездарма. Герцаг ніколі б у жыцці не дараваў ёй гэты ліст! Вельмі экстравагантны стыль выказваць сваю прыхільнасць. Не часта сустрэнеш!

— Ведаеце, Пуаро,— сказаў я, не хаваючы сваёй пагарды,— чытаць чужыя лісты — недаравальна.

— Для Пуаро — даравальна,— спакойна адказаў мой сябра.

— Чуеце крокі на лесвіцы? — спытаў Пуаро.— Гэта спяшаецца лэдзі Мілісент.

Калі ўвайшла наша прыгажуня, у яе быў вельмі заклапочаны выгляд. Але варта было ёй убачыць скрыначку і пісьмо ў руках Пуаро, як усе яе клопаты імгненна зніклі.

— О, мсьё Пуаро! Як міла з вашага боку! Як вам гэта ўдалося?



— Не вельмі законным шляхам, мілая лэдзі. Але ўпэўнены, што Лэвінгтон не будзе скардзіцца на нас у паліцыю. Гэта ваш ліст?

Яна мелькам зірнула на пісьмо.

— Так. Не ведаю, як аддзячыць вам. Надзіва добры чалавек! А дзе яно было?

Пуаро падрабязна ёй расказаў.

— Разумніца! — яна ўзяла са стала скрыначку.— А гэта я захаваю на памяць.

— Мілая лэдзі, якое супадзенне, я б таксама хацеў захаваць гэту скрыначку на памяць, як сувенір.

— Я прышлю вам лепшы сувенір адразу ж пасля вяселля. Вы яшчэ ўспомніце маю шчодрасць, клянуся гонарам, мсьё Пуаро!

— Жаданне дагадзіць вам даражэй за грошы! Таму дазвольце мне захаваць гэтую скрыначку!

— О не, мсьё Пуаро, мне проста неабходна яе забраць,— сказала яна, заліваючыся бесклапотным смехам.

Яна працягнула руку, але Пуаро яе апярэдзіў. Яго шырокая рука надзейна накрыла скрыначку кітайскай работы.

— Не,— голас яго змяніўся.

— Што вы хочаце сказаць? — яе тон таксама быў іншы.

— Па крайняй меры, не адмоўце ў ветлівасці і дазвольце дастаць са скрыначкі яшчэ нешта. Вы, вядома, звярнулі ўвагу, што ёмістасць зменшана напалавіну. Зверху — кампраметацыйны ліст, знізу...— Пуаро спрытна павярнуў руку: на яго далоні пераліваліся чатыры вялікія брыльянты і адлівалі малочнай белізной дзве вялікія жамчужыны.

— Каштоўнасці, украдзеныя на Бонд-стрыт,— сказаў ён.— Джэп разбярэцца.

На маё здзіўленне, інспектар Джэп уласнай персонай выйшаў са спальні Пуаро.

— Ваш стары знаёмы? — ветліва сказаў Пуаро, звяртаючыся да лэдзі Мілісент.

— З доказамі, ліха на вас! — сказала лэдзі Мілісент, змяніўшыся да непазнавальнасці.— Хітры стары д'ябал!— І яна зірнула на Пуаро з павагай.

— Ну-ну, Герда, мілачка,— сказаў інспектар Джэп,— спектакль закончаны, тушыце свечкі. Хто б мог падумаць! Якая сустрэча! Дарэчы, твайго прыяцеля, таго, што назваўся містэрам Лэвінгтонам, мы таксама ўзялі. А што да сапраўднага Лэвінгтона, ён жа Крокер, ён жа Рыд, як вам будзе пажадана, нехта ўсё ж такі ўдарыў яго нажом. Думалі, што ён носіць каштоўнасці пры сабе? Але не тут было. Абвёў вас, як дзяцей, вакол пальца! Схаваў каменьчыкі дома. Двое вашых шукалі яго, ці не так? Потым вы звярнуліся да мсьё Пуаро,— а ён вазьмі ды знайдзі!

— Балбатун,— сказала лэдзі Мілісент.— Цішэй на паваротах. На словах ловіце! Спачатку дакажыце, што я не лэдзі. Балбатуны няшчасныя!

— Туфлі падвялі,— летуценна сказаў Пуаро.— Я добра вывучыў вас, англічан. Сапраўдная лэдзі абавязкова ў першую чаргу паклапоціцца пра туфлі. Яна можа апрануць старую сукенку, але туфлі заўсёды будуць самы высокі клас, гэта я ўжо ведаю! А наша так званая лэдзі Мілісент прыходзіць расфуфыраная ў пух і прах, а туфлі — танныя. Пра скрыначку кітайскай работы з кампраметацыйным пісьмом было вядома ўсёй шайцы. Але палена — гэта ўжо вынаходніцтва самога нябожчыка містэра Лэвінгтона. Спадзяюся, Гасцінгс, вы больш не сумняваецеся ў маёй папулярнасці сярод крымінальнікаў? Яны нават звяртаюцца да мяне па дапамогу, калі самі церпяць фіяска.

Пераклала з англійскай
**Марына КАНДРУСЕВІЧ**

Наталля ІВАНОВА

# ЦЯЖКІ ТОЛЬКІ ПАЧАТАК

**У размове аб задачах сучаснага жывапісу ўдзельнічаюць прадстаўнікі груп «Няміга-17» і «Галіна»**

...З семнаццатага паверха горад — як на далонях. І Няміга старэнькая, што чаго толькі на сваім вяку ні зведала, паглядвае знізу ўверх на вышынны дом, які ўпісаўся (ці не ўпісаўся!) у яе немудрагелістыя завулкі, трохі сумна і пачціва. Памятае яна тыя часы, калі мастакі сяліліся ў старэнькіх яе кварталах, дзе і просценькія двух-, трохпавярховыя домікі, і дваровыя дрэўцы дый самое паветра быццам напоеныя былі ціхім сузіраннем, нетаропкім спасціжэннем... А тут — «Няміга-17». Нават у самім гэтым спалучэнні праглядвае, як здалося спачатку, дух нейкай дэкларатыўнасці, гэтак не ўласцівы Нямізе.

— Гэта што, спроба аб'яднаць такім чынам мінулае з сучасным! — пытаюся ў жывапісца Мікалая Бушчыка, які прадстаўляе новую групу беларускіх мастакоў «Няміга-17».

— Усё больш проста,— адказвае ён.— Няміга — таму што менавіта тут знаходзяцца нашы майстэрні, ну, а 17 — значыць, на семнаццатым паверсе... Хоць,— дадае, падумаўшы,— нейкае аб'яднанне мінулага з цяперашнім усё-такі ёсць. Калі шукаць традыцыі, з якіх вырастае наш жывапіс, як, зрэшты, і нашыя мастакоўскія перакананні, дык яны — у беларускім мастацтве 20-х гадоў.

Мікалай Бушчык, Анатоль Кузняцоў, Алесь Цыркуноў, Сяргей Кірушчанка, Альгерд Малішэўскі, Алег Мацiевіч, Аляксандр Мятліцкі, Тамара Сакалова, Леанід Хобатаў — удзельнікі новага аб'яднання. Усе яны — члены творчага саюза, прафесійныя, сфарміраваныя, можна сказаць, мастакі, якія маюць за плячыма мноства работ, выставак, дыскусій і спрэчак: як з гледачамі, гэтак і з калегамі па цэху.

Хаця... Пра што тут, здавалася б, спрачацца! Узяў пэндзаль, палатно — пішы. Працуй. Займайся сваёй справай. Ёсць што сказаць — кажы, а ўжо калі няма чаго, дык...

— Таксама гавары! Няважна, пра што, але гавары. Дзейнічай. А там — разбяромся. Разбяруцца...

Не палохайцеся. Гэта маналог, як кажуць, ужо з іншай оперы. Так ці прыкладна так на адной з выставак мастацтвазнаўства Ларыса Салодкіна (без асаблівай, заўважым, зычлівасці) вызначыла сутнасць другой групы мастакоў маладога пакалення, якія назвалі сябе «Галіна».

— У дадзеным выпадку — адгалінаванне,— тлумачыць лідэр і ідэйны натхняльнік групы Алесь Тарановіч.

— Адгалінаванне ад чаго! — спрабую ўдакладніць.

— Ад Саюза мастакоў.

Я не супраць адгалінавання. Ва ўсе часы групы тых ці іншых мастакоў, паэтаў, музыкантаў «адгаліноўваліся», аддзяляліся, адгароджваліся ад таго, што было (ці лічылася імі) руцінай, адсталасцю, ад таго, іншымі словамі, што замінала дыхаць, замінала творчасці. Але пагаварыць хочацца зараз не пра гэта. А пра тое, што мелі тыя, хто «адгаліноўваўся», коснаму і руціннаму супрацьпаставіць.

— Мы дайшлі да такога ўзроўню,— сказаў мне, згадваю, на выставе Алесь Тарановіч,— што закрыць рот нам ужо нельга.

— Няўжо ён такі высокі, ваш узровень!

— Справа не ў тым. Наша група імкнецца задаволіць густы звычайных людзей, непрафесіяналаў. Прафесіяналаў мы ў разлік не бяром і ў лік сваіх патэнцыяльных гледачоў не ўключаем: адразу пачнуць вышукваць прафесіянальныя хібы.

Сёння творчая моладзь апынулася ў такіх умовах, аб якіх яе папярэднікі маглі толькі марыць. Хочацца выстаўляцца — калі ласка: чакаюць і залы, і гледачы. Хочаце «супрацьпастаўляцца» — таксама можна: размяшчайце свае маніфесты дзе падабаецца, пачынаючы ад самаробна-рукапісных плакатаў на драўляных калках, што ўпрыгожваюць поплаў ля Дома мастацтваў, і канчаючы старонкамі рэспубліканскай прэсы. Словам, выказвайцеся!

І вось тут узнікае часам просценькае такое, непрыкметнае на фоне арганізацыйнай неразбярыхі пытанне: а ці ёсць што сказаць! Невыпадкова я павяла сёння размову адразу пра дзве групы: «Галіна» і «Няміга-17».

Вернемся з вамі гадоў на восем назад, у 1979 год, і наведаем фае тады яшчэ новага кінатэатра «Кастрычнік». І што мы тут убачым! А ўбачым мы мастацкую выставу групы «Букуб-79» і прачытаем пад надта нетрадыцыйнымі, як здавалася тады, палотнамі вершаваныя радкі-подпісы. Сутнасць некаторых з іх зводзілася практычна да таго, што няма ў жыцці і ў мастацтве нічога больш недарэчнага, чым стварэнне якіхсьці межаў... і дэкларавалі тады гэтыя своеасаблівыя маніфесты менавіта сённяшнія прафесіяналы з «Нямігі-17»: Мікалай Бушчык і Анатоль Кузняцоў.

Згадваю, як спрабавала высветліць і тады, што ж стаіць за ўсім гэтым.

— Усе мы закончылі БДТМІ, навучыліся тут многаму,— казалі восем гадоў назад мастакі,— але не навучыліся, на наш погляд, аднаму, і самаму галоўнаму: уменню бачыць жывое ў нежывым, адчуваць гармонію ў самых, здавалася б, негарманічных рэчах...

І пачалася іх новая вучоба: спасціжэнне сакрэтаў уласна жывапісу. Пачалася са спробы жывапісаць свет так, каб выклікалі іх карціны ў гледача тыя ж эмоцыі і адчуванні, якія выклікае ў чалавека рэальная навакольная рэчаіснасць. Пачалося іх «творчае затворніцтва»: майстэрня, адна на двух, і — амаль кругласутачная праца: спробы, сумненні, пошукі...

— Якая сутнасць вашага адмаўлення «афіцыйнага» мастацтва! — пытаюся сёння ў лідэра «Галіны» Алеся Тарановіча.

— Мы хочам змяніць мастацкую палітыку,— адказвае ён.— Мы лічым, што афіцыйнае мастацтва ідзе з народам па адной вуліцы, але ў розных накірунках.

І падумалася міжволі: «А ці з гэтага трэба пачынаць!.. Ці з глабальнага, калі ўнутраных, прафесійных задач і праблем яшчэ ох як багата! Калі за адмаўленнем звыклага стаіць яшчэ ў большай ступені юнацкі максімалізм, чым свая, асабістая, акрэсленая пазіцыя майстра і мастака!..»

«Хацелася б бачыць не крык, не ўказуючы перст, а мудрасць мастака, яго любоў да чалавека, яго няхай малы, горкі, слабы, але непадробны аптымізм,— нібы рэзюміруе ў кнізе водгукаў пажаданні маладым аўтарам І. Родаў,— але нягледзячы на мноства «не» — «так»!»

Тое, што мастацтва, мастак сваімі творамі павінны выхоўваць гледача, думка банальна вядомая. Хто ж каго збіраецца выхоўваць на гэты раз — пытанне спрэчнае. «Галіна» пакідае ролю безумоўнага выхавацеля за сабою, а глядач, карэктны, зычлівы (у большасці сваёй) глядач, разумеючы, што справу мае з маладымі мастакамі, спрабуе іх падбадзёрыць, падтрымаць, а дзесьці, у сваю чаргу, і павучыць, разумеючы, што поўныя захаплення водгукі, выказаныя на адрас некаторых работ «Галіны», гэта пакуль яшчэ ў большай ступені аванс.

Што ж да саміх мастакоў, дык сустракаюць яны пакуль што ўсіх сваіх патэнцыяльных наведнікаў з пільнаю ўвагаю. І лунае сярод «скандальных» палотнаў вельмі актуальнае для іх аўтараў пытанне:

— А вы, вы, уласна кажучы, хто! Нашы ворагі ці прыхільнікі!



Непонятно, чем вы руководствовались при отборе произведений: их художественной ценностью или тем, чтобы не качнуться ни влево, ни вправо.



«Нет работ, нет искусства. Лучше ничего, чем так. К сожалению, это лишь жалкая попытка и дурной тон...»

Увогуле цікава і прыемна





Ребята, вы извините, но это маразм!

Такое уже давно выставлялось в Прибалтике...

...ы-само жыццё.

Куда мы катимся?!!

Белов А. - это чудо! Чуточку больше ярости!




Адам ГЛОБУС

# УДАР МІМА

**Суб'ектыўныя нататкі пра II Рэспубліканскі фестываль савецкай маладзёжнай песні ў горадзе Наваполацку**

Уяві на сцэне «Рынг», рок-групу з Пінска. Не можаш? Дапамагу. Гітары, барабаны, анілінавыя лямпачкі міргаюць... Уявіў? Не? Тады прыдумай любую рок-групу і зрабі яе падобнай да рынга. Клубы дыму і рытм, толькі саліста прыдумваць не трэба, яго няма ў рок-групе «Рынг», пакуль што не знайшлі яго. Шукаюць лепшага сярод лепшых, а яго няма ў Пінску. Няма дык няма. Што рабіць? Глядзець на сцэну, а там ужо вакальная група «Джэм» з Брэста. У Брэсце з салістамі значна лепш. Можна, як бачыш, цэлую вакальную групу стварыць. «Джэм» спявае ў стылі «кантры» па-руску, па-беларуску і нават па-англійску. Спявае пра тое, што іхняе сэрца ў гарах, але відавочна, што сэрцы спевакоў на наваполацкай сцэне, а не ў гарах. У нейкі момант «Джэм» нагадвае «Песняроў», гэта песні на вершы Роберта Бёрнса ды Сяргея Грахоўскага дапамагаюць нагадаць знакаміты ансамбль. Чуеш апладысменты? І гэта радуе? «Джэм» толькі паспявае схавацца за кулісамі, а на сцэне ўжо настройваюць свае гітары Павел Харэвіч і рок-група «Трохкутнік». Паўлу ні Бёрнс, ні Грахоўскі не патрэбныя: тэксты і музыку ён піша сам. Чуеш песню — «Зямля — шэдэўр сусвету»? Не ведаю, ці падабаецца яна табе, а мяне яна проста ашаломлівае, саліст паўтарае і паўтарае пошлы і бяздарны радок: «Зямля — шэдэўр сусвету». Наступнай песняй Харэвіч трохі выпраўляе становішча. Зала прымае прыпеў, толькі, на маю думку, той прыпеў не шэдэўр, у адрозненні ад Зямлі. Але ж на бязрыб'е і рак — рыба: «Мая сям'я: жонка, і сын, і музыка — я не адзін».

Гэты тэкст апыніцца сярод лепшых на фестывалі. Уяві, калі здатны, горшыя. Пра класічную паэзію на наваполацкай сцэне мы яшчэ пагаворым з табою.

І вось ты (той, хто любіць «метал», я да цябе звяртаюся) дачакаўся. На сцэне рок-група «Удар»! Можаш крычаць. Ура! Калі ёсць «Рынг», павінен быць і ўдар. Яшчэ на пачатку канцэрта рок-група «Удар» зрабіла заяву, што сыграе лепш за лаўрэатаў леташняга фестывалю — мазырскую групу «Адбітак». Толькі не блытай наш металёвы палескі «Адбітак» з яраслаўскім неметалёвым «Адбіткам», бо наваполацкія слухачы блыталі і хадзілі глядзець не на той «Адбітак», на які хацелі. Абяцаць «Удар» абяцаў, а перамагчы «Адбітак», як бачыш, не здолеў. Чаму? А таму, што дзве з трох гітар у першай кампазіцыі не гучалі. Прычыны будуць бурна высвятляцца, але так і не высвятляцца. «Металістаў» у зале мала, толькі мы з табою, і няма каму падтрымаць саліста з «Удару», няма каму адгукнуцца на ягоны забойны заклік. А ён крычыць і крычыць, што «наша жыццё — мір!», а зала маўчыць, як маўчыць чалавек, калі бачыць блага выкананы правільны плакат. Плакат патрабуе высокага майстэрства. А няма майстэрства—і бачыш ты пакарабачаны дыктавы планшэт з вялікарукімі і дробнагаловымі постацямі, а пад імі складзеныя з крывых літар патрэбныя словы, і табе робіцца непамысна і не можаш ты сказаць, што трэба зняць са сцяны, а ў дадзеным выпадку са сцэны, махровую халтуру. Не ведаю, як табе, а мне дык шкада хлопцаў з рок-групы «Удар». Яны пакідаюць сцэну ў поўнай цішыні. Чаму маўчыць зала? Хто памыліўся? Няўжо ўся справа толькі ў апаратуры, якая сапсавала першую кампазіцыю? Думаю, што не. Не ў ёй справа. На абмеркаванні выступіць прадстаўнік з Брэста і выкажа вельмі арыгінальную думку: «Хочуць яны слухаць «метал», хай слухаюць. Толькі трэба, каб гэта быў наш «метал», а не замежны. А каб з замежнага «металу» зрабіць наш,— растлумачыць прадстаўнік,— трэба ўзяць іхнюю музыку і пакласці яе на нашыя словы, атрымаецца наш «метал», і замежную музыку ніхто слухаць не будзе». Табе ясна? А мне не. «Удар» так і зрабіў. А дзе ж авацыі? Тэарэтыку з Брэста будзе пярэчыць кіраўнік «Верасоў» Васіль Раінчык: «Спадзявацца, што ніхто не будзе слухаць замежную музыку, гэта як думаць, быццам мы не будзем слухаць Баха і Моцарта, а будзем захапляцца толькі Мусаргскім ды Балакіравым». Што тычыцца музыкі, я згодны з Раінчыкам, але што рабіць з тэкстамі? Мяне больш хвалююць словы. А мо словы для такой музыкі і не патрэбныя?

На сцэне ВІА з Мінска «Гульня ў дождж» выконвае «Мелодыі з Полацкага сшытка» (без слоў). У мяне такое адчуванне, што нейкі фірмач-тэкстар проста не паспеў зрабіць хлопцам словы. Бедная салістка з-за гэтага цягне і цягне бясконцае і пластычнае, што гума, «а-а-а». Зала паціху засынае. Усіх выратоўваюць мячыкі. Надзьмутыя, вялікія і жоўтыя, яны будуць кінуты ў залу, пабудзяць яе, прыйдзе весялосць. Гледачы панясуць мячыкі дадому і будуць чытаць напісаныя на іх літары: «г», «у», «л», «ь», «н», «я», «ў», «д», «о», «ж», «дж». Цікавая знаходка. Як табе? А вось што нам рабіць з доўгім «а-а-а»? Можа, возьмем што-небудзь з класічнай лірыкі? Узялі не толькі мы з табою. «Гульня ў дождж» таксама ўзяла. І не абы-каго, а Марыну Цвятаеву. А што на сцэне? Музыка з вакалам маршыруюць у адзін бок, а Цвятаева са сваім вершам плыве ў другі. У мяне

*Заканчэнне на стар. 26.*



Юрый БУДЗЬКО

# «ЗЯМЛЯНЕ» — «ЮРАЯ ХІП»



Першы склад групы «Зямляне» сфарміраваўся ў 1975—1977 гадах у асяродку ленінградскіх самадзейных ансамбляў, і ўжо тады імя «Зямлян» абяцала тым, хто ладзіў канцэрты, гарантаваныя зборы. У 1979 годзе іх выступленне пачуў кампазітар Марк Фрадкін і прапанаваў музыкантам дзве свае новыя песні — «Чырвоны конь» і «Час цюльпанаў». Вопыт не падвёў кампазітара — абедзве песні ў выкананні маладых музыкантаў сталі папулярныя. Адразу ж хлопцам прапанавалі перайсці ў прафесіяналы. Пераспрабаваўшы мноства стыляў, кіраўнік групы Уладзімір Кісялёў знайшоў удалы сінтэз цвёрдай рытмікі року і меладычных тэм. З аднаго боку, гэта быў рок, які падабаецца падлеткам, з другога — беражлівае стаўленне да мелодыі і сур'ёзная ўвага да тэкстаў прывабіла да творчасці «Зямлян» і старэйшае пакаленне. Свае канцэрты група рабіла вельмі відовішчнымі: багатае, прадуманае святло, лазеры — усё было пастаўлена на добрым прафесійным узроўні. Група стала выступаць на вялікіх пляцоўках — стадыёнах, у Палацах спорту. Музыканты сталі зоркамі, лаўрэатамі многіх конкурсаў. Удала выступіўшы ў культурнай праграме Маскоўскага фестывалю моладзі і студэнтаў у 1985 годзе, «Зямляне» раптам надоўга змоўклі. Праз калектыў прайшло вялікае мноства новых людзей, пакуль на пачатку 1987 года склад не стабілізаваўся. Цяпер у «Зямлянах» іграюць Сяргей Скачкоў, вакаліст і клавішнік, які ўзяў на сябе ролю музычнага лідэра, гітарысты Юрый Бабенка і Сяргей Васільеў, бас-гітарыст Іван Кавалёў, барабаншчык Георгій Танкілідзе і вакаліст Юрый Жучкоў.

1987 год стаў для «Зямлян» годам адраджэння. У канцы года група зноў была ў зеніце славы — цяпер ужо ў сувязі з тым, што музыканты ігралі ў пары са славутай групаю «Юрая Хіп», якая прыехала ў СССР на гастролі. На фоне знакамітых калег «Зямляне», аднак, не згубіліся, яшчэ раз даказаўшы, што савецкая рок-музыка можа з годнасцю супернічаць з якой хочаце.

**«А ўсё-такі, усё-такі хочацца спяваць...»**
Нататкі Сяргея Міхайлава пра ўчарашні і сённяшні дзень аўтарскай песні чытайце ў наступным нумары.



*Заканчэнне. Пачатак на стар. 23.*

такое адчуванне, што на яблыню прышчапілі грушу.

Нарэшце антракт. Можна пагаварыць пра гасцей фестывалю, а іх не так і мала: «Залатая сярэдзіна» з Брэста, «Ты і я» з Вільнюса, «Метро» і «Бонда» з Мінска, «Адбітак» з Мазыра, «Біяканструктар» з Масквы і «Адбітак» з Яраслаўля.

Мазырская рок-група «Адбітак» піша тэксты «пад Высоцкага». Словы запамінаюцца. Што ні кажы, а гэта дасягненне, калі ўсе пасля канцэрта ходзяць і паўтараюць: «Мы там! Мы там! Мы там, дзе льюць метал!» Запомніў? Цудоўна. Не буду казаць, добра гэта ці блага — ісці за аўтарскай песняй, але, думаю, ты згодны, больш сумленна, чым механічна «перадзіраць» словы з плакатаў.

Тэксты «Біяканструктара» і «Бонды» можна, хай сабе і памылкова, назваць рок-паэзіяй. Ёсць у іх сучаснасць, выразнасць, ёсць сталічны «аскетызм». На вялікі жаль, абсалютная большасць груп і салістаў уражвалі сваёй правінцыяльнасцю, у самым благім сэнсе.

Пасля першага канцэрта мяне пачне мучыць пытанне, пра што павінны спяваць салісты рок-груп. Адказ я знайду. Трэба спяваць пра тое, што ты ведаеш лепш за ўсіх астатніх, пра канкрэтнае, пра сваё. Яшчэ адзін адказ мне падкажуць радкі з верша Сяргея Кавалёва «Размова»: «Мы шмат спяваем пра Ікараў, Заўжды ўслаўляем мы герояў. Давай напішам пра «Ікарус»...

Можа, паспрабуем спяваць пра «Ікарус»? Можа, патрэніруемся на аўтобусах, а не будзем кідацца «з нажом на танк», як гэта робіць саліст рок-групы «Квінта» з Мінска. Ён у белых портках, у белых пантофлях, у белай кашулі і абяцае ўсім гледачам не сыходзячы са сцэны забіць вайну. Абяцае ён гэта ў прыпеве, а крыху пазней, падчас пройгрышу, нечакана робіцца вялы і томны. Цяпер ён цалкам адпавядае сваёй пляжна-курортнай вопратцы. Смешна? У тым жа і справа, што не смешна. А вось у папярэдняй песні ён прапаноўваў не сумаваць, і ўсё было дарэчы: і белая кашуля з жабо, і томнасць у пройгрышах. «Квінта» (не блытай з вядомай групаю «Квін») атрымае першы прыз. Калі ёсць фестываль, пэўна ж, ёсць і прызы, усё належным чынам, але пералічваць, хто, што, і за што іх атрымае, у мяне няма жадання, гэтаксама, як няма жадання ў арганізатараў фестывалю праводзіць яго штогод.

«Раз у два гады!» — пачую ад старшыні аргкамітэта М. Масюкова і буду згодны.

Я не расказаў ў сваіх занатоўках пра 28 калектываў-удзельнікаў і хацеў папрасіць прабачэння, а потым думаю: не буду. Выдавалі музыканты ў залу свае 100 дэцыбелаў, а рок-група «Дзвіна» з Віцебска выкарыстала апаратуру ансамбля «Верасы» як толькі змагла. Апаратуры ў зале было на 500 тысяч, і міліцыянер пры ёй быў. У мяне пасля выступлення гэтай «Дзвіны» тры гадзіны ў вушах звінела. А ў гэтым звоне плавалі крыкі: «Прэч са сцэны!» Уяві, як трэба сыграць, каб табе крыкнулі: «Прэч!» Так што ніякіх прабачэнняў.

Вось і пабылі мы з табою на канцэртах. А зараз не лянуйся, напішы мне пра тэксты, пра «метал», пра нашую маладзёжную эстраду.

Фота **Сяргея БАРЫСАВА**

Уладзімір **АХРАМЕНКА**

# ДЗВЕРЫ Ў СВЕТ ДЖЫМА МОРЫСАНА

Сярод настальгічных вобразаў рок-музыкі другой паловы шасцідзесятых гадоў — «Бітлз», «Ролінг Стоўнз», «Ху» — група «Дорз»* і яе лідэр Джымі Морысан займаюць асобнае месца. Справа нават не ў стабільнай цікавасці да групы, а ў той ролі, якую «Дорз» было наканавана адыграць у амерыканскай грамадзянскай думцы свайго часу.

Жыццё Джымі Морысана — вір падзей, змяшэнне легенды і рэальнасці. Выхадзец з элітарных слаёў грамадства — сын адмірала ВМС ЗША — Джымі ў семнаццаць гадоў парваў са сваёй кастаю, да якой належаў па нараджэнні, і пайшоў бадзяцца па краіне. Пасля доўгіх нягод і блуканняў у дваццаць адзін год ён апынуўся на студэнцкай лаўцы Лос-Анжэлескага універсітэта. Дваццаць адзін — час пошуку сябе, і Морысан, як і многія са свайго пакалення, з надзвычайнай лёгкасцю мяняў захапленні і прыхільнасці: Дастаеўскі, Кафка, ёга, Джойс... У дваццаць два яму захацелася спяваць, і ён пачаў пісаць музыку...

Арганіст Рэй Манзарэк тым часам іграў блюзы і рок-н-ролы з групаю «Рык і крумкачы» ў трэцеразрадным шынку Лос-Анжэлеса. Джон Дэнзмор і Робі Крыгер наведвалі Цэнтр Махарашы (ёгі). У 1965 годзе адбылася сустрэча ўсіх чатырох. Так з'явілася група «Дорз». Некалькі гадоў Морысан і яго сябры працавалі над рэпертуарам, зараблялі на жыццё, граючы на танцах. У той самы час яны рабілі першыя спробы прабіцца на амерыканскі музычны рынак. «Мы запісалі адну рэч,— успамінае Манзарэк,—з якою я абышоў многіх бізнесменаў. Адзін тып з «Юнайтэд Артыстс» літаральна вышпурнуў мяне». Аднак Морысану ўдалося дабіцца падтрымкі фірмы «Калумбія», дзе «Дорз» узяла трохі грошай і апаратуру.

Першы альбом — «Дзверы» (1967) — забяспечыў групе месца сярод лідэраў амерыканскага року. Наступны — «Дзіўныя дні» (1968) — шмат у чым прадоўжыў лінію «Дзвярэй» — адсутнасцю знешніх эфектаў, шчырасцю, выпакутаванасцю музыкі і тэкстаў.

Што яны зрабілі з Зямлёю?  
Што яны зрабілі з нашай цудоўнай сястрою?  
Спустошылі і абрабавалі, зрэзалі і скусалі,  
Скалолі нажамі пры святле сонца і золку,  
Сцягнулі яе платамі...

Мы хочам увесь свет і хочам яго неадкладна!!!

(Памятаеце лозунг канца 1960-х гадоў: «Рэвалюцыя — неадкладна!») Так група стала найярчэйшай музычнай эмблемай сваёй эпохі. Поспех «Дорз», якіх у той час называлі «каралямі экстазнага року», быў каласальны. «Калі мы выконвалі «Свята Яшчара» ў лос-анжэлескім «Форуме» перад 18-тысячнай аўдыторыяй, Джым, застаўшыся адзін у промнях пражэктараў, спяваў: «Хавайцеся ў свае палаткі і думкі! Заўтра мы прыедзем у горад, дзе нарадзіўся я. Я хачу паспець!..» І святло павольна згасала, пакідаючы загіпнатызаваных слухачоў, якія моўчкі выходзілі з «Форума». «Усе адчувалі моцнае эмацыянальнае напружанне...» — успамінае Джон Дэнзмор.

Камерцыйны поспех аніяк не адбіўся на Джымавым ладзе жыцця. Ён быў носьбітам антыбуржуазнасці, якая была ў ягонай прыродзе,— уладальнік ці не паўмільёна долараў, ён па-ранейшаму жыў у трушчобах, бадзяўся, няраз зрываў канцэрты. Працягваў жыць у свеце летуценняў і фантазій, выдуманым ім самім.

Да 1970 года «Дорз» запісалі яшчэ пяць альбомаў — «У чаканні сонца» (1968), «Мяккі парад» (1969), «Гатэль Морысана» (1970), «Абсалютна жывы» (1970). Кампазіцыі гэтых альбомаў у мастацкіх адносінах нераўнацэнныя. Тут і песні супраць вайны (выкарыстаныя пазней Фрэнсісам Каполам у антываеннай стужцы «Апакаліпсіс нашых дзён»), і лірычныя мелодыі, і непрыхаваная камерцыя. Аднак музыцы не хапае галоўнага — шчырасці пачуццяў, якая была ўласцівая ранняй «Дорз»...

Смерць Морысана — такая ж легенда, як і яго жыццё. У 1970 годзе, ратуючыся ад амерыканскай Феміды, ён ад'язджае ў Парыж, дзе спадзяецца знайсці жаданы спакой. Паводле афіцыйных дадзеных, ён памёр там 3 ліпеня 1971 года. Аднак перыядычна з'яўляюцца паведамленні, што Джым не памёр, а толькі «хаваецца». Іншы раз з'яўляюцца запісы песень, у якіх надзіва моцна выяўляецца Морысанава манера. Багата размоў было вакол выдадзенай у сярэдзіне сямідзесятых гадоў кнігі Хопінса і Шугармэна «Ніхто не пойдзе адсюль жывы», дзе спевака абвясцілі другім Ісусам Хрыстом, месіяй, чыё з'яўленне і смерць Амерыка і ўвесь свет нібыта прагледзелі. «...мы ўсе не можам паверыць, што Джымі ўжо няма з намі,— кажа Роберт Крыгер,— а яго ж сапраўды няма...»

Морысана называлі «апосталам Амерыкі». А сам ён марыў, каб яго называлі паэтам.



Мал. **Адама ГЛОБУСА**

* «Doors» — **дзверы (англ.).**




# ЦІ ЛЁГКА ПАМАЛАДЗЕЦЬ ЛЁГКАЙ ПРАМЫСЛОВАСЦІ?

Наталля ГРОМАВА

Фота Уладзіміра КАЦАПАВА

Стаяла глыбокая восень. Было холадна, мокра. Ля аўтобуснага прыпынку да мяне падышла дзяўчына, апранутая ў грувасткую балоневую куртку брудна-сіняга колеру і такія ж паўботы (сказаць пра іх «паўбоцікі» было б надта прыгожа). У іх былі засунуты штаны, якія аддалена нагадвалі джынсы — у самым кепскім іх выкананні. Дапаўняў восеньскае адзенне недарэчны капялюш з палямі і... з вялікай прэтэнзіяй. Хаця імкненне дзяўчыны ні за што не адстаць ад моды было відавочнае, аднак эфект гэта выклікала зусім супрацьлеглы. «А ўсё — адзенне»,— падумалася міжволі. І, нібы сцвярджаючы мае думкі, дзяўчына неяк сарамліва зірнула на мяне і вымавіла няўпэўнена:

— Скажыце, дзе ў вас можна купіць нешта... сучаснае, ну — ватоўку... ці яшчэ што-небудзь, такое...

Я паглядзела на яе з цікаўнасцю. Дзяўчына працягвала:

— Нідзе нічога няма... Можа, падкажаце, куды лепш пад'ехаць?

Стала неяк няёмка ад гэтай яе бессаромнай шчырасці, і я, на хвіліну задумаўшыся, пачала таропка называць адрасы магазінаў, у якіх (а раптам?) удалося б ёй купіць што-небудзь неабходнае. Наша ж прамысловасць адгукаецца на навінкі лепш за іншыя...

— Ці, можа, вам — у «Моду»?..— працяла раптам думка.

Я шчыра жадала набыць абнову сваёй цікаўнай спадарожніцы. Хаця і падазравала: наўрад яна нешта купіць у гэтай недасягальнай «Модзе». Так яно, напэўна, і атрымалася. Таму што трохі пазней, калі я зацікавілася непрыступным магазінам непасрэдна, даведалася: ён, папраўдзе, пакуль што толькі мае намер здзівіць пакупнікоў. Але чалавеку дастаткова надзеі. Вось і стаіць штодня, цягнецца ля спакуслівых вітрын «жывая чарга». «А раптам куплю неабходнае? А не куплю цяпер — дык хоць шлях буду ведаць, дзе шукаць потым...»

Удачы вам, тыя, хто не страчвае надзеі. Удачы вам, незнаёмая спадарожніца. «Хто шукае — той заўсёды знойдзе»... І што характэрна: сапраўды знаходзяць!.. Выйдзіце на шумны гарадскі праспект, паглядзіце ўважліва на сваіх суграмадзян, і вы ўбачыце: пэўныя дзве трэці з іх выглядаюць так, нібы сышлі яны толькі што з вокладкі звышмоднага часопіса. Даследаваць прычыны гэтага феномена мы зараз не будзем. Паспрабуем лепш разабрацца з той адной трэццю, якая, мяркуючы па яе непрывабным абліччы, набывае адзенне ў звычайных нашых магазінах. Паспрабуем зразумець, прасцей кажучы, становішча тых, хто не знаходзіць.

Традыцыйная ўстойлівасць асартыменту нашых ГУМаў, ЦУМаў і іншых гандлёвых кропак адпаведнага профілю, якая не парушаецца ніякімі моднымі «павевамі», з году ў год упарта даводзіць пакупнікам думку аб тым, што сучаснае, прыгожае, дабротнае адзенне — не столькі сродак выхавання добрага густу ў насельніцтва, колькі... недапушчальная раскоша. «Адзенне — гэта ўсяго толькі адзенне. Галоўнае — каб не вельмі холадна зімой і не вельмі горача летам».

«Але як тады быць з эстэтыкай, чалавечай індывідуальнасцю, нарэшце?..» — можа нехта запярэчыць. Так пярэчаць даволі часта ў апошні час. Хаця не менш гавораць і пра тое, чаго лёгкай прамысловасці нестае, каб цалкам задаволіць нашы патрабаванні, якія няспынна ўзрастаюць. А нестае ёй, зноў-такі, традыцыйна многага: неабходнага абсталявання, рабочых рук, сыравіны, фурнітуры... Затое ў многіх ёсць жаданне добра працаваць. І зусім няма чаго сумаваць тым, хто не знаходзіць, але хоча знайсці.

І ўявіла я сабе раптам, як не знайшла мая нядаўняя спадарожніца-незнаёмка сабе добрага адзення і... зусім нават не засмучалася. Таму што паспрабавала дайсці да сутнасці. Паглядзець, інакш кажучы, на сітуацыю вачыма не толькі спажыўца...

Працоўны дзень на Жлобінскай эксперыментальнай фабрыцы штучнага футра даўно скончыўся. Сярод мноства патухлых вокнаў вялікага вытворчага корпуса свяцілася адно: у кабінеце дырэктара Тамары Іванаўны Ахрэмчык. Размову нашу з ёй можна было б назваць амаль задушэўнай, калі б не яе ўсхліпы — употай, час ад часу... Я ўпершыню бачыла такога засмучанага дырэктара.

А наперадзе было абмеркаванне пытанняў бязлітасных. Нялёгкіх. У нечым нават тужлівых. Менавіта такі «эмацыянальны букет» склаўся ў душы пасля наведвання цэха масавага пашыву, які быў завалены грувасткімі, нязграбнымі шубамі. «Хто ж іх такія купіць?..» — сумна падумалася тады.

Пачала размову дырэктар (за што я была ёй у глыбіні душы ўдзячная). І рассеяла мае сумненні вельмі па-чалавечы. Усхліпнуўшы апошні раз, яна выпрасталася, падабралася, паглядзела на мяне цвёрда і адкрыта, сказала:

— Непрыемнасці непрыемнасцямі, але да нашай размовы гэта адносін не мае.

— А што здарылася? — падхапіла я, прадчуваючы, што яе непрыемнасці маюць да нашай размовы самае непасрэднае дачыненне.

— План. Зноў завалілі план па рэалізацыі...

— Але ж фабрыка задумвалася некалі як вытворчасць эксперыментальная...

— Які ўжо тут эксперымент,— засмучана перапыніла мяне дырэктар.— Усе нашы эксперыменты пахаваны пад адным словам: вал.

З размоў са спецыялістамі высветлілася, што сутнасць жлобінскай эксперыментальнай вытворчасці была ў тым, каб апрабаваць на швейных вырабах узоры новых відаў штучнага футра. Каб уявіць сабе, што набыў бы ў канчатковым выніку пакупнік (паважаная незнаёмка, ад прыгожай шубкі вы, спадзяюся, таксама б не адмовіліся?), зайшла ў асартыментны кабінет фабрыкі. Нямым дакорам туліўся ён да цэха, які выпускаў адзенне для тых, каму ўсё роўна, што насіць. Затое тут — чаго толькі не было!..

— Няўжо вы думаеце, што мы не хочам шыць прыгожыя вырабы? — узрушана казала мне, памятаю, галоўны канструктар жлобінскай былой эксперыментальнай, а сёння — звычайнай фабрыкі масавага пашыву Валянціна Ягораўна Пракапенка.

Не, я так не думала, калі слухала прыгожую бялявую жанчыну, якая ўвасабляла на прадпрыемстве мастацка-канструктарскую думку. Таму што бачыла распрацаваныя ёю шубкі і паўшубкі на ўласныя вочы. «Дык чаму ж нельга тады выпускаць прадпрыемству тое, што і швейнікам рабіць будзе прыемна, і ў пакупнікоў пойдзе нарасхват,— падумалася.— Вырабы ж сучасныя, прыгожыя, танныя...»

Як наіўна, ведаю я цяпер, разважае ўсё ж чалавек, далёкі ад гэтай у многім супярэчлівай механікі працэсу «вытворчасць — купля — продаж». Толькі цяпер, калі давялося пахадзіць па шматлікіх кабінетах кіраўнікоў «верхняга», як кажуць, эшалона галіны, пагаварыць са многімі далучанымі да яе людзьмі, пачынаю я разумець, у які бік ператвараецца гэтая самая таннасць, такая пажаданая для пакупнікоў і такая небяспечная для вытворцаў. Яны ж, вытворцы, не ворагі народа. Ім таксама хочацца апранацца прыгожа і танна. Але жаданне гэтае для іх, як, уласна кажучы, і для ўсіх нас, пакуль толькі — утапічная мара. Таму што, каб сталі яны, напрыклад, вырабляць прыгожыя і танныя рэчы, хутка ім не было б нават іх за што купляць. А ў іх таксама — жонкі, дзеці, мужы...

Каб забяспечыць выкананне аднаго з асноўных паказчыкаў, які ў спецыялістаў называецца аб'ёмам рэалізацыі вытворчасці, а ў перадавых артыкулах і судовых фельетонах — валам, прадпрыемства вымушана ці ўвогуле адмовіцца ад таннага асартыменту, ці выпускаць яго як мага менш. А што ўваходзіць у такі асартымент — ведае кожны. Гэта звычайна вырабы для дзяцей, моладзі, людзей сталага веку. І ўсё ж — існуе нямала шляхоў, скіраваных на тое, каб не парушыць эканамічны баланс прадпрыемства, гатовага парадаваць пакупнікоў моднай прадукцыяй.

Шлях першы і самы просты. Бярэцца, скажам, чатырнаццатая літара нашага алфавіту — літара «н», з якой, як вядома, пачынаецца слова «навінка», змяшчаецца ў двукоссе і дапаўняецца сухім тэрмінам «індэкс».

Такім чынам — «індэкс «н». Вырабы, ім ушанаваныя, сталі, па сутнасці, дадатковай крыніцай даходу для прадпрымальных прадпрыемстваў: за новы асартымент ім належыць цяпер вялікая надбаўка. Магазіны ж, якія гандлююць навінкамі, ужо неяк зверху паглядаюць на сваіх звычайных суседзяў. Дый пакупнікі, зачараваныя перспектывай набыць сапраўды навінку, увесь дзень гатовы прамучыцца ў чарзе па яе. З сумнай зайздрасцю згадваю дзяўчыну, якая шукала ватоўку: тая ўвогуле была гатова ахвяраваць рытуалу пранікнення ў магазін з такім жаданым новым таварам цэлыя суткі... А цяпер уявіце сабе, што яна ў такі магазін усё ж трапіла. І што ж?

— Паглядзіце вы на гэтую навінку! — успамінаю абуральна-ўрачысты вокліч адной з пакупніц.— Банцік прысабачылі — і дзякуй вам: навінка. Дзікія грошы каштуе, між іншым. А што ў ёй новага?!

— Як гэта, прабачце, «што ў ёй новага»? Банцік вам не які-небудзь: з асобага шоўку. І ўвогуле... Раней на гэтым месцы

прышывалі проста гузік. А цяпер вось — банцік. Разумець трэба... Тлумач тут кожнаму,— раствараецца ў гулкай гандлёвай зале стомлены, раздражнёны голас прадаўца. Голас гандлёвага сервісу, які адстойвае гонар... чужога мундзіра.

І ўсё-ткі — вы зайдзіце туды, дзе гандлююць сёння навінкамі. І вы зразумееце, што ўся гэтая «новая» задума — усяго толькі спроба ўпэўніць вас у тым, што звычайная норма — гэта ніякая не норма, а звышклас. За што і даплачваюць. Але ж не прыходзіць чамусьці нікому ў галаву даплачваць, скажам, кухару за тое, што ён прыгатаваў страву, якую можна есці, ці доктару за тое, што той вылечыў хворага...

Не будзем, аднак, усё валіць, як кажуць, з хворай галавы на здаровую. Таму што жыццём і лёсам прадпрыемстваў да нядаўняга часу цалкам распараджалася міністэрства. Пра вынікі яго бясспрэчнага адзінакіраўніцтва (каб не сказаць «дыктатуры») уяўленне мы ўжо маем. Кожны — са свайго, шчыра кажучы, уласнага жыццёвага вопыту, набытага ў барацьбе за «больш-менш добрыя» кашулю, штаны, світэр, зноў жа паліто...— пералік можна працягваць. У барацьбе, якая з астранамічнай дакладнасцю дзень у дзень, гадзіна ў гадзіну і нават часам хвіліна ў хвіліну разгортваецца на пляцоўках бліжэй да бакавых дзвярэй магазінаў, якія хочуць жыць добра.

— Дзе ж якасныя рэчы? — спытала я, згадваю, досыць гучна начальніка ўпраўлення па якасці Мінлегпрама БССР Зінаіду Пятроўну Надзіну. І адразу ж асеклася. На стале ў Зінаіды Пятроўны стаіць амаль што непрыкметная бутэлечка з надпісам «карвалол» на этыкетцы...

Уяўляеце, колькі будзе неабходна заўтра карвалолу, калі кожны кіраўнік стане ўсё так успрымаць... Гэта па-першае. А па-другое — пакупніку няма справы да нашых уласных цяжкасцей, у якія перараслі цяжкасці грамадскія. Яму якасць падавай.

Размаўляючы са мной, Зінаіда Пятроўна, нібы Юлій Цэзар, нешта піша, адначасова гаворыць па тэлефоне, клеіць нейкія паперы. Што робіць з жанчынай эмансіпацыя...

— Прабачце, хвіліну — і мы з вамі пагаворым больш падрабязна.

Я вінавата ківаю, а яна ўсё піша, звоніць, клеіць... «І так — бясконца»,— мільганула думка.

— Над праграмамі па якасці мы працуем шмат гадоў...— гэта ўжо да мяне.— Уступіла ў сілу і спецыяльная Рэспубліканская комплексная праграма развіцця вытворчасці тавараў народнага спажывання на 1986—2000 гады. Яе сутнасць — арыентацыя на канкурэнтаздольнасць...

Заўважыўшы ў маім поглядзе нешта ад сумнення, Зінаіда Пятроўна ўдакладняе і канкрэтызуе:

— Мы **павінны** выпускаць прадукцыю, якая ні ў чым (!) не мае права быць горшай за імпартную.

Калі-небудзь такую прадукцыю наша прамысловасць і сапраўды будзе выпускаць. Я зусім у гэтым упэўнена. Але пакуль што большасць новых маіх знаёмых з ланцуга «цэнтральных гаспадарчых органаў», людзі, між іншым, усе вельмі годныя і сімпатычныя, апранутыя ў сукенкі і касцюмы, пра якія ў народзе кажуць, што яны «мэйд ін не наш»...

— А справа яшчэ і ў тым, што аднаго энтузіязму, самаахвяравання і нават... імпартнага абсталявання недастаткова для таго, каб шыць прыгожа, элегантна і з добрым густам,— сказала Надзіна. Потым троху памаўчала і вымавіла таямнічае: «Пакет вырабу». Зірнуўшы на мяне, расшыфравала:

— У гэты швейны тэрмін пытанне якасці ўпіраецца ўшчыльную.

Пакет вырабу. Я папрашу вас, паважаны чытач, добра гэты выраз запомніць і паставіцца да яго ўважліва. Справа ў тым, што шмат дзесяцігоддзяў запар сустракалі мы адзенне выключна па знешнім яго выглядзе. Не падазраючы пры гэтым, якія могуць хавацца ў ім «унутраныя падвохі». Ці задумваліся вы, скажам, калі-небудзь пра тое, чаму ў працэсе «эксплуатацыі» імпазантнасць вашых такіх прывабных некалі абноў назаўсёды страчваецца? Таму, аказваецца, што нельга ў швейнай справе ігнараваць той факт, што звычайны, скажам, мужчынскі пінжак, напрыклад, «складаецца» з 33-х кампанентаў, у якія ўваходзіць усё: прыкладныя матэрыялы, канструктарскія дэталі, уласцівасці тканіны, з якой яны пашыты...— што і ўяўляе сабой той самы «пакет».

Такім чынам — 33 кампаненты. Заўважу, што наша швейная вытворчасць, якая вырабляе мужчынскія пінжакі, заўсёды абыходзілася... 11-цю кампанентамі. Замест 33-х. І нічога. Насілі. Што ж гэта, калі ўдумацца, выходзіць? А выходзіць, як гэта ні сумна, суадносіна адзін да трох: мяркуючы прымітыўна, з трох нашых пінжакоў можна пашыць толькі адзін замежны... і наадварот. І хадзіце сабе, паважаныя мужчыны, у адной, карацей кажучы, трэці пінжака (калі весці адлік ад пінжака добрага, якаснага), і ўвогуле: зусім нявapта разлічваць нашым мужчынам на прыгожае якаснае адзенне. Ва ўмовах колькаснай перавагі жанчын кожны з іх і так пойдзе за першы клас, у што б ён ні быў апрануты.

Але бог з імі, урэшце, з мужчынамі і з іхнімі пінжакамі. Адзін да трох — гэта суадносіна яшчэ неблагая. А вось як паставіцца да суадносіны 125 да 20-ці? Такая сітуацыя з абуткам. 84 працэнты камплектных дэталей у нашай абутковай вытворчасці не адпавядаюць сусветнаму стандарту. Неканкурэнтаздольны. Гэта ўжо — агульнаактуальна.

— Упершыню ў краіне наша міністэрства распрацавала мэтавыя асартыментныя праграмы...— працягвала тым часам свой расказ Надзіна.

Эх, ведалі б вы, прагныя, заўсёды незадаволеныя пакупнікі, які будзе эфект ад усіх гэтых праграм! Галіна ж ужо пяты год знаходзіцца, можна сказаць, пад «прыцэлам» і практыкаў, і тэарэтыкаў усіх рангаў. Эксперымент, новыя ўмовы, спецыяльныя планы... «Мінлегпрам рэспублікі гатовы ўзяць на ўзбраенне новыя метады цэнаўтварэння, якія дазволяць забяспечыць прадпрыемствам роўны прыбытак пры выпуску розных па матэрыялаёмістасці вырабаў, якія карыстаюцца попытам»,— запэўніў у адным са сваіх выступленняў у цэнтральным друку намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР А. Пятроў.

Што ж, магчыма, Мінлегпрам і сапраўды да гэтага гатовы... А ці гатовы ён, цікава, наладзіць непасрэдныя сувязі з... Гідраметцэнтрам? Каб рэгуляваць змену зімы, лета, восені ў залежнасці ад таго, наколькі «ажыццявілі падрыхтоўку» да сезонных сустрэч з пераборлівым спажыўцом?..

...А вясна ўсё ж прыйшла. Што там цяпер у модзе? Разгорнем элегантны часопіс і прачытаем: «У гэтым сезоне ў моду ўвойдуць...» А цяпер — загорнем, мусіць, часопіс і паставім у сваім уяўленні кропку там, дзе яна пераўтварылася ў шматкроп'е. У моду ўвойдзе тое, што прапануюць нам вясною нашы магазіны.

«Абсурд...» — адкажа мне на гэта ўяўны апанент.

А потым прыйдзе лета. Але з гэтым прасцей: «толькі б не горача»...

І нарэшце — аўтобусны прыпынак. Глыбокая восень. Холадна. Мокра. Да мяне падыходзіць дзяўчына ў нязграбнай цёмна-сіняй балоневай куртцы.

— Скажыце, дзе ў вас можна купіць нешта сучаснае, ну, хаця б ватоўку...

— На рынку! — адкажу я бадзёра і, думаю, не памылюся...

**ПРАДСТАЎЛЯЕМ РЭДАКЦЫЮ**



**Наталля ГРОМАВА,**
рэдактар аддзела ідэйна-маральнага выхавання

**Заняткі журналістыкай дапамаглі мне засвоіць нямала карысных ісцін. Але больш за ўсе астатнія запомніліся, пэўна, дзве. У выніку: 1) стараюся абыходзіцца з іншымі так, як хацелася б, каб абыходзіліся са мною; 2) думаю, што зразумець людзей можна толькі добра разабраўшыся ў самой сабе.**



**Марына МАЛЕЦ,**
тэхнічны рэдактар

**— Без жаночых рук любая справа, нават часопіс, будзе выглядаць занядбанаю. І наадварот...**



**Рыгор МАЙЗЭЛЬС,**
заслужаны трэнер БССР

# ЖАНЧЫНЫ-АСІЛКІ



## АБО ПРА ШТО НАГАДАЛА СТАРАЯ ФАТАГРАФІЯ




«Гэта жахліва!», «Куды мы коцімся?», «Жанчына — гэта грацыя, а не бульдозер!», «Эмансіпацыя ў спорце — выдаткі дваццатага стагоддзя!», «Нельга!», «Не дапускаць!..»

І праўда, удумайцеся, каму прыйшлі б у галаву ў час першых алімпіяд такія словы: «жанчына-марафонец», «жанчына-дзюдаістка», а цяпер яшчэ і «жанчына-штангістка»?

А між тым пачыналася ўсё гэта не сёння...

«Цырк. Сёння і заўтра адзіны ў свеце чэмпіянат французскае барацьбы.

Удзельнічаюць чэмпіён свету Паддубная, Педэрсан, Збышка-Цыганевіч і іншыя знакамітыя барцы».

Такая афіша з'явілася на рэкламных шчытах і штыкетніках у адзін са жнівеньскіх дзён 1923 года ў г. Скобелеве (цяпер Фергана).

Вестка аб нябачаным дагэтуль відовішчы ўскалыхнула і гараджан і жыхароў навакольных кішлакоў. Літаральна ўсе жыхары імкнуліся трапіць у цырк. Але не дужа многім удалося гэта зрабіць. Апоўдні, нягледзячы на спякоту, ля касы стаяла велізарная чарга. Білеты былі прададзены ўмомант. Увечары цырк быў проста набіты людзьмі. Гледачы запоўнілі праходы, галерэі і з нецярпеннем чакалі займальнага відовішча.

І вось нарэшце загучаў бравурны «Марш гладыятараў», на арэну ва ўрачыстых строях выйшлі мажныя кабеты, багата ўпрыгожаныя стужкамі і медалямі. Затым арбітр стаў прадстаўляць удзельнікаў чэмпіянату.

— Чэмпіён свету цётка Маня Паддубная,— гучна аб'явіў ён, і ўперад выйшла самая высокая жанчына з грэнадзёрскаю выпраўкай.

Затым былі рэпрэзантаваны астатнія ўдзельніцы чэмпіянату, уладальніцы не менш імпазантных фігур і прозвішчаў славутых цыркавых барцоў.

Гледачы іранічна ўсміхаліся. Але калі пачаўся матч паміж Паддубнай і Педэрсан, скептычнае стаўленне да наваяўленых барцоў знікла. Схватка праходзіла доўга і ўпарта, паводле ўсіх правілаў французскай (цяпер класічнай) барацьбы. Публіка ўвесь час узрывалася апладысментамі і смехам пасля пачутага віску суперніц.

Перамагла цётка Маня Паддубная. Затым яна па чарзе паклала на лапаткі ўсіх удзельніц чэмпіянату.

На заканчэнне арбітр выклікаў з публікі ахвотнікаў памерацца сіламі з чэмпіёнам свету цёткай Маняй. Але ніхто з прысутных не выказаў жадання ўступіць з ёю ў двубой.

Так было і ў наступныя дні на ўсіх матчах, якія спрэс ішлі аншлагамі.

У горадзе яшчэ доўга гаманілі пра гэты незвычайны чэмпіянат. Многія стараліся даведацца, як ён узнік. Вось яго гісторыя.

У дарэвалюцыйны час прафесійная французская барацьба займала прыкметнае месца ў праграме цыркаў. Наўрад ці існаваў цырк, у якім не было б чэмпіянату. Але ўсе гэтыя чэмпіянаты былі дбайна падабранымі барцоўскімі трупамі, набор у якія рабілі, прытрымліваючыся прынцыпу «тыпажу»: існавала вельмі дакладнае размеркаванне роляў, барцоўскія пары ствараліся паводле закону кантрасту — вялікі з маленькім, тоўсты з худым, «выдатны тэхнік» з «першабытным зверам», «герой» са «злодзеем», «комік» з «рэзанёрам» і г. д. Вынік паядынкаў вырашаўся загадзя на карысць сцэнічнага эфекту, уласна спартыўны пачатак не адыгрываў аніякай ролі.

Заўважыўшы, што публіка стала абыякавая да прафесійнай барацьбы і што праз гэта ў цырках дужа паменшыліся зборы, гаспадары чэмпіянатаў пусціліся на розныя аферы (у тыя гады, гады нэпа, на чале барцоўскіх цыркавых чэмпіянатаў сталі прыватныя прадпрымальнікі), арганізаваўшы жаночы чэмпіянат на пацеху правінцыйнаму гледачу. Пазней барацьба была выключана з праграмы першых дзяржаўных цыркаў.

Аднак рост спартыўнага руху ў краіне вымусіў савецкі цырк перагледзець такое стаўленне да барацьбы. У 1933 годзе, у сувязі з умацаваннем спартыўных тэндэнцый у цырку, Упраўленне цыркаў сумесна з Вышэйшым саветам фізічнай культуры распрацавалі прынцып правядзення прафесійнай барацьбы на цыркавой арэне, у якім стаўка рабілася на спартыўны пачатак. У чэмпіянатах бралі ўдзел толькі мужчыны. Гэтыя чэмпіянаты паспяхова праводзіліся на арэнах савецкіх цыркаў да 1960 года.

Гаворачы пра жаночую барацьбу, трэба прызнаць, што сёння гэта ўжо рэальны факт. Дзюдо — адзін з першых відаў жаночай барацьбы, які трывала ўвайшоў у спартыўнае жыццё планеты (на чарзе засваенне жанчынамі іншых відаў барацьбы). І, назіраючы за паядынкамі прадстаўніц «слабага» полу, прыходзіш да высновы, што яны прынеслі ў гэты від спорту нейкую невытлумачальную асаблівую прыгажосць і чароўнасць.

Сямён БУКЧЫН

# ЯК ПЕРААДОЛЕЦЬ РАЗРЫЎ?

## ПАЛЕМІЧНЫЯ НАТАТКІ ПРА ПЕРАБУДОВУ Ў ЛІТАРАТУРЫ




Мал. **Яўгена ЦАРКОВА**

З малых гадоў запомніўся абразок у старым падручніку. Называўся ён «Рыбакі на крызе». Вецер гоніць усё далей і далей ільдзіну з людзьмі. Усё шырэе і шырэе чорная паласа вады паміж берагам і тымі, каго зносіць у адкрытае мора. Гэты вобраз згадваецца ўсё часцей, калі разважаеш пра суадносіны грамадскіх працэсаў у цэнтры і «на месцы». І найперш аб працэсах у духоўным жыцці і літаратурнай справе, якая вызначае яго стан.

Я не ідэалізую працэсу перабудовы ў цэнтры. Прэса сведчыць пра яго складанасць, неадназначнасць. Але перад намі прынцыповая барацьба за перабудову як працяг рэвалюцыі, перад намі новы ўздым старых гуманістычных традыцый, перад намі імкненне наладзіць сапраўдны, а не імітаваны дыялог з грамадствам. А што ж правінцыя? Не буду гаварыць, як той казаў, «за ўсю краіну». Але як ацаніць тое, што адбываецца ў нас дома, у беларускім грамадска-літаратурным жыцці? Безумоўна, можна казаць пра пэўнае ажыўленне друку, пра выяўленне задраманых тэндэнцый, канфліктаў. Але калі ўзяць на поўніцу, дык увідавочнілася пэўная інтэлектуальная нямогласць, прычына якой у тым, што няма тых самых кадраў, якія, паводле адмысловага выслоўя, «вырашаюць усё». А калі каму не дапасуе тое, што «няма» (і ўжо рыхтуецца ганаровы пералік імёнаў і лічбаў), дык, можа, пагодзімся на грунтоўнай загнанасці гэтых кадраў у кут?..

З'ява гэтая неспадзяванай не здаецца. Нястача аўтарытэтных інтэлектуалаў у галіне філасофіі, гісторыі, літаратурнай навукі (альбо зноў жа іх загнанасць у кут, іх нераскрытасць) прывяла да таго, што ўжо стала амаль нормай нападаць на тых нямногіх, хто набіраўся рызыкі выступаць са сваіх, афіцыйна не санкцыянаваных этычных і эстэтычных пазіцый. Мы не забыліся пра расцугляную кампанію цкавання Быкава. Не выкінем з памяці і спробаў наклеіць ярлык нацыяналіста на Караткевіча. Будзем памятаць і цяжкае жыццё Бярозкіна. Саму разнастайнасць думкі правінцыя і сёння разглядае як крымінал. Гісторыя з Алесем Адамовічам бліскуча гэта пацвярджае. Парадокс у тым, што якраз у час перабудовы ён вымушаны быў пакінуць межы рэспублікі, не знайшоўшы тут падтрымкі і ўвагі.

Вазьму на сябе адвагу сцвярджаць, што ніякая перабудова, па сутнасці, не патрэбна асноўнай нашай «пісьменніцкай масе». Яно і праўда, хіба ж блага жылося да перабудовы? Вельмі няблага жылося! І аднатомнікі, і зборы твораў выходзілі, напаўзаючы адно на адно несакрушальнымі кагортамі на паліцах у кнігарнях. І крытыка як след услугоўвала. І парадак, законы іерархіі — пальцам не зачапі. Плылі ганарары за стратныя выданні, прысуджаліся ў сваім коле ўзнагароды і прэміі за не вядомыя грамадству творы. І ўся калатня вялася, у асноўным, за — каму большы кавалак пірага, каму меншы. А пірог даволі ўпечысты, бо, побач з прыбыткамі ад кніг Быкава, Караткевіча і яшчэ шэрагу нашых літаратараў, пёкся ён, галоўным чынам, на дывідэндах ад выпуску выдавецтвамі кніг Льва Талстога, Дастаеўскага, Булгакава, Цвятаевай... Салідная кампанія нашага брата агнездавалася на класіках ды на Агаце Крысці з Сіменонам. І, мабыць, яшчэ доўга будуць на ўтрыманні. Пра гэта неяк не прынята гаварыць... Але ж сёння ва ўсіх на языках «гаспадарчы разлік», «самафінансаванне». А што, калі напраўду зробіцца практыкай выказаная У. Салаухіным у «Литературной газете» прапанова — плаціць ганарар з улікам прададзеных экземпляраў?

Я разумею калег — падумаць пра гэта і тое страшна. Дый ці заўсёды можна культуру вымяраць рублём? І гаварыць няма чаго: трэба выдаваць малатыражную паэзію, малатыражную крытыку, першыя кнігі прозы маладых. Але таленавітую паэзію! Таленавітую крытыку і прозу! І паўстае тут галоўнае пытанне: хто ж будзе аддзяляць овенаў ад козлішчаў, талент ад пасрэднасці ці — што яшчэ горш — ад бяздарнасці?

Мы прызнаём эпоху застою ў многіх сферах нашага жыцця. А ці прызнаём мешчанізацыю духоўнай сферы, літаратурнага быту? Па доказы далёка хадзіць не трэба. Сёння, у дні перабудовы, шаноўны празаік друкуе раманы, у якім шчыра любуецца галоўным героем (падобна, што — аўтабіяграфічным), такім да мазгоў касцей мяшчанскім, што крычаць хочацца.

Але навошта лямант? Гэты ж пісьменнік з яго духоўна-убогім героем — законны прадукт эпохі. І ў гэтым сэнсе ён таксама яе, эпохі, выяўленне, аблічча.

Сапраўды, эпоха застою вылучыла «свае кадры». Дык ці будзем жа мы прызвычаена ўраўнаважваць недахопы з дасягненнямі? Ці будзем гаварыць пра метастазы пошласці, бескультурнасці, правінцыялізму, безгалоснасці, якія патачылі наш духоўны быт?

Але вось павеяла новымі вятрамі. Якое ж галоўнае пытанне вылучылася ў нашым пісьменніцкім жыцці? Нацыянальнай мовы, нацыянальнай культуры. Ці нармальна гэта? Абсалютна нармальна. Вырвалася тое, пра што доўгія гады гаварыць адкрыта не было прынята. Рабілі выгляд, што ўсё добра, што няма прычыны трывожыцца. Але каму ж і трывожыцца за лёс роднай мовы, як не пісьменніку? Бо лёс мовы — гэта лёс літаратуры, лёс народа. Прарваўся шматгадовы боль... І ўсё-такі артыкулы ў «ЛіМе», палкія выступленні на пісьменніцкіх сходах пакідаюць уражанне непаўнаты, нейкай завужанасці гаворкі. Да каго апелююць аўтары артыкулаў і прамоўцы? Калі да кіраўніцтва, ад якога шмат у чым залежыць становішча нацыянальнай мовы ў школах, дык зразумець гэта можна. Беларускую мову павінны вывучаць усе вучні — гэта відавочная ісціна, супраціўленне якой разбурае сувязь асобы з зямлёй, на якой гэтая асоба заклікана жыць і ствараць. Але ж аўтары артыкулаў і прамоўцы звяртаюцца і да шырокай грамадскай думкі. Менавіта ў гэтым аспекце і выступае як відавочная «недастатковасць», абмежаванасць такіх зваротаў. Таму што выпускаецца з-пад увагі вельмі важная акалічнасць: сёння ў нашай краіне нацыянальная самасвядомасць не ёсць нейкае хімічна чыстае рэчыва; яна пранізана сацыяльнымі ўяўленнямі, сацыялістычнымі ідэаламі і спадзяваннямі. Нарэшце гэта барацьба за сапраўдныя духоўныя каштоўнасці. І тут выяўляецца асноўная праблема — спалучэнне нацыянальнай зацікаўленасці з тым клопатам аб праўдзе, сацыяльнай справядлівасці, лёсам рэвалюцыйнага пераўладкавання нашага грамадства, што так хвалюе сёння ўсю краіну ад Брэста да Уладзівастока.

Вядома, усё вырашае не толькі пазіцыя, але і талент. Мы неяк прывыклі, што таленты заўсёды ёсць. Трэба толькі адчыніць перад імі дзверы. Але я болей схільны давяраць таму выказванню, што талент — рэдкасць. Сёння дзверы адчыніліся. А што прапанавала з сваіх запаснікаў беларуская літаратура? Высветлілася, што «ў стол» амаль ніхто не пісаў. Усё ішло «на продаж». Калі не лічыць аповесці пакутніка культаўскіх часоў Барыса Мікуліча, вершаў нябожчыка Алеся Бачылы, Сяргея Грахоўскага. Вось і выходзіць: шмат крыку і мала чарнавой, суровай, самаадданай працы, не разлічанай на «праходнасць». Той працы, у якой чытач знайшоў бы водгук на свой інтэлектуальны, гістарычны, эстэтычны пошук.

А пакуль што беларускі чытач галасуе падпіскай за маскоўскія выданні. І я не бачу, каб што-небудзь рабілі кіраўнікі тых беларускіх выданняў, якія выходзяць непрыстойна мізэрнымі тыражамі. Дый і навошта там нешта рабіць? Гэта ў часы Пушкіна, Някрасава, Багдановіча часопісам і газетам трэба было змагацца за чытача. Выданні, якія трацілі чытача, прагаралі, закрываліся.

Я перакананы, што рэвалюцыйны падыход да справы здольны прыцягнуць да беларускіх выданняў шырокага чытача (зрэшты, беларуская мова — гэта не кітайская і не санскрыт!). Але якая можа быць рэвалюцыя пры нашай местачковай абачлівасці, пры нашай упэўненасці, што наш дабрабыт пры нас і застанецца, таму што мы — дзеячы нацыянальнай культуры, і ўжо толькі таму грамадства абавязана падтрымліваць нас.

Сёй-той зразумеў, што ў спрыяльных грамадскіх умовах (дэмакратызацыя, галоснасць) можна паспрабаваць кампенсаваць сваю творчую няздатнасць альбо невядомасць славай «нацыянальнага заступніка». Але дзе ж былі раней гэтыя «заступнікі»?

Правінцыяльная абмежаванасць даволі характэрна выяўляе сябе і ў адносінах да крытыкі. Сапраўды, ці ж будзе пісьменнік, які шчыра заклапочаны праблемамі роднай літаратуры, публічна прапаноўваць, каб розныя крытычныя матэрыялы, якія ідуць з рэспублікі ў Маскву, маскоўскія рэдактары ўзгаднялі з кіраўніцтвам СП БССР, таму што тут, на месцы, відней, каго і як трэба крытыкаваць. Пра якую ж перабудову можна гаварыць, калі ў мазгах, у крыві, у генах жыве і лічыцца нармальнай бюракратычна-іерархічная псіхалогія? Калі Саюз пісьменнікаў уяўляецца дэпартаментам, калі творчая атмасфера, парада, нармальная палеміка падменены апантаным жаданнем «кіраваць працэсам» і быць на першых ролях. Зразумела: літаратурны бюракрат, як і ўсякі іншы, намагаецца стварыць уяву поўнага ладу ў яго ведамстве. Вось толькі б яшчэ гэтым партызанам, што ва ўсесаюзны друк прарываюцца, рукі выкруціць.

Зрэшты, і ў сябе дома здараюцца недагляды. Недагледзелі — і прайшоў у «ЛіМе» артыкул Леаніда Дранько-Майсюка «Як» і «навошта»? (17 ліпеня). Не стрываў малады паэт, пасаромеўся самазадаволенага застою і безгалоснасці: «Чым нам апраўдацца перад нешматлікім беларускім чытачом, які прагне новага слова пра сваю краіну і яе гісторыю?» І адразу на адным сходзе ў Саюзе пісьменнікаў паследаваў суровы вокрык: зноў бэсцяць нашу выдатную літаратуру! Між тым артыкул Л. Дранько-Майсюка спадабаўся чытачам. Адзін з іх, А. Цыбін, напісаў у рэдакцыю: «ЛіМ» толькі выйграе ў сваім развіцці, калі на яго старонках будуць спрэчкі. Змагайцеся за чытача, дапамагайце нам быць удумлівымі, зацікаўленымі, гаварыце з намі не саромеючыся, тады і мы не будзем убаку ад літаратуры. Выдатнае пісьмо, праўда? Але не спяшаймася. Вось як пракаментавала гэты ліст рэдакцыя «ЛіМа» ў аглядзе чытацкай пошты: «Вам, відаць, больш даспадобы бадзёрыя і гучныя... прамовы, якіх так многа было да нядаўняга часу на старонках перыёдыкі» (25 верасня 1987 г.).

Як жа яно так? — спытаецеся.— Чытач жа зусім не заклікаў да натужліва-бадзёрых прамоў. Наадварот, ён за шчырасць, палемічнасць, якія яму так спадабаліся ў артыкуле Дранько-Майсюка. Навошта ж прыпісваць чытачу тое, чаго ён не пісаў?

А вузельчык развязваецца проста. А. Цыбін лічыць, што калі б на такім узроўні, як у артыкуле Дранько-Майсюка, пастаянна вялася гаворка пра літаратурныя справы, дык меней было б «слёзных прамоў» пра мову. Што ж, у чытача можа быць свая думка, хай сабе і суб'ектыўная. Але А. Цыбіна адразу тузанулі за рукаў. Ды яшчэ груба, параўнаўшы з прыдуркаватым Пятрушкам з гогалеўскіх «Мёртвых душ». Ва ўспрыняцці ўдумлівага чытача грамадзянскае аблічча пісьменніка сёння мае адмысловую, прынцыповую значнасць. Хто ёсць хто — гэтае пытанне востра стаіць сёння ў літаратуры, і не толькі ў ёй. Рэвалюцыйныя эпохі заўсёды выклікалі натуральную пераацэнку каштоўнасцей. Найбольш няўтульна ў гэтую пару адчуваюць сябе літаратурныя ранцье. «А што далей?» — пачуў я ад аднаго пісьменніка, калі мы разгаварыліся пра новыя з'явы ў літаратурным жыцці Масквы і Ленінграда — новыя публікацыі прозы і паэзіі, вострую публіцыстыку ў газетах і часопісах. «Ну, надрукуюць яны тое, што ляжала дзесяць або дваццаць гадоў — раманы, аповесці... Ну, выкажуцца да канца ў палемічных артыкулах... А далей што?»

А я падумаў: чаго ён так нервуецца? Ці не таму, што «Па праву памяці» Твардоўскага, «Рэквіем» Ахматавай, раманы Бека, Дудзінцава, Трыфанава, Рыбакова, Мажаева, Прыстаўкіна, артыкулы Каракіна, Дзядкова, Кардзіна, Бурціна даюць чытачу той узровень мастацкай і публіцыстычнай праўды, на фоне якога даволі сціпла, каб не сказаць больш, выглядае тое, што прапануюць таму ж чытачу сёння многія нашы калегі. Калі не было гэтай чытацкай пагоні за маскоўскімі і ленінградскімі часопісамі, калі не было новых літаратурных вяршынь, дык і творчасць нашых калег выглядала нейкімі пагоркамі. «Раўнінная» плынь жыцця і літаратуры спрыяе таму, што пагоркі добра відаць. А тут выраслі побач такія горы, што пагоркі проста растварыліся. Да таго ж высветлілася, што «пагоркі» не маюць чаго сказаць нават у новай грамадскай сітуацыі.

Вось яны і захваляваліся: «Нас не відаць». А раптам і праўда скончыцца гэты сонны і сыты быт? Увядуць самафінансаванне ў выдавецтвах, перастануць гвалціць кнігарні непатрэбнымі тыражамі, будуць улічваць перш за ўсё інтарэсы чытача... І скончыцца гэтае ўтульнае жыццё ў літаратуры, літаратурная кар'ера.

Гэта фантазія, безумоўна... Яны гэтага не дапусцяць. Дакажуць дзе трэба, што без іх кніг літаратура непапраўна збяднее, што чытач без іх раманаў не атрымае адпаведнага выхавання. Яны будуць галасіць, запалохваць. І не без поспеху.

...Горка думаць, што сёння мы «праславіліся» неразуменнем Адамовіча, абскурантысцкімі адносінамі да творчасці Марка Шагала, вульгарнымі ацэнкамі «Дзяцей Арбата» Рыбакова, хваравіта-фанатычнай падазронасцю, якая ўсюды бачыць усемагчымыя падступствы. А нашы паседжанні, нашы пісьменніцкія пленумы? На трыбуну ўзыходзіць чалавек з членскім білетам Саюза пісьменнікаў і партыйным білетам. Чалавек у сучасным гарнітуры, пры гальштуку. Але вось ён пачынае гаварыць, і перад намі паўстае вобраз даўно мінулых часоў.

Але ж гэта і добра, што перабудова выкрывае сапраўднае аблічча... Я гляджу ў нашу пісьменніцкую залу. Бачу сівыя галовы нашых аксакалаў, якія шмат чаго зведалі, таленавітых, разумных, умудроных. І думаю: чаму яны маўчаць? Берагуць здароўе? Баяцца, каб іх не залічылі ў «непатрыёты»? Я шукаю маладыя твары. Няўжо ўсе аргументы ў тупаце ног і групавых апладысментах?..

НЕКАЛЬКІ ІНТЭРВ'Ю НА ВЕЧНУЮ ТЭМУ

# ПРА КАХАННЕ — НА ФОНЕ МУЗЫКІ

Святлана БАРТОХАВА



З лаўрэатам прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, кампазітарам Валерыем Івановым мы прагаварылі каля пяці гадзін.

Натуральна, галоўная тэма нашай гаворкі доўга заставалася патаемнаю. Спачатку гаманілі пра музыку, пра паэзію — пра што хочаце, толькі не пра Жанчыну і Каханне. А калі я нарэшце скіравала размову ў патрэбную плынь, адведзены мне час скончыўся — нічога не зробіш, у кампазітара ды яшчэ выкладчыка кансерваторыі, акрамя інтэрв'ю, могуць быць і іншыя важныя справы.

Прыйшлося дамовіцца яшчэ аб адной сустрэчы. Другая наша размова была цалкам прысвечана тэме, якая мяне цікавіла, нягледзячы на тое, што Валерый некалькі разоў спрабаваў ухіліцца...

— ...Валерый, якое месца ў вашай творчасці займае тэма любві?

— Я лічу, што гэтая тэма ў любога мастака, у любой сферы мастацтва павінна займаць галоўнае месца, таму што ў яе найшырэйшы дыяпазон. Гэта і любоў да жыцця, і любоў да чалавека, і любоў да Радзімы...

— Выбачайце, я Вас перапыню... Мяне цікавіць тэма любові да жанчыны.

— Толькі любові да жанчыны?.. Мне не хацелася б звужаць рамкі...

— І ўсё-такі давайце звузім. Скажыце, калі ласка, як адбілася ў Вашай творчасці гэтая тэма?

— Першую песню пра каханне я напісаў у 1966 годзе, будучы студэнтам Гродзенскага музычнага вучылішча. Яна называлася «Стары вакзал» і прысвячалася адной дзяўчыне. Узрост у мяне, самі разумееце, быў рамантычны... З тае пары я напісаў мноства песень...

— Ніколі не спрабавалі падлічыць, колькі?

— Не, не спрабаваў, проста не ставіў мэты...

— Скажыце, а цяжка пісаць пра любоў?

— Пра любоў увогуле ці... Што, Вы зноў пра каханне да жанчыны?..

— Але, зноў.

— Ну, ведама ж, цяжка. Нягледзячы на тое, што тэма вечная і столькі ўжо напісана... Хаця, можа, менавіта таму і цяжка, што ўсе пішуць пра каханне, а сказаць пра яго штосьці новае зусім няпроста.

— Якую савецкую песню на гэтую тэму Вы лічыце лепшай?

— Нялёгка вылучыць якуюсьці адну... Напрыклад, цудоўная песня Мікіты Багаслоўскага «Цёмная ноч». У Арно Бабаджаняна было шмат добрых песень пра каханне. Высокі ўзор — «Пяшчота» Аляксандры Пахмутавай...

— Як Вы ставіцеся да жанчын-кампазітарак?

— На жаль, Пахмутавых у нас няшмат...

— А чым Вы растлумачыце гэты парадокс: жанчыны, як сцвярджаюць псіхолагі, нашмат больш эмацыянальныя за мужчын, ярчэй і танчэй адчуваюць, а ў такой эмацыянальнай сферы чалавечае дзейнасці, як стварэнне музыкі, усё-такі пануюць прадстаўнікі моцнага полу.

— Думаю, гэта звязана з тым, што жанчыны больш пастаянныя; яны, напрыклад, могуць бясконца доўга рабіць манатонную працу і цярпець. А мужчыны ўладкаваны інакш, яны стамляюцца ад пастаянства, ім неабходна навізна. Прафесія кампазітара — гэта яшчэ, калі хочаце, адмаўленне стандарту, таму пераважная большасць кампазітараў — мужчыны.

— Напэўна, жаданне бясконца слухаць ласкавыя словы гаворыць пра тое, што жанчыны не стамляюцца ад пастаянства... А Вы, дарэчы, часта кажаце жанчынам «ласкавыя глупствы»?

— Не.

— Вось бачыце. І так большасць мужчын... У французаў ёсць прымаўка: «Калі кошку доўга не гладзіць, у яе высыхае спінны мозг». Калі быць з жанчынай няўважлівым, яна грубее, страчвае прывабнасць, жаноцкасць. Нават такая драбніца, як букет кветак, падораны мужчынам, можа зрабіць цуд... Вы часта дорыце жанчынам кветкі?

— Для мяне гэта самы нелюбімы занятак.

— Дарыць кветкі?!.. Вы не жартуеце?

— Ані кроплі, кажу гэта зусім сур'ёзна. Я не люблю дарыць кветкі не таму, што лянуюся з'ездзіць па іх на базар ці выстаяць доўгую чаргу ў магазіне. Мяне палохае банальнасць. Уявіце сабе, колькі мужчын у дзень Восьмага Сакавіка адначасна нясуць жанчынам стандартныя кветкі замест таго, каб прыдумаць штосьці арыгінальнае. Тыражыраваны падарунак — што можа быць менш цікавым?

— І ўсё-такі няхай мужчыны дораць кветкі, і не толькі на святы!

— Няхай дораць, калі на большае ў іх не хапае фантазіі.

— Жанчына і кветкі — гэта цудоўна!.. А што такое жаноцкасць, па-Вашаму?

— Скажыце, у Вас яшчэ шмат такіх цяжкіх пытанняў?

— Шмат.

— Што такое жаноцкасць?.. Па-мойму, гэта высокае мастацтва, і, каб дасягнуць такое вышыні, трэба пастаянна працаваць над сабою. Жаноцкасць — гэта калі ўсё, што робіць жанчына, прыгожа.

— Маглі б Вы пакахаць непрыгожую жанчыну?

— Я ніколі за прыгажосцю — самой па сабе — не ганяўся: у прыгожай абгортцы можа хавацца непрыемны змест. Кахаюць жа не за адну знешнасць! Бываюць жанчыны непрыгожыя, але ў іх іншы раз ёсць нейкая таямніца, ізюмінка, якая дапамагае засланіць любую прыгажуню.

— Як Вы лічыце, калі жанчына непрывабная — гэта яе бяда ці віна?

— Хутчэй, віна, чым бяда. Жанчына павінна ствараць сябе, у гэтым ёй дапамогуць і касметыка, і фізкультура, і мода, і эрудыцыя...

— Як Вы ставіцеся да жанчын, якія кураць?

— Я сам куру і таму не магу сказаць, што я вораг курэння. Але жанчына і цыгарэта... Усё-такі жаноцкасць і атрута несумяшчальныя — і ў літаральным і ў пераносным сэнсах.

— Ці магчымае сяброўства паміж мужчынам і жанчынаю?

— Вядома.

— У Вас было такое сяброўства?

— Але.

— Вы верыце ў каханне з першага погляду?

— Веру.

— Як Вы ставіцеся да жаночага какецтва?

— Па-мойму, жанчыны нараджаюцца з гэтай якасцю, так што ўспрымаць яго трэба як неабходнасць. Праўда, усё добра ў меру — і какецтва таксама.

— Ці можа жанчына першая прызнацца ў каханні? Бо ініцыятыва зазвычай належыць мужчыну...

— Можа. І няма ў гэтым нічога абразлівага для жанчыны.

— Вечнае пытанне: што такое каханне?

— Вам не здаецца, што мы занадта засяродзіліся на адной тэме?

— І ўсё ж такі?..

— Што такое каханне?.. Гм... Каханне... Я думаю, гэта... Рух родных душ насустрач адна адной. Я так бы сказаў...

— Ці лічыце Вы каханне неадменнай умоваю стварэння сям'і?

— А як жа інакш?

— А як Вы ставіцеся да шлюбу па разліку?

— Адмоўна. Калі няма кахання, навошта звязваць сваё жыццё з іншым?

— Як Вы думаеце, чаму ў наш час многія сем'і распадаюцца?

— Прычын шмат. І не апошняя сярод іх — так званая жаночая эмансіпацыя.

— Што рабіць, калі нехта з сужэнцаў пакахаў іншага чалавека?

— Пайсці да каханага чалавека.

— А калі ёсць дзеці?..

— Можна, вядома, застацца дзеля дзяцей. Але калі паміж людзьмі ўжо стварылася прорва, калі прыходзіцца рабіць выгляд, што нічога не змянілася, то наўрад ці такія адносіны могуць прынесці штонебудзь добрае. Наадварот, вымушанае сумеснае жыццё адмоўна адаб'ецца на ўсіх, а на дзецях асабліва. Не, трэбаісці тады з сям'і...

— Вы маглі б дараваць здраду?

— Не. Ніколі. Можа, я эгаіст, але здрада для мяне і ёсць **здрада.** Яе я не магу даваць нават вельмі дарагому чалавеку.

— Якая прафесія больш за ўсё пасуе жанчыне?

— У жанчыны ёсць прызначэнне — быць маці. І яно вышэйшае за любую прафесію.

— Ваша любімае жаночае імя?

— Кацярына і Вольга. Так завуць маіх дачок.

— Скажыце, калі б Вы загадзя ведалі, на якую тэму прыйдзецца гаварыць, ці згадзіліся б Вы на інтэрв'ю?

— Не, вядома.

— Чаму?

— Ды таму, што Вы прымусілі гаварыць пра тое, пра што я звычайна маўчу. Разматалі мяне, бы катушку ніток,— уласна жаночая вераломнасць...

— Але ж гэта вымушаная вераломнасць, так што даруйце...

— Прыйдзецца.

— І, нарэшце, апошняе пытанне. Гэтае інтэрв'ю будзе надрукавана ў сакавіцкім, святочным нумары часопіса. Што Вы пажадаеце нашым чытачкам?

— Няхай кожная з іх часцей згадвае, што яна — Жанчына.

**ПРАДСТАЎЛЯЕМ РЭДАКЦЫЮ**



**Святлана БАРТОХАВА,**
старшы рэдактар

**Калісьці я была студэнткай ЛЕПШАЙ У СВЕЦЕ навучальнай установы — Літаратурнага інстытута імя Горкага. Цяжкі і цудоўны час, перапоўнены Паэзіяй! Начамі мы чыталі адно аднаму вершы і радасна прывыкалі да шуму крылаў, што выраслі ў нас за спіною. Мы былі страшэнна таленавітыя ў сваёй маладой нахабнасці. А жыццё, якое чакала наперадзе, здавалася яркім і святочным, як зарапад... Хто ведае, можа, гэта і было прадчуванне, што калі-небудзь я стану супрацоўніцаю ЛЕПШАГА Ў СВЕЦЕ часопіса...**

## САКРЭТЫ ДЛЯ ЎСІХ

## АМАЛЬ З НІЧОГА — НЕШТАЧКА

Яблык, які ўпаў з галіны, дапамог Ньютану зрабіць геніяльнае адкрыццё. А ў маёй гісторыі яблыка не было, як, зрэшты, і геніяльнага адкрыцця таксама. Але няхай гэта не расчаруе чытачоў: цікавым і карысным можа быць не толькі геніяльнае.

У маёй гісторыі быў самы звычайны тэлефонны званок сяброўкі. Пасля таропкага прывітання яна ўразіла мяне эмацыянальным маналогам з нагоды таго, што праз гадзіну да яе заявяцца госці, а ў халадзільніку (жах!) як вымецена, у крамах чарга, часу, лічы, зусім няма, а гасцей будзе цэлыя два чалавекі...

Вядома, лепшы спосаб знайсці выйсце з безвыходнага становішча — захоўваць спакой; пра гэта я і сказала не марудзячы. Аднак сяброўка адно ўздыхнула і зусім ужо неспакойна адказала: «Добра табе гаварыць! А я дадумацца не магу, як выкруціцца!»

«Яйкі ёсць?» — спыталася я.— «Некалькі штук».— «А хлеб?» — «Ёсць».— «Што яшчэ ёсць у доме?» — «Цыбуля, масла сметанковае, маянэз, трохі смятаны, кавалак літоўскага сыру... Ёсць нейкія кансервы...» — «Якія?» — «Здаецца, «Сняданак турыста». А яшчэ «Салата далёкаўсходняя» з марской капусты і бляшанка рыбнага паштэту. Усё, больш нічога няма. Але ж не ставіць гасцям кансервы!» — «Супакойся, у цябе будзе проста каралеўская вячэра! Перш за ўсё трэба зварыць яйкі...»

Вячэра, як я потым даведалася, сапраўды атрымалася ўдалая, нягледзячы на абмежаваны час на яе прыгатаванне і абсалютную адсутнасць дэфіцытных дэлікатэсаў.

Я думаю што ў многіх нашых чытачоў ёсць свае маленькія сакрэты. А зараз раскажу пра ўласныя, якія дапамаглі маёй сяброўцы бліскуча сустрэць нечаканых гасцей.

Значыцца, **ПА САКРЭТУ ЎСЯМУ СВЕТУ:**

— у «Сняданак турыста» (ці рыбна-крупяны фарш) дадаць дробна нарэзаную цыбулю, сечанае варанае яйка, дбайна перамяшаць, дадаўшы крыху маянэзу. Можна падаваць у салатніцы, аздобіўшы зелянінаю ці колцамі цыбулі, а можна зрабіць бутэрброды, намазаўшы спярша хлеб маслам;

— «Салату далёкаўсходнюю» (з марской капусты) пакласці ў салатніцу, дадаць сечанае варанае яйка, заправіць смятанаю;

— у «Паштэт рыбны» дадаць цёрты сыр, сечанае варанае яйка, заправіць маянэзам, намазаць на хлеб;

— дробна нарэзаць вялікую цыбуліну, дадаць нарэзаны марынаваны агурок (ці кіслы яблык), размятае відэльцамі крутое яйка, заправіць дзвюма-трыма лыжкамі смятаны, зрабіць бутэрброды;

— крутыя яйкі разрэзаць уздоўж напалам, выняць жаўткі, расцерці іх лыжкаю, змяшаць з цёртым сырам, дадаць смятаны ці маянэзу. Пакласці гэтую масу з верхам у бялкі-лодачкі, заліць маянэзам.

Ну вось, стол для нечаканых гасцей гатовы, пажадайце ім смачна пад'есці!.. І не забудзьцеся калі-небудзь таксама падзяліцца са мною сваімі сакрэтамі.



**Знаўцы і аматары беларускага мастацтва добра ведаюць імя Сымона Свістуновіча: ягоныя габелены выклікаюць увагу публікі, а іх фотарэпрадукцыі змешчаны ў Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі, у іншых аўтарытэтных выданнях.**

**Сымон — чалавек шырокага творчага дыяпазону: ён яшчэ і графік, і аўтар вершаў. Яшчэ ў 70-я гг. стаў пісаць прозу. Кароткія апавяданні Сымона Свістуновіча прысвечаны жыццю пасляваеннай вёскі, мястэчка, бо менавіта ў той час і ў тым асяроддзі аўтар рос і набіраўся ўражанняў.**

## АПАВЯДАННІ

**Сымон СВІСТУНОВІЧ**

# ГОРА

У школе галасілі. Атоса стаяў на ганку і слухаў. Плакала настаўніца.

З сенцаў выйшла жонка.

— Зноў у Плеткароў грызня,— з нейкім захапленнем сказала яна.

— Чаго гэта з ранку? — здзівіўся Атоса.

Хата Антося Атосы і школа пазіралі вокнамі адна на адну цераз вуліцу, таму і сваркі ў настаўніцкіх пакоях ён чуў не раз, але Пляткар з жонкай біўся заўсёды па нядзелях, а тут сярод тыдня, ды яшчэ раніцой, калі вось-вось у школу прыйдуць дзеці.

— Падурэлі яны там, ці што? Мо пайсці зірнуць...

— Пайдзі, пайдзі,— падтрымала Антося жонка.

Не паспеў Антось абабіць з валёнкаў снег ля школьнага ганка, як дзверы адчыніліся і на парог выйшла настаўніца.

Ліза Мікалаеўна прыціскала да вачэй хусцінку і галасіла, як вясковая баба.

— Ой, Трафімавіч,— закруціла настаўніца шасцімесячнай андуляцыяй,— як жы-ыць будзе-е-ем... ацец родны памё-ёр, а штож-ж з намі-і-і будзе-е-...— прыгаворвала яна, расцягваючы словы і смаркаючыся ў хусцінку.

«Бацька памёр»,— падумаў Атоса і паспачуваў:

— Чаго ўжо так, Мікалаеўна... ва ўсіх бацькі... ды і пажыў слава богу.

Антось ведаў бацьку настаўніцы. Сухенькі, з белай бародкай дзядок зрэдку прыязджаў пагасцяваць у дачкі.

— Гора... якое гор-а-а... хто-о сагрэ-е-е, хто-о...— цягнула Ліза Мікалаеўна.

— Дай бог нам дажыць да гэтых гадоў,— супакойваў Антось настаўніцу.

— Па радыё... сказалі... аж не паверыла...— шморгала носам жанчына.

«Якое яшчэ радзіво?» — падумаў Атоса, але тут выйшаў на ганак Пляткар і сумна сказаў:

— Іосіф Вісарыёнавіч памёр. Як, Трафімавіч, жыць будзем? Гора-то, якое гора!

«Вунь яно што!» — прамільгнула ў галаве селяніна, і ён адчуў, як злёгку перахапіла дыханне.

— Гора,— машынальна паўтарыў Атоса і паглядзеў на школьны двор. Каля хлява, між курэй, прагульваўся залацісты певень. Вераб'і з вясёлым ціўканнем мітусіліся ў галлі яблыні, а снег зіхацеў, іскрыўся на сонцы.

— Пражывём дасць бог,— сказаў Атоса і хуценька пайшоў з надворка.

— Што там? — спытала жонка, як толькі Антось пераступіў парог, але муж моўчкі дастаў бутэльку гарэлкі і наліў стограмоўку.

Тут і ўвайшоў брыгадзір.

— Дзень добры! — прывітаўся ён і слізгануў вачыма па бутэльцы.— Сёння на ферму, Антэк!

— Якая тут работа, калі гора такое,— адказаў гаспадар і паставіў яшчэ адну чарку.

— Што ты?! — здзівіўся брыгадзір і падышоў да стала.

— Такое гора, а ты на работу! — папракнуў брыгадзіра Атоса. Гаспадыня спалохана глядзела на мужа і маўчала.

— Якое гора? — перапытаў брыгадзір.

— Бяры чарку... Бацька ўзнёсся.

Атоса падняў вочы на столь.

Брыгадзір немаведама чаго рагатнуў, але тут жа спахапіўся і буйныя зубы схаваліся за мясістымі губамі.

— Сталін памёр. Вунь Пляткар з жонкай галосіць,— растлумачыў Атоса.

Гарэлка ў брыгадзіравай чарцы загойдалася.




# ПАСТАМЕНТ

Гарадок ляжаў у нізіне, і адсюль, з гары, відаць былі двухпавярховыя дамы ў цэнтры. Чорны комін кацельні між імі здаваўся надта высокім і нязграбным. Над невялікім скверыкам застыла лёгкае воблачка. Яно павісла якраз там, дзе стаяў помнік Сталіну. Але помніка ўжо не было — засталася толькі прагаліна між дрэў.

«Праўду казаў Сцяпан, не змахляваў»,— падумаў Храсток і сеў на ровар.

Каля магазіна спыніўся і зайшоў купіць хлеба. Калгаснікі тоўпіліся каля прылаўка, пакавалі ў мяшкі і сумкі буханкі. Людзі гаманілі, уздыхалі і смяяліся.

— Учора, кажуць, скінулі...

— Вунь ляжыць... ля ўстэмпа.

— А-а, была б мая воля...— сказаў руды ад сонца сялянін і, не дагаварыўшы, што ён зрабіў бы, калі б была яго воля, закінуў мяшок з хлебам за плечы і выйшаў.

Тынкоўка месцамі абвалілася і пастамент сіратліва чырванеў цэглай. Тут пры цары на стэле з бетону сядзеў двухгаловы арол, але затым палякі на месца царскага прыладзілі свайго — белага, з круглымі крыламі. У трыццаць дзевятым годзе на стэле ўжо красавалася зорка, выпілаваная на скорую руку з фанеры і пафарбаваная ў чырвоны колер, а праз паўтара года нахлынулі немцы і ўжо чорны арол пазіраў са стэлы. Пасля вайны яе абклалі цэглай і атынкавалі. Вось на гэтым пастаменце і стаяў бронзавы Сталін.

Калі б Храстку сказалі, што заўтра настане канец свету, ён не здзівіўся б, бо быў упэўнены, што канец свету ўсё роўна надыдзе. Але што такое могуць са Сталіным учвэрыць, Храстку нават у галаву такое не прыходзіла ніколі. І цяпер ён пазіраў на пусты пастамент разгублена і са здзіўленнем.

Групкі людзей стаялі на пляцы перад скверам, і Храсток падышоў да адной з іх і прыслухаўся.

— Чую, нібы трактар грукоча,— казаў апрануты па-гарадскому мужчына,— толькі падумаў, чаго гэта ноччу, а тут як грымне, глуха так, я да акна,— тут мужчына азірнуўся і пачаў гаварыць цішэй,— а бацьку ўжо цягнуць... За галаву канатам і цягнуць...

— Гэты навядзе парадак! Такое зробіць, што і падумаць страшна,— запэўніў грамадзянін у шэрым касцюмчыку і стаптаных туфлях.

Побач з Храстком стаяў несамавіты мужчына, да ніжняй губы яго прыліп акурак самакруткі, ён зрэдку пасмоктваў і, выцягнуўшы жылістую шыю, слухаў, а потым махнуў рукой і сказаў:

— Разбярэшся тут... То як на бога моляцца, то ў гной топчуць. Ноччу скідаюць... Усё не па-людску...

Сказаў, гледзячы сабе пад ногі, засунуў пад паху пустую дэрмацінавую сумку і пайшоў.

Праз сквер да пастамента цягнулася шырокая разора, а на бруку ад яе застаўся толькі светлы шнар. Трымаючыся крыху воддаль ад яго, Храсток пакрочыў вуліцай. На павароце стужка спаўзла з бруку і зноў ператварылася ў залізаную разору, якая вяла да рэчкі.

Помнік ляжаў у раскалочанай трактарам жыжцы. Не было кветак, не было і велічы, засталіся плямы падсохлае гразі на твары і мундзіры, і толькі рука ўпарта паказвала ўгору, у неба.

— Божа ты мой божа! — шаптаў Храсток, з радасцю і страхам гледзячы на помнік.

— Знайшлася ўправа, знайшлася,— пачуў за спіною Храсток і азірнуўся. Да яго, пахістваючыся, ішоў рослы мужчына.— Ты бачыш, дзе бацька ўсіх людзей ляжыць? Ты бачыш? — гаварыў падпіты, расшпільваючы на хаду шырынку.

Храсток падаўся назад, але мужчына нагнаў яго на бруку і, ляпнуўшы па сядле ровара, спытаў:

— Ты, браток, ведаеш, што такое параша?

Храсток паціснуў плячыма.

— А я ведаю! — Мужчына дастаў папяросу і закурыў, нервова выпусціў дым, яшчэ раз ляпнуў па сядле і сказаў: — Не бойся! Не ўстане!

З гары Храсток зноў паглядзеў на сквер і падумаў: «А хто яго ведае?»

1973

Мал. **Анатоля КІРУШКІНА**




Аляксандр ПЯТРОЎ

# «БЕЛЫЯ КРУМКАЧАНЯТЫ»

## З ДЗЁННІКА ДЫРЭКТАРА ДЗІЦЯЧАГА ДОМА

**9 снежня 1986 года.** Першы дзень працы. Быў дужа разгублены: у малодшай групе дзятва абляпіла мяне і нечакана замест «дзядзя», як звалі былога дырэктара старшыя дзеці, некаторыя закрычалі: «Тата прыйшоў! Тата прыйшоў!» Трэба было бачыць іх вочы ў гэты момант! Не ведаў, што і адказаць...

Пазнаёміўся з калектывам, дзецьмі, агледзеў памяшканні. Адразу, вядома, усяго не запомніш, але блок харчавання ў памяць запаў: брудныя жоўтыя сцены, замест зліўнога трапа ў падлозе — дзірка, праз якую льецца ў падвал вада з адыходамі, абсталяванне старое. І гэта — «чэрава» дзіцячага дома... Зноў згадаў: «Тата прыйшоў!..»

Напэўна, сама прырода запраграмавала дзяцей на вымаўленне гэтых дарагіх кожнаму слоў — «мама», «тата», і дзятва паўтарае іх, нават калі ніколі не бачыла тых, хто стаіць за гэтымі «імёнамі».

Згадваю сціслую, сухую фармуліроўку, пакінутую ў «спадчыну» свайму сыну адной з былых мам. «Ад дзіцяці адмаўляюся. Патрабаваць яго не буду. Згодная, калі яго ўсынавяць. З умоваю адмаўлення азнаёмлена. Распіска напісана ўласнай рукою». Гэтае адрачэнне гучыць нібы прысуд ёй самой: як маці, як грамадзяніну.

Быць сіратою сёння — у гэтым ёсць нейкая ненатуральнасць, недаступная разуменню чалавека, які не памятае ці не ведае голаду, беднасці. Тата мой вырас у свой час без бацькоў, шмат расказваў мне пра цяжкае дзяцінства, таму паняцце «сірата» для мяне мае цяпер строга вызначаны сэнс. І калі я раптам бачу былых бацькоў маіх выхаванцаў, якія прыходзяць у дзіцячы дом «на спатканне», ніякая сіла не можа прымусіць мяне быць ветлівым.

**15 кастрычніка 1987 года.** Бабуля аднаго з маіх выхаванцаў апошнім разам прыйшла не адна. З ёю была маладая жанчына, як высветлілася, маці сямігадовага Славы. Нядаўна яна вярнулася з лячэбнага працоўнага прафілакторыя, не бачыла сына больш чым два гады і цяпер, падлашчваючыся да яго, нясмела пыталася:

— Слава, хто да цябе прыйшоў разам з бабуляю?

Ні слова ў адказ. Запала паўза, якую паспяшалася запоўніць бабуля: кінулася да пакункаў і ўзялася частаваць унука. Нагрузіўшы яго прывезеным, расцалавала, і хлопчык пайшоў у групу.

— Да пабачэння, сынок! — здаўленым голасам амаль прашаптала Славікава маці, але хлопчык нават не азірнуўся. І справа тут, вядома, не ў кепскай памяці дзіцяці. Прычыны ўзнікнення гэтай непраўдападобнай сцэны былі досыць рэальныя.

Спускаючыся па лесвіцы, бабуля накінулася на дачку:

— Праклятая! Пад бамбёжкаю дзяцей не кідалі, а ты, сытая, у мірны час!..

Абедзьве пайшлі ў слязах...

Тое, што ў абсалютнай большасці выпадкаў прычынаю сучаснага сіроцтва з'яўляецца менавіта алкаголь,— ні для каго не сакрэт. А ў тым, што бацькі-алкаголікі асуджваюць сваіх дзяцей на адставанне ў развіцці, я ўпэўніўся не на красамоўных лічбах медыцынскай статыстыкі, а на ўласным педагагічным вопыце.

... І ўсё ж — прымусовае лячэнне ў ЛПП выцвярэжвае многіх гора-бацькоў.

«Але, я вінаватая, што пры жывой маці дзеці знаходзяцца ў дзіцячым доме,— піша адна з тых, што пакаяліся,— і я абавязана вярнуць ім шчаслівае дзяцінства і светлую будучыню. За свае памылкі я нясу цяпер падвойнае суровае пакаранне...»



**14 лістапада 1987 года.** Дзеці-мулаты... На іх з цікаўнасцю паглядаюць шматлікія наведнікі дзіцячага дома. Дзеці ж не звяртаюць увагі на колер скуры сваіх сяброў і толькі зрэдку, убачыўшы па тэлевізары негра, дружна крычаць: «А вунь Паўлікаў тата!» Ці тата Ільі, Андрэя, Марацiка... Нават дзятва разумее, што таты ў сяброў-мулатаў — незвычайныя. А хто ж іх мамы, што не толькі выракліся сваіх дзяцей, але і асудзілі іх на становішча «белай вароны» сярод людзей?

Мяркуючы па дакументах, гэта пераважна студэнткі вышэйшых навучальных устаноў нашай сталіцы. На жаль, уваходзячы ў храм навукі, яны, напэўна, адчувалі цягу не толькі да ведаў. А прага вылучыцца сярод равесніц, мець прыгожыя замежныя транты і іншыя падобныя «невысокія матэрыі», далёкія ад паняццяў патрыятызму і дзявочага гонару, прытупляюць пачуццё адказнасці перад грамадствам. Сацыяльны інфантылізм прыводзіць да трагедыі для ўласнага дзіцяці. Я не адмаўляю каханне паміж прадстаўнікамі розных рас, але калі бачу маіх мулатаў, то не магу не асуджаць легкадумных суайчынніц. Як складзецца далейшы лёс іх дзяцей — на гэтае пытанне мне цяжка адказаць.

Не магу я даць адказ і на пытанне, што ўзнікла ў майскіх запісах дзённіка:

«...Танечка ў сям'і чацвёртая. Бацькі ў дачыненні да ўсіх чатырох дзяцей пазбаўлены бацькоўскіх правоў, лячыліся ад алкагалізму. У дваіх дзяцей прызнана алігафрэнія ў ступені дэбільнасці, і яны перададзены ў спецыялізаваны дзіцячы дом. У гэты ж час, высвятляецца, маці чакае яшчэ адно дзіця. Значыць, у чэраве ў яе новы сірата і, магчыма, дэбіл. Што рабіць? Гуманізм нашага сацыялістычнага грамадства не дазволіць ужыць у дачыненні да жанчыны радыкальныя меры. Хто знойдзе выйсце з гэтага становішча? Я звярнуўся па дапамогу да вучонага-філосафа, і ён доўга расказваў мне пра сістэму ўзаемаабумоўленых працэсаў, заканчэнне якіх ліквідуе корань зла. Але мяне ўжо сёння цікавіць канкрэтная Танечкіна маці і яе «прызыўнік на гэты свет». І гэты выпадак не адзінкавы».

**А вось запісы за жнівень:**

«Вельмі засмутказаў праз Волю. Сужэнцы са Жлобіна вярнулі яе ў дзіцячы дом праз тры тыдні пасля ўдачарэння. Як можна было некалькі месяцаў наладжваць кантакт з дзіцём, набліжаць яго да сябе і аблашчваць, каб праз дваццаць дзён вырваць пяцігадовую дзяўчынку з сям'і з дыягназам «педагагічная запушчанасць у незваротнай ступені»? І гэта выснова двух прафесійных педагогаў ды плюс яшчэ і бабулі, настаўніцы на пенсіі! Падпісаць такі прысуд у дачыненні да пяцігадовага дзіцяці! Я выклікаў бы гора-настаўнікаў на суд педагагічнага гонару».

Як дакументы крывадушнасці і замаскаванага бяссілля захоўваю я «апраўдальныя» лісты здраднікаў Волі. Двое дарослых людзей адмовіліся ад барацьбы за шчасце дзіцяці, а значыць, і за сваё асабістае шчасце. А падумайце, як цяжка выхавацелям дзіцячага дома, калі яны па-мацярынску аддаюць душу адразу дваццаці маленькім чалавечкам?



Але ж ці магчыма, у прынцыпе, нармальнае выхаванне ў такім вялікім калектыве дзяцей, якія засталіся без неабходнай ім бацькоўскай увагі? Бо нельга ж весці з дзецьмі ніякай сур'ёзнай індывідуальнай работы, не можа іх псіхіка быць абсалютна здаровая, калі над імі пастаянна вісіць дамоклаў меч статкавасці! Неабходна зменшыць колькасць дзяцей у групах да навукова абгрунтаванага максімуму: без гэтага сапраўднае выхаванне ў дзіцячым доме — справа нерэальная. І яшчэ: не магу не сказаць пра саміх нашых выхавацеляў, а дакладней — пра прынцыпы іх падбору ў дзіцячыя дамы. Бо проста «вялікага вопыту працы ў дашкольных установах» тут мала.

Каб цалкам прадухіліць пранікненне ў калектыў ласых на працэнтную надбаўку людзей, неабходна адбіраць кадры з асяроддзя лепшых педагогаў і выхавацеляў па рэкамендацыях педагагічных саветаў і органаў народнай асветы сумесна з грамадскімі арганізацыямі. Больш самастойнасці ў гэтым пытанні трэба даць і дырэктару дзіцячага дома...

**4 верасня.** Збіралі ў гарана на абмеркаванне Пастановы ЦК КПСС і Савета Міністраў № 872 пра дзяцей-сірот і дзяцей, якія засталіся без бацькоўскай апекі. Лёд крануўся! Нарэшце не будзе нажніц паміж грашовымі і натуральнымі нормамі харчавання, не будзе праблем з транспартам: здзейснілася мара аб замацаванні за нашымі машынамі аўтатранспартнага прадпрыемства. Па безнаяўнаму разліку можна будзе набываць неабходныя тавары ў магазінах горада... Гэтыя і іншыя мерапрыемствы, думаю, сапраўды дазволяць карэнным чынам палепшыць выхаванне, навучанне і матэрыяльнае забеспячэнне нашых дзяцей.

...У дзіцячы дом прыходзяць людзі рознага ўзросту, розных прафесій, малодшыя школьнікі і пенсіянеры, студэнты і выкладчыкі ВНУ, курсанты і афіцэры. У іх дапамозе мы бачым ясную грамадзянскую пазіцыю, праяву сапраўднага патрыятызму і проста — покліч добрых сэрцаў. Але ўсё ж, усё ж... Горка робіцца за дзяцей, пра якіх клапоцяцца яшчэ і наша дзяржава, і народ, але якія не патрэбны адзіным блізкім ім людзям — сваім бацькам і маткам...

**г. Мінск, дзіцячы дом № 2**





Алесь АСТАШОНАК



# СУПЕР

ГАРАДСКАЯ ГІСТОРЫЯ

Звычайнага пачуцця нядзельнае бадзёрасці чамусьці не было.

Ён позна прачнуўся, доўга валяўся ў ложку. Устаўшы, нават не стаў мыцца — пасунуўся ў піжаме на кухню і нетаропка паснедаў. Зазірнуў у залу дый прасядзеў там да самага абеду каля тэлевізара, які мала калі глядзеў. Узяўся быў за часопісы, але, пагартаўшы іх, адкінуў убок.

«Халера з ім, з часопісам! — урэшце падумаў ён, апраўдваючы сваё лайдацтва.— Магу я пражыць хоць дзень, нікуды не спяшаючыся?..»

Звычайна часу на меланхолію не заставалася. Дзень пачынаўся з гімнастыкі і душа. Да абеду — заняткі ў інстытуце. Пасля — гадзіна ў лінгафонным кабінеце. Там і па праграме працавалі шмат, але ён і самахоць штодня наведваў гэты пакой: зацятасць вядзе да поспеху. Пасля абеду — арыгіналы Мантэня, Сартра, Фрома, «Брахмасутра» і «Даа дэ цзін»... Філасофія была яго захапленнем. А прафесію перакладчыка ён выбраў, улічваючы бацькавы сувязі. За інстытуцкія заданні браўся пасля вячэры. Трох гадзін падрыхтоўкі хапала — у залікоўцы былі толькі пяцёркі. Два разы на тыдзень, каб падтрымаць фізічную форму, ён гуляў у тэніс. Раней займаўся культурызмам і каратэ, але, зразумеўшы, што часу на ўсё не хопіць, кінуў. Постаць у яго і так была не горшая, чым у любога кінагероя. Не мог ён траціць час на другарадныя рэчы. Калі ўжо ўгрызацца ў жыццё, дык з усяе сілы — інакш свайго не дамагчыся. У інстытуце яму далі мянушку — Супер. Ён спраўджваў яе ва ўсім. Хто ні быў побач, адчуваў нязменна яго перавагу... Бацька ласкава зваў яго маладым ваўком: яму падабалася мэтанакіраванасць, з якою сын пачынаў жыццё.

Паабедаўшы, Супер лёг спаць. Але тут прыехаў Коша і выцягнуў яго ў госці да Хелпа.

Супер пагарджаў абодвума: эксперты па пласцінках і джынсах. Коша вучыўся ў сельскагаспадарчым інстытуце — бог ведае, як яму ўдавалася там утрымацца, бо ён і дагэтуль наўрад ці мог адрозніць пшаніцу ад жыта. А Хелпа выключылі нядаўна з тэатральна-мастацкага. Цяпер ён, як і Коша, жыў фарцоўкай. Сяброў Супер не меў. Былі адно знаёмыя, з якімі ён бавіў час, калі хацеў.

Знайшлі прыяцеля хутка, у двары яго дома. Ён з цікавасцю слухаў высокага, змрочнага хлопца. Калі знаёміліся, Клешч — такая была ў хлопца мянушка — затрымаў цяжкі позірк на Кошу. Той, як заўсёды і ўсюды, быў ужо тут «свой» і не звярнуў на погляд ніякай увагі.

Неўзабаве стала ясна, чаму Хелп так уважліва слухаў Кляшча: той расказваў пра сваё нядаўняе жыццё ў «зоне». Кошу здалося забаўным, што яны апынуліся ў кампаніі такога тыпа, і ён весела паглядваў на прыяцеляў, паказваючы вачыма на Кляшчовы рукі. Татуіроўка на іх — царкоўныя купалы і магільны крыж — была адмысловая. Далібог, усміхнуўся сам сабе Супер, творы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

— Не круці галавой, фраер,— раптам сказаў Кошу Клешч.

Цяпер позірк яго быў зусім ужо калючы, і Коша стаў слухаць бы заварожаны, не зводзячы з Кляшча ліслівых вачэй. Супер з пагардаю назіраў за прыяцелем, хоць і сам не надта добра пачуваў сябе побач з гэтым шорсткім хлопцам. Мільганула трывожная думка, што знаёмства з ім можа скончыцца бойкаю, але ён адразу ж узяў сябе ў рукі: які б гэты арангутан люты ні быў, ды наўрад ці валодае каратэ.

Расказваючы, Клешч прыглядаўся да Кошы.

— Ты на нашай кічы не чаліўся? — спытаўся ён раптам у яго, прыжмурыўшыся.

Коша не ведаў, што і сказаць.

— За што яму было сядзець? — засмяяўся Хелп.— За фарц на чырвонец?

— А я цябе за стукача аднаго прызнаў быў,— усё яшчэ ўзіраўся ў Кошу Клешч.— Тваё шчасце, што Хелп цябе ведае: даўжок за тым казлом застаўся.

Коша змушана ўсміхнуўся.

— Дыхай глыбей,— сказаў Клешч.— Удых — выдых.

Суперу захацелася сказаць Кляшчу што дзёрзкае, бо стала сорамна і за сябе: усё ж такі менавіта з Кошам прыйшоў ён сюды. Але жаданне гэтае аказалася слабейшае за насцярогу перад загадкавым тыпам. А тут яшчэ да іх падышла дзяўчына — невысокая, поўная, у скамечаных, завэдзганых штанах і ў зашмальцаваным паліто. Ад яе пахла гарэлкаю.

— Ну што? — спытаўся ў яе Клешч.

— Не дае,— адказала тая хрыплым, пракураным голасам, папраўляючы нямытыя, разбэрсаныя валасы. На руцэ ў яе сінела крывая літара Н.

Супер з гідкасцю ўглядаўся ў яе непрыгожы, бляклы твар, выцвілыя вочы, густа нафарбаваныя вусны.

— Нічога, Нінок,— сказаў Клешч і дастаў з кішэні японскі гадзіннік.— Як, нішто будзільнічак? Зняў у падзельніка. Трэба было б лыч разраўняць, ды нельга пакуль: удвая накінуць, як павяжуць.

У Супера раптам заныла ўсярэдзіне. А што, калі зэк, як прыйдзецца біцца, нож выцягне?.. Ён усур'ёз пачынаў пабойвацца Кляшча, сіла якога, бадай што, пераважала ягоную. Даўно ужо ён не зведваў нічога падобнага.

— Здай,— працягнуў Клешч Хелпу гадзіннік.

— За што? — не маргнуўшы спытаўся Хелп.

— А як хочаш. Але каб на дзве белай выйшла.

Супер заўважыў, што Клешч не давяраў Хелпу, і прыяцель нават не пакрыўдзіўся — хоць бы слова вымавіў у адказ. Можа, трапляўся ўжо з падманам? Бліснула ж у вачах у Кляшча пагарда чалавека больш вартага... А што, няхай і дзікун... Асоба ў сваёй сістэме. Толькі ён, Супер, і ў гэтай кампаніі — аніяк не ў рэшце... А можа, у патэнцыяле Клешч і для вышэйшага ўзроўню быў калісь асобаю?.. Не, неандэрталец, варта адно ў твар углядзецца...

Хелп пайшоў; Клешч разгаварыўся з Нінкаю. З іх размовы Супер зразумеў, што тая таксама выйшла нядаўна з турмы, а некалі яны былі вялікія сябры. Чакаць Хелпа прыйшлося нядоўга. Вярнуўся той з дзвюма бутэлькамі гарэлкі. Па яго задаволеным твары Супер здагадаўся, што гадзіннік ён прадаў з выгадай.

— Хадзем,— запрасіў усіх Клешч.

Зайшлі ў закутак двара, спыніліся ў невялічкай, напалову зруйнаванай будыніне. Адкаркаваўшы бутэльку, Хелп працягнуў яе Кляшчу. Як лідэру, з раздражненнем адзначыў Супер. Ведама ж, з такою пысай і вопытам тут толькі ў лідэрах і хадзіць. Праламаная падлога была запляваная, паўсюды валяліся недакуркі, у куце ўжо стаялі пустыя бутэлькі... І дзе Хелп мог узяць у такую пару ды яшчэ ў нядзелю гарэлку?.. А вунь флакончыкі з-пад «Трайнога»... Ну і свінушнік... А кампанія!.. Цьфу ты!.. Прыхопіць міліцыя — не абярэшся клопату. І бацька не паможа.

— Не бойцеся, хлопцы,— быццам адчуўшы Супераву трывогу, сказала Нінка.— Мянтоўка сюды не сунецца. Мейсца свежае, у двары, падазрэнняў ніякіх: гуляй, Вася!.. А выжлы няхай па пустках носяцца — няма дурных у цверазільнік трапляць.

Клешч перадаў бутэльку Кошу.

— Засандальвай! Пакажы, на што здатны!

Коша ўмела прыклаўся.

— Ну ты, начальнік! — прытрымаў яго за руку Клешч.— Дзе ж гэта цябе так навучылі? Ва універсітэце?

— Ён у інстытуце вучыцца, у сельскагаспадарчым,— усміхнуўся Хелп.— Добра дагледзіць калгасныя палі. Паямо хлебца!

Клешч ажно крактануў, смеючыся.

— Паямо!

— Я ў садочку навучаўся,— задаволена ляпнуў Коша.— З самага маленства да нектару прывыкаў. Карысная рэч. Эсенцыя духу.

— А вучышся ты як? — спытаўся Клешч.— Не горш, чым цяпер балбочаш?

— Ён вучыцца—што мучыцца,— зарагатаў Хелп.

— Працаваць як будзеш, калі дыплом атрымаеш? — усё дзівіўся Клешч.

— Возьме ксёнжку «Тысяча і адна карысная парада» і пойдзе ў народ. З народу выйшаў, да яго і вернецца. А ў масах, простых і даверлівых, ён не прападзе!

— Гэта што ж за кніга такая? — наіўна зацікавіўся Клешч.

— Евангелле для прайдзісветаў,— зноў зарагатаў Хелп.

— Ды заткніся ты! — злосна перапыніла яго раптам Нінка.— Слухаць моташна. Сам хто?

Хелп паблажліва залапатаў:

— Цю-цю-цю!.. Ну не жартуй, Нінка!.. Што ж ты сябра крыўдзіш, мілка?.. Няхораша...

— Глухні, кажу! Якая я табе мілка? Сябар...

Хелп змоўкнуў. Але на твары ў яго мільганула нічым не прыкрытая нянавісць да Нінкі. Супер грэбліва зірнуў на прыяцеля. Неданосак, перад кім бісер сыпле!.. Толькі думаць пра гэта часу ўжо не было: Клешч працягваў яму бутэльку. Суперу ніколі яшчэ не даводзілася піць гарэлку з рыльца. Але Клешч выпрабавальна глядзеў на яго — так што нічога іншага не заставалася. Пераадольваючы сябе, ён ледзь адпіў сваю долю. Коша яшчэ раз прыклаўся да бутэлькі — з маўклівае ўхвалы Кляшча за Хелпа. Гарэлка хутка ўдарыла ў галаву, усе адчулі сябе ямчэй. У Кошы развязаўся язык. Ён пачаў расказваць анекдот за анекдотам — не верылася нават, што хвілін якіх яшчэ з дзесяць назад ён і паварушыцца баяўся. Але, асмялеўшы дарэшты, сам усё і сапсаваў.

— У мяне барыга адзін знаёмы,— пачаў ён,— дык той таксама сядзеў. Расказваў, такая ўжо сучая зона была...

Клешч, не даўшы Кошу дагаварыць, згроб у кулак каўнер яго кашулі.

— Слухай, ты, ваўчара... Ты мне тут воз не каці... Я на нарах пяць гадоў адзвінеў, не табе мне гэтак пра зону расказваць... Уцяміў?.. Ураз начышчу ўмывальнік...

— Не трэба, Клешч, адпусці,— ціха сказала яму Нінка.

— Ды я... пяцярык адцягнуўшы...— пачаў быў зноў Клешч, але Нінка адразу ж перапыніла яго:

— Канчай разборы.

— Знай сваё седала каля парашы! — папярэдзіў Кошу Клешч, адступаючы.— Казёл...

Супер здзівіўся дый толькі, убачыўшы, як лёгка паслухаўся Нінку гэты бамбіза. А сам ён цяпер ужо і не падумаў заступіцца за Кошу, апраўдаўшы сябе тым, што прыяцель сапраўды вінаваты.

Коша збянтэжана папраўляў кашулю і невядома нашто атрэсваў джынсы — працверазеў умомант.

— Бярыце, ешце. Зусім забылася на іх,— дастала Нінка з кішэні цукеркі.

Супер з недаверам паглядзеў на дарагія труфелі.

— Што зекры вылупіў, інтэлігент? — усміхнулася Нінка, злавіўшы ягоны позірк.— Думаеш, мы і цукерак нармалёвых не можам купіць? Ды я цябе самога куплю з усім тваім гаўном...

Супер убачыў у Нінчыных вачах, якія яшчэ зусім нядаўна здаваліся пустымі, калючы бляск. Як раней Клешч на Хелпа, яна глядзела на яго з падкрэсленай перавагаю чалавека больш годнага. Але адказваць ударам на ўдар адразу ж не хацелася. Супер употай зірнуў на Кляшча. Той стаяў убаку, спіной да іх. Толькі Хелп разглядваў збянтэжанага прыяцеля, дзіўна ўсміхаючыся,— бачыў такім Супера ўпершыню.

— У мяне тры дні назад дзень нараджэння быў,— памаўчаўшы крыху, усё роўна як аб'явіла Нінка.— Можна сказаць, што й сёння яшчэ нараджаюся... Мяне матулька ў пакутах на гэты свет выпускала. Вось ён дагэтуль і не прымае мяне — у пакутах...— Яна засмяялася, толькі ў смеху гэтым чулася горыч.

Дапілі рэшту. Пасля трэцяга разу Коша нават пахіснуўся, але ж не адмовіўся і ад чацвёртае долі, якую, не адолеўшы свайго, зноў прапанаваў яму Хелп.

— Клешч, скажы, каму я сёння не прастаўляла? — прыкметна ап'янеўшы, спыталася Нінка.

— Усім, Нінок, усім,— супакоіў яе Клешч.— Ты ў нас жмоткаю ніколі не была.

— Жмоткаю? Гэтыя дні ўвесь двор гуляе. Уся вуліца! — залапатала яна, глытаючы словы.— Дваццаць гадоў усё ж такі. Гэх, мама!..

«На Дэрыбасаўскай адкрылася піўная»,— зацягнуў раптам гугнявым фальцэтам Коша. Клешч знішчальна зірнуў на яго. Коша змоўк, але ўжо не так баязліва. Пастаяўшы яшчэ трохі ў будыніне, прайшлі ў альтанку непадалёк. Клешч некуды знік. Атрымалася так, што

## АЎТАР ПРА СЯБЕ

**Нарадзіўся ў Мінку ў 1954 годзе і люблю свой горад больш за ўсе астатнія ў свеце, хоць і багата ў чым зайздрошчу масквічам, талінцам, парыжанам, жыхарам Лас-Пальмаса і Велінгтона... Але, мару, некалі зайздросціць прыйдзецца дужа менш. Першае апавяданне (нібыта навуковае, але ўсё ж такі фантастычнае) напісаў у шостым класе. У 1981 годзе ўпершыню надрукаваўся ў часопісе, праз год у тэатры была пастаўлена першая п'еса. Перакладаю на беларускую мову творы французскіх, англійскіх, амерыканскіх пісьменнікаў. Член Саюза пісьменнікаў СССР. Шмат чым захапляюся. Ды, на жаль,— а мо, спадзяюся адчайна, на шчасце,— увесь час забіраюць літаратурныя заняткі.**

---

Часопісны варыянт.

Супер апынуўся на лаўцы побач з Нінкаю. Тая насмешліва паглядзела яму ў вочы і сказала:

— Сядай бліжэй. І абдымі. Холадна мне.

Збянтэжаны, ён паклаў ёй на плячо руку.

— Не, не так. Ніжэй,— сказала яна і адразу ж, ледзь ён пераклаў руку на талію, дадала:— Толькі віды не строй. Не абломіцца. Ты мне ўсё роўна да фені. Пагрэеш адно: даўно ўжо мяне не абдымалі... Ні-хто... не абдымаў...

У гэтым «ні-хто», мусіць, самой сабе сказаным, пачуліся Суперу смутак і безабароннасць. Ён трохі мацней прытуліў яе да сябе: стала раптам шкада гэтай непрыгожай недарэкі.

Паціху яны разгаварыліся.

Сядзела яна за тое, што адлупцавала з сяброўкай на танцах адну дзяўчыну: тая адбіла ў сяброўкі хлопца. Магло б усё абысціся і ўмоўным тэрмінам, расказвала Нінка, ды былі да таго прыводы ў дзіцячы пакой міліцыі, вось ёй і далі тры гады — на перавыхаванне. А цяпер яна жыла ціха, толькі на гэтым тыдні загуляла з нагоды дня нараджэння. Выйшла ж нейкі месяц назад, як і Клешч. Але дзень яшчэ пагудзіць — і шабаш. Адблатавала. Трапіць туды яшчэ раз не хоча. Чаму ўсё так атрымалася? Бацька з маткаю ўсё прапілі — у хаце голыя сцены ды два крэслы. Трэцяга крэсла, каб ёй урокі рабіць, не было. Куды ж яшчэ ад такога жыцця ісці, як не ў альтанку ці на танцы? Ну, а там адно: цыгарэты, «чарніла», бойкі... Тая ж гісторыя, што і ў Кляшча. Толькі ён ужо бацьку свайго не тое што п'янага, ніякага не бачыў — колькі іх, тых «бацькоў» на ноч у маці на яго вачах перабывала!.. А сеў зусім ужо ні за што: ліхтаром у восьмым класе пасвяціў старэйшым хлопцам, у завуголлі каля дзяўчыны стаяўшы,— вось і паплыў у калонію як «харавік», бо нагаварылі на яго і тая дзяўчына і тыя падзельнікі. Так і прачаліўся праз тое глупства ажно пяць гадоў. А выдатны быў малец, вучыўся ў школе нішто... З турмы вось толькі прыйшоў нейкі злы. Заводзіцца з паўабароту. Але з некаторымі ён добры, нават вельмі. З тою ж маці, напрыклад: цяпер яе хворую даглядае, у калясцы на вуліцу выкочвае — ногі ў яе праз гарэлку адняліся. Злосць у яго ад крыўды: за што ж яго, пацана, на столькі гадоў за дрот загналі?!.

Жаль, што на нейкі час узнік у Супера, прайшоў. Ведаем мы гэтыя гісторыі паводле Мапасана пра маці-шлюху і бацьку-алкаголіка, думаў ён з усмешкаю. Анёлы, дый годзе, хоць ты іх напрасткі ў рай вядзі — і чысцец не патрэбны.

Урэшце, калі Нінка вельмі ўжо слёзна пачала шкадаваць Кляшча, стаўшы меркаваць пра тое, хто б з яго мог выйсці, каб не гэты ліхтар, Супер не вытрымаў:

— Ты паглядзі на яго: жывая ілюстрацыя да падручніка Ламброза.

— Каго? — адхілілася ад яго Нінка.

— Ламброза. Быў такі прафесар-крыміналіст. Распрацаваў тэорыю, што людзі робяцца злачынцамі непазбежна — у адпаведнасці з іх антрапалагічнымі... біялагічнымі, значыць, прыкметамі.

— Гэта якімі ж?

— Ну, чэрап, скажам, форма і велічыня лоба,— пачаў быў тлумачыць Супер, але адразу ж спыніўся, заўважыўшы ў Нінчыных вачах непрыемны агеньчык,— ну і ўсё такое.

— Ламброза, кажаш? Бачу я, разумнік ты. Дзе вучышся?

Супер адказаў.

— Спікаеш, значыць? Арыстакрат!.. Прафесароў начытаўся... Ну, а хто тады я?.. Таксама ілюстрацыя?..

— А ты — нічога,— паспрабаваў ён лагодна ўсміхнуцца.— Дзеўка ў парадку. У цябе так — выдаткі лёсу.

— Выдаткі лёсу?.. Бач ты! — Яна ўстала і выйшла на сярэдзіну альтанкі, усё роўна як суд над ім збіралася чыніць.

І дзе толькі гэтыя гады навучыліся так вачыма душу выварочваць, думаў Супер пад яе невыносным позіркам.





Ён глянуў убок, куды адышлі хвілін пяць назад Коша з Хелпам: мабыць, пачуўшы іх такую ўжо пяшчотную ў пачатку размову, далі ім магчымасць застацца ўдваіх. Трэба спыніць гэтую гамонку, занепакоіўся ён, а то хто яго ведае, што з усяго гэтага можа выйсці... Ну і дэградат: напраўду пачаў ужо быў цеплыню яе таліі адчуваць — гэта ж трэба, жанчыну сустрэў!.. І думай, што вярзеш, а то ляпнуў: «Ілюстрацыя...»

Нінка таксама стала ўзірацца ўглыб двара.

Набліжаўся Клешч. У сутонні ягоная постаць, якая нібыта выплывала аднекуль здалёк, проста палохала: хрэстаматыйны забойца з дэтэктыўнага фільма. Монстр. Раздушыць, як муху.

— Дык гавары, што маўчыш? — зноў утаропілася яна ў яго пагардліва. Стаяла, быццам укапаная, усё на тым самым месцы.

— Не пашэнціла табе — вось і ўсё.

— Гэта я зразумела. Ты пра яго,— кіўнула яна на Кляшча.

На сябрука ківае, гадаўка, вылаяўся сам сабе Супер. Ведае, на што ціснуць...

— Ну, я не стаў бы ліхтаром свяціць. У пятнаццаць гадоў ён бы мог і разумнейшы быць,— не адразу знайшоў ён адказ.

Клешч спыніўся каля Кошы з Хелпам, загаварыў з імі.

— Гэта ты праўду кажаш...— згадзілася раптам Нінка.— Толькі чэрап у яго не горшы за твой. Клешч — чалавек. Сумленны і справядлівы. І не дурнейшы за цябе — дарма што ты кніг начытаўся. Так што носа не задзірай: супраць яго ты ўсё роўна слізняк. Разумееш? Сліз-няк.

Гэта быў ужо здзек. Але вытрываць прыйдзецца. Зірнуўшы яшчэ раз у бок Кляшча, ён падумаў, што зноў, пэўна, трэба будзе заняцца каратэ: хліпкі ты яшчэ, братка, перад кім сцелешся...

— Усёк? — спыталася Нінка.

Кіўнуўшы галавою, ён слаба ўсміхнуўся. Нібыта згаджаўся — і разам з тым было ў гэтай кіславатай усмешцы паблажлівае «ну-ну».

Але, разгледзеўшы праз гэтую маску ягоную баязлівасць, Нінка здаволілася.

— А чаго з імі цягаешся? — зноў сеўшы побач з ім, паказала яна на Кошу з Хелпам.

— Ну, як табе адказаць?.. Трэба ж з кімсьці...

— Дык чаму не з тымі, з кім вучышся?

— Лепш так... Я ў інстытуце для ўсіх — бы ў загадкавым арэоле...— Адлягала ўсярэдзіне халадэча.

— Не разумею...

— Што не разумееш?.. Арэ...

— Ды не выпінайся ты ўжо,— абарвала яна яго.— Ведаю я, што за арэол. Усе ў лікбезе вучыліся. Не разумею, што ты за чалавек... Няма ў цябе, мусіць, сяброў... Я ж іх наскрозь бачу: фарцы,— кінуўла яна на Кошу з Хелпам.— Гэты твой Хелп за анучу з лэйбаю маці прадасць. Дый пустэча... Ты хоць пра Ламброзаў можаш расказаць... Паважаю, калі хто многа чытаў... Ты ж не ведаеш, як я любіла чытаць — жах!.. «Эфі Брыст» чытала, «Джэйн Эйр»... «Сястру Кэры»... Бог ты мой, пазабывала ўсё... А цяпер вось «Вясновыя воды» чытаю... Тургенева... Во, хоць аднаго аўтара ўспомніла... І гад жа ён быў, га?

— Хто? — збянтэжыўся Супер.

— Ну, не Тургенеў жа... Гэты, як яго... Санін... Дзмітрый Паўлавіч... А, ты ўсё роўна не зразумееш!.. Вы ж, мужчыны, лічы што не людзі. Здраднікі ўсе і падлюгі. Такое, за што Тургеневу душа балела, вам — салодкая вадзічка... Аднаго Кляшча прызнаю за чалавека!.. Я не кажу, канечне, пра тых, хто кніжкі піша. Гэтыя — іншыя. Калі толькі не маняць... Ды дзе яны? — Яна зноў адхінулася ад яго.— Слухай, ты ж, можа, бачыў каго з іх — з пісьменнікаў?.. Я дык бачыла аднаго!.. Не, у школу да нас калі-нікалі прыходзілі. Канферэнцыі розныя там, кніжкіны тыдні... А то раз сама сустрэла ў горадзе. Іду сабе так неяк зімой па праспекце, гляджу — бог ты мой, на самым людным мейсцы, сярод тратуару дзядзька ляжыць. Тратуар такі зледзянелы — і цвярозы пакоціцца, не тое што п'яны. Дык ён упаў і ўстаць не можа. А ўсе яго абыходзяць. Ну чаму?.. Хоць і п'яны — усё адно ж чалавек!.. Падышла да яго...

Слухаючы Нінку, Супер думаў пра сваё. А можа, і напраўду зладзіць што з ёю?.. Не святая ж?.. Смех ды толькі: «Эфі Брыст»... Цырк на дроце. Звар'яцець можна ад яе пераходаў — во дзе выкруты! Дык тым цікавей будзе: экзотыка. Табе ж даспадобы, здаецца, вострыя пачуцці? Такую лэдзі ўзяць, з гэткімі вывертамі,— не жарт. Дый талія ў яе нічога... бюст...

— Дапамагла ўстаць, павяла, куды папрасіў,— расказвала Нінка.— Ідзём. Тут ён па дарозе мне і кажа: пісьменнік я, ганарар атрымаў за вершы ў часопісе. Нават сказаў, у якім, ды я не запомніла. Давяла яго ажно да самай хаты. І што? Жонка так і наляцела на мяне: што са старымі, вош малая, цягаешся? А я назаўтра ўзяла дый расказала ўсё ў школе — на ўроку літаратуры. Настаўніцу толькі шкада было, стагналі ж усе ад рогату... Але які гэта пісьменнік?.. Хіба пісьменніку так можна?.. Ты ж калі свіння, дык хоць імя сваё не гань — п і с ь м е н н і к... Ты ж святы павінен быць, раз вучыш нас розным гэтым штучкам — дабрыня там, шчырасць, чысціня, сумленне... Як вучыш, так і сам жыві!.. А ён яшчэ, відаць, і з дзеўкамі гуляў, раз жонка ягоная з-за мяне такі гвалт усчала... Дый спатканне ж мне, корч стары, назначыць пнуўся, ціснуўся ўсё да мяне, хоць і лыка не вязаў!.. Я тады адно смяялася з дзядзькі: хай, думаю, пажартуе — не разумела ж яшчэ нічога. А цяпер дык наскрозь яго бачу: так і з'еў бы мяне вочкамі, кот памыйны!.. А жонка за яго ў сто разоў была прыгажэйшая. Дарма што крыклівая — не соладка ёй, відаць, з такім валацугам было, ад яго ж самога ўся і бяда... Вершы свае мне чытаў. Не спадабаліся: пыхлівыя нейкія... Пра каханне многа было... Ён яшчэ, свіння, і пра гэта мог... Дык ты сапраўднага бачыў?.. Пісьменніка?

— Бачыў, канечне. Да бацькі, бывае, прыходзяць.

*Заканчэнне будзе*

## ГУМАР



Мал. Яўгена ЦАРКОВА









Сяргей АЛЯКСЕЕЎ

# СКАРАЧЭННЕ ШТАТАЎ

*НЕНАВУКОВАЯ ФАНТАСТЫКА*

У шахце было цёмна, цесна і душна. Сяброўкі стаялі, шчыльна прыціснуўшыся адна да адной і нудзіліся ў бясконцым чаканні, а час «ч» ніяк не наставаў. Сяброўкам было прыкра і сумна, а тут яшчэ невядома адкуль пайшла пагалоска — маўляў, там, наверсе, вырашылі іх роўна ўдвая скараціць. Ну і, само сабой, усхваляваліся яны. Гэта нават у самым ціхім калектыве паспрабуйце штатны расклад крануць — жах што пачынаецца! А тут, дзе і без таго сітуацыя дужа выбуховая...

Аднак па парадку. Спачатку сяброўкі крычалі ўсе разам, але неўзабаве сціхлі і сталі гадаць, што іх чакае і хто стане абранніцай горкага лёсу. Адна з маладзейшых сказала:

— Ну што ж, я думаю, пачнуць са старых, яны маральна састарэлі.

— І не спадзявайцеся, любачка! — з запалам сказала саслужывіца пачцівага ўзросту.— Мы, ветэраны, ужо няраз правераныя, а што ў вас у галаве?..

— У нас ва ўсіх у галаве адно і тое ж.

— Ды толькі ў розных колькасцях! Такіх, як вы, і дзесятка не хопіць, каб мяне замяніць.

— Вы абедзве памыляецеся,— уступіла ў спрэчку статная прыгажуня.— Поспех у нашай справе вызначаецца пастаўленай мэтай. Мая задача ўсім вядомая, а вы куды нацэленыя? — І, не пачуўшы адказу, дадала: — А я да таго ж яшчэ і сама наводжуся. Ды што і казаць, вас усіх даўно пара...

— Але толькі не мяне! — не вытрымала рыжая таўстуха.— У мяне чацвёра дзетак, куды ж іх, на вуліцу?!

А з іншых кутоў крычалі:

— Мы маладыя спецыялісты!

— Я засакрэчаная!

— Я — апошняе слова навукі!

І ў гэтым неверагодным гвалце нехта ціха, але выразна сказаў:

— А я за мір.

Усе знямелі ад такой дзёрзкасці. І азірнуліся. Маленькая, уся аблезлая недарэка спакойна паўтарыла:

— Але, я за мір.

О, што тут усчалося! Крыкі, енкі, стогны!.. Аднак недарэка ўпэўнена перачакала, пакуль выкажуцца абураныя каляжанкі, і растлумачыла.

— Ну а зараз уявіце: вы стартавалі, прыляцелі, зруйнавалі... І вашае жыццё скончанае! А ці не разумней будзе заставацца на месцы і ведаць, што ўсе калоцяцца перад вашай сілаю?

Вось тут ей ніхто не запярэчыў. І праўда ж...

А недарэка працягвала:

— Але часы не тыя. Тут, у шахце, нас, як мышэй, пераловяць. Разлятацца нам трэба, сяброўкі! Ну, а пасля завіснуць дзе-небудзь у космасе і наводзіць на іх жах.

Разлятацца? Але як гэта зрабіць? Камп'ютэр жа ім непадуладны.

А недарэка сказала:

— Я і гэта прадумала. Няхай хто-небудзь самы вопытны сабой ахвяруе. Узарвецца, мы і ўзляцім.

Такая прапанова ўсім здалася разумнаю, і грамада з надзеяй паглядзела на саслужывіцу пачцівага ўзросту — ёй губляць менш за ўсіх, а зараду ў яе хопіць.

Аднак старая сарамліва прызналася:

— Я і рада б была зрабіць вам паслугу, ды крытычнай масы ў мяне не хапае.

Усе адразу затужылі, а недарэка сказала:

— Нічога, дайце тэрмін, я што-небудзь прыдумаю,— і змоўкла...

Як раптам расчыніўся люк, і ў шахту па сакрэтнай лесвіцы спусціўся іх любы начальнік. У былыя часы ён з імі весела жартаваў, паляпваў па спінах, зафарбоўваў іржу, а тут... Непаголены і змрочны, начальнік цяжка ўздыхнуў і стаў скручваць з сяброўак боегалоўкі, з усіх запар. Калі ён падышоў да недарэкі, тая ўздрыгнула ад жаху — нябога, ён жа ў цывільным! Дзе вайсковая форма, дзе знакі адрознення?!

Але рыпнула разьба, і не стала чым думаць.

**Пераклаў з рускай Алесь ЖГІРОЎСКІ**



Ірына БАГДАНОВІЧ

## ЛЮСТЭРКА-ТРЫПЦІХ

1

Пакутны сон, пакутны успамін.
Завешанае палатном люстэрка.
І шлях уніз па столках дамавін —
Шлях угару па лесвіцы паверхаў.
Знаёмы шлях па вулачках глухіх,
Барочнаю аздобай апавітых.
На ацалелых камяніцах тых
Блішчаць самотна кроплі «акавіты».
І я піла, забыўшыся імя,
Вытокі роду ўласнага забыўшы...

2

Маўчалі глуха могілкі.
Палі
Атручаным калоссем гаманілі.
Маўчалі тыя, хто сказаць маглі,
І пышнасловы многа гаварылі
Пра шлях прамы вялікіх перамог,
Гарбаціны зароўнівалі дбайна.
І пастугова страчваючы зрок,
Мы бачылі не сувязі, а тайны.
Губляўся сэнс усіх падзей і з'яў,
Драбніўся свет суцэльны на асколкі.
Іх перабраўшы, нехта тыя ўзяў,
Каб свет без іх быў грудай сколкаў
толькі.

3

Шукаю сны, шукаю свой язык,
Што моваю гаворыць паслухмянай.
Адточваю на боль няўласны слых.
Куток люстэрка праціраю цьмяны,
Край палатна адвёўшы, а за ім...

Якой бліскучай бачыцца паверхня!
Ёсць шлях уніз па столках дамавін,
Шлях угару па лесвіцах паверхаў.

## НЯМІГА

Няміга, сляпое бяссонне,
І доўжыцца, доўжыцца дзень.
Адвечная цемра, бязмоўе,
А нітачка выйсця — ў людзей.
Князёўна, гарэза, малая
Блакітная стужка зямлі,
Цябе, трапяткая, жывая,
За што затачылі, звялі!
Нашто! Каб не помніў нашчадак
Адкуль ён і род наш адкуль!
Няміга, ты памяць, пачатак,
Прамацерка нашых матуль.
Спачатку Нямігу, а потым
І род наш няцяжка — на звод!!
Няміга, бяссонне, маркота,
Ўсяслававых коней намёт.

Тут шыльды другой не прыбілі
На месцы магільным тваім,
Пакуль тваёй назвы нязбылі,
Яшчэ на табе мы стаім,
Князёўна, прамацер, Няміга,
Нябачная новым вякам,
Нібы старадаўняя кніга,
Ужо недаступная нам.
Які цябе вылечыць лекар!
Я чуйна імгненні лаўлю,
Як ты разрываеш калектар
І ў душу ўцякаеш маю.

Часам бывае так, што Ірына Багдановіч мые посуд а першай гадзіне ночы. Чалавек яна вельмі заняты: то пасяджэнні і сходы ў Інстытуце літаратуры Акадэміі навук БССР (там Ірына, кандыдат навук, працуе), то занняткі ў архівах і бібліятэках, то літаратурныя вечары і сустрэчы... А яшчэ і хатні клопат. І ўсё ж Ірына знаходзіць час для вершаў. Не часта, але друкуе іх у часопісах і газетах. У 1985 годзе выйшаў зборнік яе вершаў «Чаравікі маленства».



## КАХАННЯ ЛІСТ І ЗОЛАТА СУСТРЭЧЫ

Кахання ліст і золата сустрэчы.
Сарвецца ліст, як стане залатым.

Заўсёды сум агортвае па тым,
Што ты калісь паспешліва скамечыў.

Дыхні, любоў, бязмежжам вышыні,
Змані ізноў. Як некалі, паверу
Бурштынавай тваёй харашыні —
Яе людзям скупенькі хтось адмераў.

Перакрыжуй мой летуценны быт,
Благаславі на працу да знямогі,
А сэрца, як маленечкі магніт,
Ты прычаруй навечна да дарогі.

Мне нагадай аб часе прастаты,
Калі ніхто не думаў аб заганах.
Вандроўнік, не маўчун і не святы,
Мяне вадзіў па продкавых курганах.

Вандроўнік, не маўчун і не святы...
Пяшчоту рук дагэтуль помняць плечы.
Расстанне з нас ніхто не запярэчыў.
Сарвецца ліст, як стане залатым.
Кахання ліст і золата сустрэчы.

✦ ✦ ✦

Няўжо каханне праміне
Няўлоўнаю чароўнай птушкай,
І зажыве вакол мяне
Пустэча з назвай раўнадушша!

Няўжо пад маскамі падзей
З усмешкай вяла-вінаватай
Не прыйдзе светлая з надзей:
Ты па-ранейшаму крылаты,

І па-ранейшаму ляцім
З табою мы ў прадонне часу.
Шкада нам толькі тых мясцін,
Што мы не ўбачылі ні разу.

Шкада нам толькі тых людзей,
Якіх з сабою не ўзялі мы,
Каб ім таксама быць шчаслівым...

Неўтаймаваная з надзей.
Калі адчаем лёс кальне,
Чаму цябе прыемна гушкаць!

Чароўнаю няўлоўнай птушкай
Няўжо каханне праміне!..



## У АБ'ЕКТЫВЕ—

## ЮГАСЛАВІЯ







Фотарэпартаж
Юрыя ІВАНОВА



## БЕГ ЧАСУ




































Цана 25 кап. Індэкс 74824




















ПРАЗ ГАДЗІНУ Я БЫЎ У ІНСТЫТУЦЕ ЧАСУ.















ТАМУ І ПРАСОЧВАЛІСЯ ДА НАС РОЗНЫЯ ПРЫШЭЛЬЦЫ З МІНУЛАГА І БУДУЧЫНІ... КАЖУЦЬ, ЦЯПЕР ГЭТАМУ КАНЕЦ...

АЛЕ Я Ў ГЭТЫМ НЕ ЎПЭЎНЕНЫ...

